## Галоўныя з прыкмечаных памылак друку.

| Старонка | Радок | Дзе надрукована | Надрукована | Трэба было |
|---|---|---|---|---|
| 21 | 17 | зьверху | polifolia L. | poliifolia L. |
| " | 44 | " | Subbicolor | subbicolor |
| " | 50 | " | Pinussilaestris | Pinus silvestris |
| 23 | 2 | " | Aeroceadium | Acrocladium |
| " | 8 | " | Gartn | Gärtn |
| " | 21 | " | Banlke | Banks |
| " | 22 | " | juniperum Wild. | juniperinum Willd |
| " | 24 | " | Wild | Willd |
| " | 28 | " | pralustris | palustris |
| 25 | 12 | " | schreoberi | schreberi |
| " | 19 | " | Hydropiper | hydropiper |
| " | 27 | " | franqula | frangula |
| " | 29 | " | hydrolapatrum | hydrolapathum |
| " | 35 | " | Trientali luropaea | Trientalis europaea |
| " | 36 | " | palutsre | palustre |
| " | 2 | зьнізу | Dryopteris | dryopteris |
| 26 | 6 | зьверху | Philiberti | philiberti |
| 28 | 5 | зьнізу | Монаграфічна | Картаграфічна |
| 32 | 22 | " | " | пікет № 67/3 |
| " | 9 | " | Rolytichum | Polytrichum |
| 58 | 14 | " | Comorum polustre, Calla po- | Comarum palustre, Calla pa- |
| " | 15 | " | Calix | Salix |
| " | 12 | " | Sallix... Bitula virrucosa | Salix... Betula verrucosa |
| " | 22 | зьверху | Calamagroctis | Calamagrostis |
| " | 16 | зьнізу | polustre | palustre |
| " | 15 | " | Calix | Salix |
| " | 13 | " | populus | Populus |
| " | 12 | " | Salicx | Salix |
| " | 11 | " | polustre... Calomagrostis lanceolatar | palustre... Calamagrostis lanceolata |
| 64 | 2 | " | verwersten | verwesten |

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

ПРАЦЫ БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧАГА ІНСТЫТУТУ СЕЛЬСКАЕ і ЛЯСНОЕ ГАСПАДАРКІ імя Ў. І. ЛЕНІНА пры СНК БССР

Том XII МЕНСКАЯ ЦЭНТРАЛЬНАЯ БАЛОТНАЯ СТАНЦЫЯ Вып. 14

М. В. ДАКУКІН

пры ўдзеле супрацоўнікаў Менскай Балотнай Станцыі Ў. У. АДАМАВА, А. П. БЯЛЬКЕВІЧА, М. А. ДУБРОЎСКАГА, Б. А. ГАНЖЫ і А. А. НЕМЧЫНАВА



# БАСЭЙН р. ТАЛЬКІ

## ГЛЕБА-БАТАНІЧНАЕ і ЭКАНАМІЧНАЕ АПІСАНЬНЕ



ТРУДЫ
НАУЧНО-ИССЛЕДОВАТЕЛЬСКОГО ИНСТИТУТА СЕЛЬСКОГО и ЛЕСНОГО ХОЗЯЙСТВА имени В. И. ЛЕНИНА при СНК БССР

Минская Центральная Болотная Станция

М. В. ДОКУКИН
при участии сотрудников Минской Болотной Станции В. В. Адамова, А. П. Белькевича, М. А. Дубровского, Б. А. Ганжи и А. А. Немчинова

**БАССЕЙН р. ТАЛЬКИ**
**почвенно-ботаническое и экономическое описание**

BULLETIN
OF THE WHITE RUTHENIAN LENIN'S AGRICULTURE—AND—FORESTRY SCIENTIFIC—RESEARCH—INSTITUTE OF THE SOVIET OF PEOPLE'S COMMISSARIES OF W.-R. U. S. S. R.

The Minsk Central-Moorrish Experiment Station

M. V. DOKUKIN
in collaboration of V. V. Adamoff, A. P. Bielkievitch, M. A. Dubrovsky, B. A. Gansha, and A. A. Niemchinoff

**BASIN OF THE RIVER TALKA**
**A Geo—botanic and Economic Description**

МЕНСК — MINSK
1929 г.





# УСТУП.

Работа па абсьледаваньню балот у басэйне ракі Талькі, Пухавіцкага раёну Менскае Акругі выклікана тым, што ў гэтым раёне мяркуецца організацыя калёнізацыйнага фонду на балотах.

Яшчэ да высьвятленьня плошчы тутэйшых балот, каштоўнасьці іх для культуры, абжываньня іх мясцовым насельніцтвам і мажлівасьці скарыстаньня для колёнізацыі, тут былі распачаты вялікія працы па рэгуляваньню ракі Талькі і ўвядзеньню ў новае штучнае рэчышча яе прытоку Суцінкі. Праводзіліся таксама распачатыя ў 1926 г. значныя гідратэхнічныя вышуканьні.

Факт разьвіцьця гідратэхнічных работ і вышуканьняў прымушаў да таго, каб безадкладна былі высьветлены мажлівасьці актываньня ўкладзенага ў гэтыя работы капіталу.

У верасьні 1927 году Менскі Акруговы Зямельны Аддзел даручыў правядзеньне глеба-батанічнага і эканамічнага дасьледаваньня, ахопленага гідратэхнічнымі работамі і вышуканьнямі раёна, Дырэктару Менскай Балотнай Станцыі М. В. Дакукіну, якім і была організавана дасьледчая партыя ў складзе: У. У. Адамава, А. П. Бялькевіча, Б. А. Ганжа, М. А. Дуброўскага і А. А. Немчынава.

Па дагавору з Акруговым Зямельным Аддзелам дасьледваньне павінна было ахапіць 10.000 гэктараў балот, якія прылягаюць да вёскі Суціна, з якіх 5.000 гэкт. падлягалі дэталёваму дасьледваньню, а на астатніх 5.000 гэктарах належала правесьці рэкогносцыровачнае абсьледаваньне.

У працэсе работы высьвятлілася неабходнасьць абсьледаваньня больш абшырнага раёну, ахопленага гідратэхнічнымі і часткова земляўпарадкаваўчымі вышуканьнямі.

У выніку партыяй дэталёва дасьледавана каля 28.100 гэктараў балот, а ўся плошча, ахопленая глеба-батанічна-эканамічнымі дасьледаваньнямі, складае каля 50.200 гэкт.

Работа праходзіла ў вельмі цяжкіх умовах. Прыступілі да працы ў полі каля 20 верасьня, партыя скончыла яе каля 20 лістапада. Праца праходзіла познай восеньню, якая прадстаўляе ўсе нясприяючыя варункі для працы такога характару.

Праца падзялялася на дзьве часткі:

## I. Прырода-гістарычнае дасьледаваньне балот.

Гэтая частка працы мела сваёй мэтай даць клясыфікацыю балот дасьледуемага раёну па іх ботанічнаму складу (жывая расьліннасьць і торфаўтворнікі) уласьцівасьцяў глебы, ступені прыгоднасьці і каштоўнасьці для культуры.

Дасьледаваньне праводзілася па пікэтажу, які меўся на месцы, пры чым рабілася падрабязнае апісаньне стану паверхні балота, расьліннасьці, праводзілася бурэньне торфу з выняцьцем абразцоў торфу пры вядомай градацыі, апісваліся якасьці торфу розных пластоў, а таксама падглебавых пластоў; дасьледаваліся якасна і колькасна купіны; праводзілася ацэнка цяжкасьці карчаваньня розных тыпаў расьліннасьці (дрэў, хмызьняку), высьвятлялася колькасьць, гушчыня разьмеркаваньня і глыбіня заляганьня драўляных астач у торфе.

Сабраныя ўзоры торфу былі дасьледаваны ў лябораторыі на ботанічны склад і ступень раскладзенасьці.

Палявыя землі, прылягаючыя да балот, таксама былі дасьледаваны, пры чым зроблена была неабходная колькасьць шурфоў.

У выніку працы ўся ахопленая дасьледаваньнем мясцовасьць нанесена на тры мапы, на якіх дасканала вызначаны тыпы і падтыпы балот, якія былі выяўлены ў працэсе працы, і іх культуртэхнічная каштоўнасьць. Гэтая частка працы дае магчымасьць скласьці плян колёнізацыі бяз выезду на месца.

## II. Эканамічнае дасьледаваньне.

Пры эканамічным абсьледаваньні партыя карысталася двума мэтадамі: а) аб'езд, абход, агляд і апытаньне; б) выкарыстоўваньне гатовага матэрыялу пасялённых падатковых сьпісаў і апытальных лістоў.

Тыя цяжкасьці, якія спаткаліся пры выкананьні гэтае працы, адзначаны ў тэкставай частцы даннае працы. У выніку мы маем апісаньне раёну, якое дае агульны малюнак яго эканамічных магчымасьцяй, а таксама адбіта эканоміка раёну ў лічбах.

Высьветлена значная стракатасьць раёну па ступені забясьпечанасьці зямлёй, вялікія лішкі зямельнае плошчы ў некаторых сяленьнях і агульная экстэнсіўнасьць і беднасьць гаспадаркі, зьвязаная з яскрава вызначанай праспалосіцай.

Па сканчэньні земляўпарадкаваўчых работ магчыма будзе, на падставе прадстаўленае працы, скласьці плян калёнізацыі і каштарыс выдаткаў на культуру балот.

Мы імкнуліся ў гэтай працы даць магчыма-дасканальную фотаграфію прыроды балот і эканамічных умоў басэйна р. Талькі, і мяркуем, што дасканалы адбітак даволі значнага балотнага раёну, акрамя практычнай непасрэднай службы, будзе мець і больш глыбокую цікавасьць.

У сучасную пераходную шмат у чым эпоху мы стаім і ў галіне культуры балот на рубяжы двух пэрыодаў.

У бліжэйшыя гады, бязумоўна, культура балот атрымае магчымасьць шырокага разьвіцьця на Беларусі, таму што паступова зжываюцца тормазы, якія рабілі да гэтага часу шырокае разьвіцьцё культуры балот немажлівым: дарагоўля мінэральных угнаеньняў і неземляўпарадкаванасьць.

Маючы дасканальную фотографію эканомікі і прыроды басэйна р. Талькі, мы будзем мець магчымасьць праз некаторы час, на працягу якога культура балот зробіць вядомыя посьпехі ў гэтым басэйне, зрабіць наступнае дасьледаваньне і дасканала высьвятліць, якія зьмены быту і эканомікі вядзе за сабой культура балот у тых раёнах, дзе яны займалі каля 50 проц. усяе тэрыторыі.

Што датычыцца разьмеркаваньня працы паміж памянёнымі вышэй удзельнікамі экспэдыцыі, дык яно было наступнае:

1) Агульнае апісаньне раёну складзена Б. А. Ганжой.

2) Гідраграфічны нарыс, а таксама натуральна-гістарычнае і культуртэхнічнае апісаньне балот складзена М. В. Дакукіным у супрацоўніцтве з А. П. Бялькевічам і А. А. Немчынавым, пры ўдзеле Ў. У. Адамава (азначэньне кветкавых) і Г. І. Леанкевіч (азначэньне споравых).

3) Разьдзел аб выніках эканамічнага абсьледаваньня складзены М. А. Дуброўскім.

4) Тры мапы балот ступені раскладзенасьці торфу і кошту распрацоўкі былі зроблены пад маім кіраўніцтвам А. П. Бялькевічам і А. А. Немчынавым.

5) Памяншэньне 4 мапаў да маштабу 4 кілёмэтраў у 1" зроблена ст. гідратэхнікам А. Ф. Багдановічам.

16/IV—28 г.

**М. В. Дакукін.**

# I. Арагідраграфічны нарыс басэйна ракі Талькі.

Рака Талька належыць да рэк чацьвёртага парадку, знаходзячыся ў сыстэме—Сьвіслач, Бярэзіна, Дняпро.

На 20-вёрстнай гіпсамэтрычнай мапе Палесься р. Талька адзначана няправідлова. Сапраўдны яе працяг і палажэньні такія: пачатак ракі ў 3 кілёмэтрах на поўнач ад фоль. Вілень. 14 кілёмэтраў яна цячэ на поўдзень праз абшырныя балоты і на большай частцы гэтага кавалку перароблена ўжо даўно ў каналы, якія-б і да гэтага часу дзейнічалі, калі-б не язы і пераезды з хворасту. Далей р. Талька зьмяняе свой напрамак і робіць дугу, працякаючы спачатку на Паўднёва-Ўсходні, а потым на Паўночна-Ўсходні і Паўночны напрамак, маючы выгляд ужо значнай рэчкі—спачатку 3—5 мэтраў шырыні, а ў канцы—каля 20 мэтраў.

У гэтым кавалку яна цячэ ў параўнаўча вузкай лагчыне ў 0,5—1,0 кілёмэтраў шырынёй і яе сузгібы месцамі спрамлены. Працяг гэтага другога кавалку 21 кілём. Такім чынам, агульны працяг р. Талькі—35 кілёмэтраў.

Праз увесь час яна цячэ ў нізкіх балоцістых берагох, але шмат дзе яе забалочаная лагчына звужаецца да 0,5 кілёмэтра. На сваім прабегу яна прымае ў сябе цэлы шэраг дробных раўчачкоў, з якіх больш вядомы і ў 1927 г. выпрамлены раўчак пад назвай Суцінка, які выцякае з балот на ўсход ад ак. Суцін.

Географічнае палажэньне сярэдняга пункту басэйна р. Талькі—2° заходняй даўжыні ад Пулкава і 53°20′, Паўночнай шырыні. Басэйн уваходзіць у дзьве адміністрацыйныя акругі: Менскую і Бабруйскую і цягацее да двух чыгуначных станцый Заходняй чыгункі—Талька і Пухавічы, ад якіх найбольш адлеглыя часткі басэйну ляжаць не далей як на 15 кілёмэтраў.

Плошча басэйна р. Талькі складае 41.110 гэктараў. У гідраграфічных адносінах, цікава адзначыць, палажэньне басэйна—між двух роўналежных бягучых рэк—Сьвіслачы і Пціча, якія ў гэтых кавалках зьбліжаюцца між сабой да адлегласьці 20 кілёмэтраў. Розьніца абсалютных вышынь Пціча і Сьвіслачы не перавышае, напэўна, 5 мэтраў, прычым Пціч ляжыць вышэй Сьвіслачы, пагэтаму вада, якая на некаторых частках басэйна разьліваецца па паверхні дзякуючы разьлівам Пціча, мае магчымасьць паступова сьцякаць у Сьвіслач.

Натуральным водапрыемнікам для балот басэйна р. Талькі зьяўляецца пагэтаму р. Сьвіслач, а р. Пціч, наадварот служыць прычынаю падтопу.

Водаразьдзельную лінію паміж Пцічом і Талькай правесьці цяжка, шмат дзе яна ўмоўна таму, што праходзіць па нязначаных прыгорках сярод балотных раўнін.

Сярэдняя вышыня басэйна над паверхняй акіяну—160 мэтраў.

Увесь масыў прадстаўляе сабой такі выгляд: 51% плошчы занята пяскамі альбо лёгкімі супесямі, распаханымі, ці занятымі хваевым і мешаным лесам. Гэтыя глебы раскінуты розных разьмераў выспамі сярод балот і толькі ў Паўночна-Заходнім вуглу басэйна часткі іх паднімаюцца на 10—20 мэтраў над паверхняй балот. На рэшце тэрыторыі мінэральныя выспы паднімаюцца звычайна на 5—10 мэтраў над узроўнем балот. Арэалы мохавых балот ляжаць на 2—3 мэтры вышэй нізінных.

Махавыя сфагнавыя балоты займаюць 18% паверхні басэйна, пераходныя—22% і нізінныя 9%.

Падзеньне ракі Талькі ад вытаку да ўтоку на пранягу 35 кілёмэтраў раўняецца 12 мэтрам, што дае ўхіл 34 смэт. на 1 кілёмэтр ці 0,00034.

Папярэчныя ўхілы басэйна выступаюць вельмі нявыразна і не дасягаюць значных велічынь.

---

# II. Агульнае апісаньне раёну.

Дасьледаваныя балоты займаюць вялікія прасторы ў басэйнах рэк Талькі і Пцічы. Балоты знаходзяцца ў раёне пяшчаных глебаў. Шлях ад мястэчка Талькі да ваколіцы і сяла Суціна, якія зьліліся ў адно паселішча, праходзіць па некалькі няроўнай мясцовасьці. Уздымы невялікія і дасягаюць у крайніх выпадках 2—3 мэтраў. Пераход да нізін, у большай частцы забалочаных і маючых невялікі пласт торфу і багаты гумусам чорны гарызонт, які падасланы звычайна белым буйназярністым пяском і дзе-ні-дзе раскінутымі на невялікай глыбіні іржавымі плямамі, праходзіць павольна. Здаецца, што гэтыя нізіны знаходзяцца на адным ўзроўні з полем.

Глеба поля пяшчаная, няглыбокая. Гумусавы гарызонт цёмна-шэрага колеру з лёгкім бураватым адценьнем. У сухім стане гэтая глеба павінна мець сьветла-шэры колер. Камякоў на апрацаваным полі няма, склад падзельна-зярністы. Гумусавы гарызонт мае глыбіню 4—5 вяршкоў, крута абрываецца і падсьцілаецца жоўтым пяском. У разрэзах па канавах і кар'ерах не заўважана яскравага ападзольваньня. Колькасьць валуноў на паверхні поля вельмі рознастайна. Месцамі валуноў зусім няма, месцамі-ж яны густа засьцілаюць поле. Іншы раз знаходзяцца каменьні і вельмі вялікіх разьмераў. Характарна, што ў некаторых мясцох пры ворыве плуг даставаў жоўты пясок і вываручываў яго на верх.

Усё поле падзелена на палосы, якія ў сваю чаргу падзелены глыбокімі разорамі на градкі шырынёю 2,5—3 мэтраў—гэта звычайны страх вымаканьня пасеваў. У полі відаць азімае жыта, грэчка і бульба. Сяўба збожжавых усюды ручная. Жыта няроўнае і здаецца радковым.

Грэчка мае мізэрны выгляд—рэдкая і нявысокая. Пры ўборцы вырываецца з карэньнем, якія потым адразаюцца.

Бульба, пасаджаная на гнаі, мае здавальняючы выгляд і абяцае ўраджай ад 400 да 700 пудоў на розных палёх, мяркуючы па сіле бацьвіньня. Зроблены вучот ураджаю ў Суціне падцьвердзіў гэта меркаваньне.

На ўбраных палёх іржышча тонкае і рэдкае, сьмяцьцёвай расьліннасьці вельмі мала, яна не рознастойна па складу і мае марны прыгнечаны выгляд.

Напатыкаюцца даўно закінутыя палі, якія нават ужо парасьлі сасновым лесам узросту 30—40 год. Сустракаюцца па шляху лясы—сасна з прымешкай бярозы. Елка трапляецца выпадкова. Прырост сасны 10—12 вяршкоў. На больш нізкіх мясцох—кусты дуба, алешніку і рабіны.

Да ракі Талькі паступова робіцца спад. З пачатку ідзе па балоту з чорным торфам моцны лес з дрэвамі прыблізна да 20 мэтраў вышыні (сасна, алешка і бяроза), потым пасьля рэзкай напэўна штучнай мяжы—сенажаць па балоту. На другім баку ракі лесу няма. У рэгуляванай рацэ вада стаіць на рознай глыбіні ад паверхні. Там, дзе зроблены выпрамленьні і відаць сьвежыя адкосы, вада знаходзіцца на глыбіні 70—100 сант.

Суціна, сяло і ваколіца, у складзе звыш 200 двароў, робяць добрае ўраджаньне.

Большай часткай, хаты і надворныя будынкі маюць добры выгляд, але ўсё ж сустракаецца ня мала і бедных хацёнак разьмерам 6×7 і 7×8 аршын з дзіравымі стрэхамі.

Сялібы здаюцца абшырнымі, што не заўсёды адпавядае сапраўднасьці, таму што зямля прылягаючая да хаты часта бывае падзеленай на некалькі вузкіх палос, якія належаць да розных гаспадарак. К паселішчу з аднаго боку падыходзіць балота, па краю якога праходзіць забалочаная і заглушаная рэчка Суцінка, якая ў сучасны момант каналізуецца. Гэты вялізарны балотны масыў, які займае плошчу звыш 6000 гэктараў.

Палі Суціна, прылягаючыя да паселішча, маюць надзвычайны выгляд. Здаецца, што палі разам з жылым месцам прадстаўляюць сабой поўвыспу, абкружаную балотамі і маючую надзвычайна складную лінію берага. Непасрэдна навакол паселішча пахатнае зямлі мала. Тут знаходзіцца тое, што жыхары Суціна завуць сваім грунтам і хлебнай базай. Гэтыя палі даюць суцінцам збожжа і бульбу. Галоўныя землі Суціна, так званыя „палі", знаходзяцца вярстах у 6—12. „Палі" займаюць вялікую плошчу. Па словах жыхароў, гэтыя „палі" змаглі-б задаволіць яшчэ два Суціна, але бяда ў тым, што гэтыя „палі" прадстаўляюць сабой сыпучыя альбо амаль што сыпучыя пяскі.

Ураджай жыта ў 12 пудоў з дзесяціны лічыцца добрым для гэтых „палёў". Тут з 15 дзесяцін зямлі аднае гаспадаркі засейваецца штогодна толькі каля дзесяціны. Апісаньне глебы гэтых палёў будзе падана ніжэй.

Землі каля Суціна, яго хлебны фундамант, прадстаўляюць сабой некалькі няроўную (па рэльефу) паверхню з пяшчанай сярэдня і буйназярністай глебай. У разрэзе цёмна ахварбаваны гарызонт мае слой 4—5 вярш., адразу абрываецца і далей ідзе жоўты пясок. Ападзольваньне нязначнае. Зярністасьць пяска вар'іруе, але больш дробны сустракаецца на вышэйшых мясцох. Узвышшы гэтыя вельмі нязначныя і хістаюцца ў межах некалькіх мэтраў. Вялікае і дробнае каменьне на паверхні і ў падглебным пласту разьмеркаваны вельмі неаднолькава: у іншых мясцох іх шмат, у іншых зусім няма.

Характэрна такое зьявішча: на пасевах жыта і пшаніцы заўважваецца сартыроўка глебы; у маленькіх ямачках і барозначках ад зуб'я бараны адкладваецца адмыты буйны пясок, так што поле здаецца быццам заслана лёганькай, асабліва-размалёванай вуальлю.

Зямля падзелена на палосы, палосы падзелены на градкі, як апісана вышэй. Драбленьне зямлі ня вельмі значнае. Так, напрыклад, гаспадар, які мае тут дзьве дзесяціны зямлі, мае шэсьць кавалкаў, г. зн., у сярэднім, адзін вучастак займае 800 кв. саж.

Сталага севазвароту няма. Гной у значным разьмеры кладзецца раз у 3 гады, пераважна пад бульбу. Сеецца, галоўным чынам, азімае жыта, авёс, бульба, пшаніца, грэчка, потым, акрамя ўсякай сыстэмы,— гарох, лён і інш. Сустракаюцца вучасткі поля, якія не разворваюцца ўжо 3—6 год. Па агляду, бульба ў палёх дробная. Сярэдні куст дае 12 бульбін—агульнай вагой, прыблізна, каля 600 грамаў. Можна лічыць, што ўраджай магчымы ў межах 500—600 пудоў. На большай частцы грэчаных палёў выгляд пасева такі, што можна чакаць 3—5 пудоў з дзесяціны. Некалькі незразумела, што на некаторых такіх плантацыях відаць выпаханы пасьля жыта гной, які яшчэ не разлажыўся. Толькі два вучасткі грэчкі давялося бачыць у здавальняючым стане, якія абяцалі ўраджай у межах 20—30 пудоў. Жытныя палі ня робяць

добрага ўражаньня. Жыта яшчэ нідзе ня кусьціцца (25 верасьня). Усходы неаднастайныя. Месцамі ўсходаў яшчэ няма, а месцамі яшчэ толькі вывозіцца гной пад жыта.

Канюшына ў палёх ня сеецца. Невялікі кавалачак лубіну, які прышлося бачыць, паказваў недастатковае мінэральнае харчаваньне лубіну. Як удалося ўстанавіць апытаньнем, лубін добра ўдаецца толькі ў тых мясцох, дзе няглыбока знаходзіцца гліна—на 70—100 см. ад паверхні. Такі вучастак поля пры аглядзе знойдзены к захаду ад паселішча і займае невялікую плошчу ў 20—30 дзесяцін. Гліна, альбо гліністы мэргель з багатымі ўключэньнямі вапны, тутака ці падыходзіць да паверхні см. на 70, ці глыбока нырае ўніз.

На самых нязначных паніжэньнях рэльефу рэзка адчуваецца працэс забалочваньня. Гэткія забалочаныя сенажаці, раскіданыя сярод палявых зямель, займаюць каля 30 проц. плошчы, якая непасрэдна прылягае да Суціна. Тут ужо ясна выдзяліўся пласт торфу ў іншых мясцох тонкі ў 7—10 см., у іншых мясцох знаходзіцца да 30—40 см. Пад торфам ляжыць чорны пласт пяскоў, якія прасякнуты гумусам магутнасьцю 12—15 см., і глыбей—белы, буйна-зярністы пясок, на некатораймы нязначнай глыбіні ад пачатку гэтага пласта (20 см.) прасякнуты іржавымі плямамі (ападзольваньне і змываньне). На гэткіх тарфяністых вучастках расьліннасьць не аднастайна. Там, дзе ня відаць застою вады, расьліннасьць паходзіць на расьліннасьць добра вільготных пяскоў, там, дзе ёсьць адзнакі больш багатага пітаньня вадой і часовага застоя яе—расьліннасьць характэрная балотная з перавагай у травастоі асакі і суцэльнай коўдрай зялёных махоў. Частыя плямы сфагнавых махоў яскрава паказваюць на беднасьць падглебы і акаляючых пахатных зямель.

Агульнае заключэньне аб палёх, якія прылягаюць да Суціна, можна зрабіць у такім выглядзе: палі пяшчаныя, з падзельна-зярністай глебай слаба вызначанай водазатрымліваючай здольнасьцю гэта акалічнасьць месца, зьвязаная з наяўнасьцю падглебы, якая прапушчае ваду, робіць вадзяны ражым глебы ня стойкім і наогул ня спрыяючым. Палі слаба запраўлены арганічнай матэрыяй, якая хутка згарае, у выніку добрай аэрацыі адчуваецца значны недахоп у глебе вапны і іншых элемэнтаў пітаньня расьліннасьці.

Грунтавая вада, мяркуючы па вясковым студням, знаходзіцца на глыбіні каля 2 мэтраў на роўных мясцох.

Дзікая і сьмяцьцёвая расьліннасьць тут прадстаўлена наступнымі відамі.



А. На пахатных землях, на роўных мясцох:

Chenopodium album L.
Echinochloa crus galli P. B.
Gnaphalium uliginosum L.
Setaria glauca P. B.
Spergula arvensis L.
Vicia angustifolia Roth
Viola tricolor L.

Б. На бугарках і ня вельмі высокіх мясцох:

Erigeron canadensis L.
Filago arvensis L.
Myosotis stricta Lk.
Thymus serpyllum L.

В. На межах:

Achillea millefolium L.
Artemisia absinthium L.
Artemisia campestris L.
Potentilla argentea L.

Г. Па вільготных малакультурных яравых:

Agropyrum repens P. B.
Bidens tripartita L.
Echinochloa crus galli P. B.
Galeopsis tetrahit L.
Mentha austriaca Jacq.
Poa trivialis L.
Potentilla anserina L.
Raphanus raphanistrum L.
Setaria glauca P. B.
Sonchus arvensis L.
Spergula arvensis L.
Stellaria media Vill.

Тут-жа на межах:

Achillea millefolium L.
Agrostis vulgaris With.
Ranunculus acer L.
Ranunculis repens L.
Succisa pratensis Mönch.

Сустракаюцца некалькі павышаныя месцы, на якіх увесь склад расьліннасьці прадстаўлены адным—трымя відамі:
Corynephorus canescens, Gnaphalium uliginosum, Hieracium pilosella. Месцамі спатыкаюцца верашчатнікі.

Балота, якое праходзіць міма Суціна і якое адным бокам прылягае да яго, займае вялізарную плошчу і мае такую няправільную берагавую лінію, што цяжка больш-менш намеціць арыентыровачныя пункты для прыблізнага апрадзяленьня яго разьмераў.

З распросу жыхароў і ўказаньняў трохвёрстнай мапы вельмі цяжка намеціць пашыранасьць гэтага балотнага масыва. Пачынаецца ён недалёка ад Станцыі Асыпавічы, запаўняе вугал, які робіцца лініяй Заходняй чыгункі і Слуцкай веткай. Калі лічыць яго Ўсходняй мяжой сяло і засьценак Пратасэвічы, Слабодку і Рудню, дык адсюль балота ідзе на Паўноч. Зах. да ст. Вярэйцы, далей на Захад да заст. Усох, потым на Поўдзень да воз. Грамучага, адгэтуль мяжа яго зноў паварачвае на Ўсход уздоўж невялікіх узвышшаў, ня маючых назвы і насялёных пунктаў. Падыходзячы да вярховін рэчкі Сіняй, мяжа рэзка паварачвае на Захад і наступным арыэнтыровачным пунктам на паўночным краю балота і будзе вёска і ваколіца Суціна. Паўднёвая мяжа ад сяла Рудні ідзе па рэчцы Сініцы, далей праходзіць у трох кілёмэтрах на поўнач ад ст. Мязовічы. У гэтым месцы балота мае самую меншую шырыню, каля трох кілёмэтраў. Потым паўднёвая мяжа балота падыходзіць да с. Масеявічы, праходзячы на Поўнач ад сяла, а ад с. Крымок мяжа балота ідзе па рэчцы Пціч. Паміж сёламі Суцін і Крымок балота дасягае 6-7 кілёмэтраў у шырыню. Праходзячы цэлай паласой паміж Суціным і Крымком, балота паварачвае к Паўноч. Зах. займаючы плошчу паміж рэкамі Пціч і Талька. Тут яно называецца Зубель і Луцкі мох. Далей, праходзячы праз Клетна і Заржаву, Амельна і Любочын, дзе знаходзіцца сетка асушыцельных каналаў, пабудаваных Заходняй

Экспэдыцыяй, балота пад назвай „Мурашава“ (гарэлае, мохавае балота) расьсьцілаецца амаль што да Заходняй чыгункі на Поўночны Ўсход і да с. Сенча і Дуброўка на Поўночны Захад.

Прайшоўшы праз Амельна і Любочын, балота робіць зноў вялізарны масыў акруглае формы, які абмяжоўваецца з аднаго боку р. Пцічы, праходзіць далей за с. Гарэлец.

З гэтага апісаньня межаў балота можна скласьці толькі прыблізнае ўражаньне аб разьмерах і ачэртаньнях гэтага балотнага масыву. Асобныя часткі яго не падзелены натуральнымі альбо штучнымі межамі.

Назвы ўрочышч прадстаўляюць спробу раздрабленьня яго на асобныя часткі.

Дасьледаваньне расьліннасьці і глебы часткі балотнага масыву, які знаходзіцца ў карыстаньні сёл Суцін, Крымак, Юравічы і Жыцін—праводзіцца па базысным і папярэчным пікэтажным лініям, праведзеных пры гідратэхнічных дасьледваньнях.

Наўсьцяж Суціна, шчыльна падыходзячы да сялібаў, працякае р. Суцінка, якая ўліваецца ў р. Тальку. Яна пачынаецца сярод балота—паміж сёламі Крымак і Суціна. Рэчка Суцінка вельмі забалочана і цячэ ў тарфяным грунце; па абодвух бакох яе знаходзяцца балоты, якія скарыстоўваюцца ў якасьці сенажацяў. У дадзены момант гэта рэчка ўводзіцца ў новае штучнае рэчышча.

Па базыснай лініі „Б“, якая ідзе спачатку прама з Поўдня на Поўнач, а ад пікета 93—на Захад, знаходзіцца нізіннае балота; па лініі „В“ пераходнае і мохавае балота.

Тая частка балотнага масыву, якая служыць сенажацьцю для акалічных вёсак, робіць добрае ўражаньне. Гэта неабсяжная плошча, на якой драўляная расьліннасьць сустракаецца толькі па краёх і невялікіх мінэральных выспах. Гэтае балота прадстаўляе гладкую зялёную плошчу, усеяную тысячамі стагоў.

Па лініі „Б“, якая ідзе з Поўдня на Поўнач, пачынаючы каля ваколіцы Суціна, балота пачынаецца каля 28 пікету. Тут маецца рэдкая бяроза, якая памалу зьнішчаецца на адонкі для стагоў. Травяністая расьліннасьць прадстаўлена некалькімі відамі асок, галоўным чынам, Carex flava, да якіх у большай, ці меншай колькасьці прымешаны: Comarum palustre (сабельнік), Menyanthes trifoliata (бабоўнік), Mentha austriaca (сабачая мята), віды Ranunculus (люцікі), Salix repens (іва паўзучая) і інш. расьліннасьць нізкіх балот. Мохавы пакроў складаецца з прадстаўнікоў зялёных махоў (Drepanocladus intermedius, Climacium dendroides (распаўсюджаны нераўнастайна, у іншых мясцох дае суцэльную дзярніну, у іншых прадстаўляе толькі лёганькі налёт на паверхні торфу, альбо зьнікае зусім.

Глыбіня торфу хістаецца ў межах 1,25—1,75 мэтра. Ступень раскладзенасьці торфу ў паверхнім пласту—сярэдняя, месцамі-ж, дзе торф улетку значна падсыхае, ступень раскладзенасьці значна лепей і торф лёгка крышыцца ў руках. Куп'яў большаю часткай зусім няма; супраўды сказаць, што ўся паверхня балота цалкам заслана асобнымі купінамі, якія маюць ў вышыню ад 3 да 7 см. У некаторых мясцох, больш нізкіх—сустракаюцца і звычайныя травяныя куп'я, якія дасягаюць у вышыню да 15 см., але, будучы раскіданы рэдка, яны не прадстаўляюць аніякіх перашкод пры апрацоўцы.

У час агляду балота—вады на яго паверхні ня было. Грунтовыя воды стаялі на адным узроўні з тарфяным пластом. Атава асакі дасягала ў вышыню 30—40 см., але была рэдкаватай.

Ад пікета № 33 базысная лінія „Б" паварачваецца на Паўночны Захад пад тупым вуглом. Ад таго-ж пікета пачынаецца базысная лінія „В", якая ідзе ва ўсходнім напрамку, і для якой пікет № 33 лініі „Б" зьяўляецца нулявым. Лінія-ж „Б" ідзе да ракі Пціч, з якой яна сустракаецца ў пікета № 110.

Ад пікета № 33 па лініі „Б"—балота прадстаўляе дзіўную аднастайнасьць па характару паверхні, складу расьліннасьці, глыбіні і ступені раскладзенасьці торфу, а таксама і ўраджайнасьці сенажацяў. Паверхню балота магчыма лічыць зусім роўнай. Глыбіня торфу ня вышэй 1,75 мэтра. Ступень раскладзенасьці ў верхнім пласту вельмі добрая.

Дзярніна ня вельмі вязкая і лёгка размываецца. Драўлянай расьліннасьці зусім няма. Карчоў і пнёў у торфе зусім не заўважана.

Галоўная ў травастоі расьліннасьць наступная: Carex flava, Comarum palustre, Menyanthes trifoliata. Caltha palustris, Salix repens. Мохавая коўдра, дзе яна ёсьць, складаецца з зялёнага моху Drepanocladus intermedius.

Для вылічэньня рэнтабельнасьці культуры балот адным з паважных фактараў, зьяўляецца высьвятленьне ўраджайнасьці і якасьці сена, якое расьце на балоце ў дзікім стане. Па распытаньнях у мясцовых жыхароў выявілася, што дзесяціна балота дае ад 3 да 4 зімовых вазоў сена вагою ня менш 30 пудоў.

Такім чынам, ураджайнасьць трэба лічыць роўна 100—130 пудоў з дзесяціны. Але раскіданасьць стагоў на балоце (яны ўсе на месцы з прычыны таго, што вывазіць іх магчыма толькі зімой) і велічыня іх, параўнаўча з плошчаю сенажаці, надавала сумненьне ў такую добрую ўраджайнасьць.

Толькі выпадковасьць дапамагла ўстанавіць дакладную велічыню ўраджайнасьці. Сенажаць с. Юравічы падзелена на аднолькавыя простакутныя вучасткі. Пасярод кожнага вучастку стаіць стажок, пры гэтым усе яны, як быццам, аштампаваны аднэй формай. Тутака-ж знайшоўся адзін забыты і няскошаны вучастак. Вялікіх зьмен у колькасьці сена (з адзінкі плошчы) не адбылося з часу пакоса, з прычыны таго, што пацера сухога матэрыялу ў старой траве кампэнсуецца адросшай атавай. Плашчадка простакутнай формы мае ў даўжыню 78 мэтраў і ў шырыню 46,5 м., плошча яе раўна—3627 кв. м. На няскошанай плашчадцы было выжата тры дзялянкі па 1 кв. мэт. Вага сена з такіх дзялянак была наступная: 1-ая—190 гр., 2-ая—188 гр., 3-яя—172 гр.—у сярэднім 183,3 гр. Пры пераліку на гэктар гэта дае 1833 кгр., альбо 114,4 пудоў на дзесяціну.

Аднастайнае гладкае сенажатнае балота цягнецца па лініі „Б" да 70 пікета, маючы шырыню каля 6 кіл. Ад 70-га пікета пачынаецца балота с. Крымок. У складзе расьліннасьці тут няма значных зьмен. У стане паверхні балот адбыліся тыя звычайныя зьмены, якія звычайны для балотных выпасаў. Суцэльнай дзярніны няма, торф перамешаны нагамі жывёлы, дзякуючы чаму распад павярховага пласта торфу больш значны, чым на балотнай сенажаці. Куп'я яшчэ няма. Глыбіня торфу тут каля 1,75 мэт. Ад 72-га пікета ўзьнікаюць дзе-ні-дзе куп'я з алешкай і вярбой каравага выгляду. У гэтым месцы базысная лінія падыходзіць да мінэральных выпасаў, якія часткаю разораны, а часткай служаць месцам для адпачынку жывёлы. Выпасы цягнуцца да 87 пікета, але гэты выпас немагчыма лічыць хоць колькі-небудзь здавальняючым. Рэдкі травастой, які складаецца галоўным чынам з асок, нехаця паядаецца жывёлай і каля 75% асакі застаецца зусім някранутай жывёлай.

Вясной і пасьля працяжных дажджоў балота становіцца такім топкім, што жывёла правальваецца, і яе прыходзіцца выцягваць з гразі на больш цьвёрдае месца. Карысны эфэкт гэтай выпаснай плошчы трэба лічыць нікчэмным.

Ад 87-га пікету зноў пачынаюцца роўныя і чыстыя сенажаці, якія цягнуцца да самай ракі Пцічы, але па меры набліжэньня да апошняй, балота становіцца ўсё менш крэпкім. На паверхні паказваецца вада. Пападаецца дрыгва. Калі прабіць палкай верхні пласт расьліннасьці, які пакрывае дрыгву, дык далей палка ідзе як у ваду. Пад нагамі торф глыбока апушчаецца. Усе балотныя сенажаці вясной заліваюцца вадой. На балоце няма водаразьдзела паміж басэйнамі Пцічы і Талькі. Усё балота роўнае, уклоны малыя. А пагэтаму веснавая вада з ракі Пцічы цячэ на балота, а потым уходзіць праз раку Суцінку ў раку Тальку. Вясновыя паводкі цягнуцца да трох тыдняў.

У час агляду гэтай часткі балота (21 верасьня) у р. Пцічы вада стаяла роўна з торфам, пры чым глыбіня ў рацэ на адлегласьці 1 мэт. ад берага некалькі перавышала 2 мэтры.

Па базыснай лініі „Б", якая пачынаецца ад пікета № 33 лініі „Б", балота мае іншы характар. У нулявым пікеце гэтай лініі ніякіх асаблівасьцяй у складзе травяное расьліннасьці няма. Асаблівасьць гэтага пункту балота толькі ў наяўнасьці дзе-ні-дзе бярозы (Betula pubescens), якая гадзіцца для загароды. Бліжэй да пікета № 2 знойдзены два сфагнавых бугры дыямэтрам да 4-х мэтр. і вышынёй да 60 см., якія густа пакрыты журавінамі. За другім пікетам сфагнавыя махі складаюць ужо суцэльныя пятны, але не ўтвараюць яшчэ суцэльнае дзярніны. Сфагнум толькі лёгкім налётам засьцілае паверхню торфу.

Па меры прасоўваньня па гэтай лініі, характар расьліннасьці пачынае хутка зьменьвацца. Бярозка становіцца гусьцей, пачынае прымешваецца крушына Rhamnus Frandula і рабіна Sorbus aucuparia. Паказваюцца куп'я, пакрытыя сфагнумам і мохам зязюлькі разам з хмызьняковай расьліннасьцю. Ад пікету № 4 балота набывае яскравы характар дрэўна-хмызьняковай пераходнай расьліннасьці. Прасоўваньне па балоту становіцца цяжкаватым з прычыны гушчыні зарасьляў і куп'я.

У складзе дрэўнай расьліннасьці пераважае бяроза. Куп'я паступова павялічваюцца ў разьмеры па меры ўглубленьня ў пераходнае балота. У пікета № 4 яны даволі шчыльныя, параўнаўчы нявысокі (да 40—50 см.) і да 0,5 мэт. у дыямэтры. Яны скрозь пакрыты мохам Polytrichum Strictum і хмызьняковай расьліннасьцю. Удзел сфагнавых махоў ва ўтварэньні куп'я невялікі; хмызьняковая расьліннасьць, якая густа абплятае куп'я сваімі карэньнямі, прадстаўлена звычайнай для такога балота расьліннасьцю.

У пачатку пераходнага балота, у пікета № 4, балотны багун (Ledum palustre) утварае суцэльныя зарасьлі, разрастаючыся пышнымі высокімі кустамі. Падбел (Andromeda poliifolia) перамешваецца з багуном журавіны (Vaccinium Oxycoccus) сеткаю апутваюць куп'я. Галубіка і балотны верас V. uliginosum et Cassandra Calyculata разам з паўзучай вярбой (Salix repens) і кусьцістай беразой (Betula humilis) павялічвае гушчыню хмызьняку. Травяністая расьліннасьць, галоўным чынам, папаратнікі (Pteridium aquilinum), асака (Carices), сустракаецца вейнік Calamagrostis neglecta. Даволі часта—ядавіты вех (Cicuta virosa). Усё гэта разам надае балоту дзікі, суровы выгляд і робіць яго цяжка прахадзімым. Гэта расьліннасьць і стан паверхні прадстаўляюць вялікія цяжкасьці ў разьвіцьці культурна-тэхнічных работ.

З левага боку ад лініі „В", г. зн. на Поўдзень ад яе, ляжыць вучастак пераходнага балота, які быў ахоплены пажарам у 1920 г.

Характар гэтага абгарэлага вучастка вельмі розьніцца ад некранутага агнём пераходнага балота. Сфагнум і лён зязюлькі зусім зьніклі, таксама як і дрэўная расьліннасьць. З хмызьняку сустракаецца толькі паўзучая вярба (Salix repens) і дзе-ні-дзе пачынае паказвацца кусьцістая бяроза (Betula humilis). Куп'я часткай зусім зьнішчаны, а што засталіся, дык тыя ў некалькі разоў зьменшыліся ў абхопе і без вялікіх перашкод могуць быць зрэзаны плугам, не парушаючы правільнасьці ворыва. Травастой рэдкі не ўтварае суцэльнае дзярніны, што вельмі палегчыць апрацоўку.

Плошча выгарэўшага пераходнага балота ад 30 да 50 гэктараў. Недалёка ад 4-га пікету ўпоперак балота цягнецца добры насыпаны шлях, які пабудаваны вайсковым ведамствам у 1915 годзе і ў бягучым годзе адрэмантаваны. На шляху ёсьць некалькі новых драўляных мастоў, вельмі моцнай конструкцыі. Шлях гэты ідзе з Суціна ў с. Крымок і далей у Слуцак.

Па меры прасоўваньня ў глыбіню пераходнага балота па лініі „В“ мясцовасьць становіцца больш дзікай і цяжка прахадзімай. Паказваюцца сфагнавыя куп'я, мяккія, як падушка, але яны прадстаўляюць вялікую цяжкасьць для разрыва дзякуючы таму, што яны густа прасякнуты карэньнямі вышэйпералічанай дрэўнай і хмызьняковай расьліннасьцю. Куп'я дасягаюць мэтра ў дыямэтры і да 80 см. вышыні, пры густым іх распалажэньні. Бяроза дасягае да 15 см. у дыямэтры. Пад нагамі ў торфу адчуваюцца пні і ствалы зваліўшыхся дрэў, часткай альбо цалкам пакрытыя торфам. Пачынае зьяўляцца сасна, вышынёй да 6-7 мэтр. з гадавым прыростам 15—25 см. Каля пікета 19-га знаходзіцца невялічкае ўзвышша, якое называецца „Мядзьведзева Выспа“, якая прадстаўляе пяшчаны бугор, пакрыты пластам торфу—15—20 см.; за выспай заўважваецца некаторая зьмена ў характары балота, якое выяўляецца, галоўным чынам, у павялічэньні сасны ў складзе дрэўнай расьліннасьці. Каля пікета 22-га пераходнае балота абрываецца і адсюль пачынаецца мохавае балота.

Пераходнае балота служыць выпасам, але скарыстоўваецца ў вельмі слабай ступені. Месцамі сялянамі праведзена расчыстка ў захватным парадку і такім чынам атрымваліся невялікія кавалачкі сенажацяў.

Торф паміж куп'ямі добра расклаўся. Глыбіня торфу 1,25—2 мэтры. На паверхні торфу вады нідзе няма. Плошча пераходнага балота каля 2000 гэктараў. Культура яго без дапамогі агня будзе эканамічна немагчымай.

Мохавае балота пачынаецца плошчаю, пакрытаю адмёршымі і адміраючымі сасновымі лясамі. З самага пачатку мохавага балота за 22-м пікетам у вялікай колькасьці паказваецца на куп'ях зязюлькін лён (Polytrichum strictum).

Па гэтай частцы балота ў 1920 г. прайшоў павярхоўны пажар. Багун тут утварае суцэльныя зарасьлі. З іншых хмызьняковых расьлін тут у вялікай колькасьці прадстаўлены журавіньнік і падбел. Травяністая расьліннасьць прадстаўлена галоўным чынам пушыцаю і асокамі. Травастой тут рэдкі.

Край мохавага балота, некалькі зьменены быўшым тут пажарам, займае параўнаўча невялікую плошчу. Але яно хутка прымае нармальны выгляд мохавага балота. Polytrichum зьнікае і на вялізарнай паверхні расьсьцілаецца хвалістая мохавая коўдра.

Паверхня балота сапраўды напамінае малюнак усхвалёванага і хутка застыўшага мора. Усё балота пакрыта мохавымі куп'ямі з мяккімі ачартаньнямі, якія аддзяляюцца адна ад аднэй няглыбокімі паніжэньнямі. Багун то ўтварае суцэльныя зарасьнікі, то сустракаецца

рэдкімі кустамі. Падбел месцамі разрастаецца ў вялікія кусты, у іншых-жа мясцох прадстаўляе нявысокую рэдкую шчотку розных пабегаў, якія выбіваюцца ад схаваных у маху кустоў. Журавіны растуць скрозь. На больш мокрых мясцох у травастоі сустракаецца шэйхцэрыя (Scheuchzeria palustris), якая месцамі ўтварае суцэльнае насаджэньне.

Усё балота пакрыта сасновым лесам.

Там, дзе балота закрануў пажар, лес стаіць мёртвы, а часткаю і паваліўся. На рэшце плошчы балота сасновы лес некалькі розьніцца па свайму выгляду ад тэй сасны, якая звычайна сустракаецца на мохавых балотах. Тут сасновы лес мае вельмі прывабны від і ўсё балота напамінае сабой рупліва ўтрымліваемы штучны парк, пакрыты зялёным газонам.

У пэрспэктыве рэдкі травастой хавае мохавыя куп'я і нізкі хмызьняк і дае ўражаньне роўнай паверхні. Дрэвы сасны прамыя і стройныя з пініепадобнымі кронамі, якія дасягаюць у вышыню 7-8 мэтраў і ў дыямэтры да 2,5 вяршкоў. Гадавы прырост сасны нязначны. Гэты лес прадстаўляе добры матэрыял для дрэнажу, загароды і апалу. Гэта, прывабнае на першы погляд, балота ўсюды прахадзімае цягнецца бяз істотных зьмен да 84 пікету, а ад яго далей (са слоў мясцовых жыхароў) амаль што да ст. Асіпавічы.

Пласт зусім нерасkладзенага сфагнуму мае магутнасьць 40 см., на глыбіні 50 см. звычайна сустракаецца торф сярэдняй раскладзенасьці. Месцамі з глыбіні 50 см. бур (сьвярло) бярэ толькі ваду з узмутнёнымі часткамі моху. Глыбіня торфу большаю часткай хістаецца ў межах 1,5—2 мэтры. Але на гэтым вучастку балота сустракаюцца вучасткі, дзе торф дасягае 5 мэт. глыбіні.

Бліжэй да берагу мохавага балота ў складзе расьліннасьці адбываюцца некаторыя зьмены, якія павялічваюцца па меры набліжэньня да берагу. Паказваецца бяроза, затым вярба і павялічваюцца зарасьнікі багуна і падбела.

На куп'ях паказваюцца polytrichum. Папаратнікі прымаюць выгляд суцэльных зарасьнікаў, сфагнавы мох паступова зьнікае і замяняецца зялёным мохам, балота робіцца цяжка прахадзімым з прычыны гушчыні распалажэньня высокага і моцнага куп'я. Такім чынам, па меры набліжэньня да берагу, балота паступова робіцца пераходным. На балоце і ў акружаючых яго мясцовасьцях закладзена некалькі сьвярловых шчэлін. Ведамасьць сьвярленьня прыведзена ніжэй. Гэта сьвярленьне паказала, што ўвесь апісаваемы балотны масыў падсьцілаецца магутным пластом воднага пяску. Пясок па мэханічнаму складу такі-ж, як і на ўсёй акружаючай балота мясцовасьці.

Пяшчаны пласт пройдзены да канца толькі ў аднэй шчыліне, дзе на глыбіні 23 мэтр. сустракаецца гліністы пласт, які не прапушчае вады.

Характарна, што пры сьвярленьні знойдзены даволі моцны напор вады (ціск грунтовых вод), з прычыны якога пясок у сьвёрлавых трубах падымаецца на вышыню 6,5 мэтраў ад дна шчыліны.

Торф знаходзіцца непасрэдна на пяску бяз усякіх прамежных напластаваньняў. Вазёрных утварэньняў (гітція, мудде, сапрапель), у інш. выпадках утвараючых адлажэньні ў некалькі мэтраў магутнасьці, тут няма зусім.

Такім чынам. на вучастку балотнага масыву, які прылягае да сяла і ваколіцы Суціна, рэзка выяўлены тры тыпы балотных утварэньняў: нізіннае, пераходнае і мохавае балота. Дэталёвая характарыстыка іх паверхні, іх расьліннасьці, глыбіні і якасьці торфу, а таксама іх культурна-тэхнічнай каштоўнасьці, атрымліваецца з разгляду ніжэй зьмешчаных табліц і мапаў.

На балоце раёна, як мы апісваем, ёсьць сьляды зробленай год 12—15 назад спробы палепшыць умовы карыстаньня балотам. Жыхарамі сяла Крымак і Жыціна была праведзена канава, якая перасякае выгнутасьць балота, абкружаную р. Пціч. Канава абодвыма канцамі злучаецца з р. Пціч. Не падалося ўстанавіць, што было мэтаю пабудовы гэтага канала—ці асушка, ці абвадненьне балота. У кожным выпадку, ні тое, ні іншае не падалося. У выніку нязначнае зьмены вышыні ў межах балота і пастаяннага высокага стаяньня вады ў р. Пціч, канал ня меў ніякага значэньня і праводзіў толькі ваду р. Пціч. Абавадненьне-ж вясновымі водамі не магло быць палегчана альбо ўзмоцнено такім каналам з прычыны таго, што балота ў яго прыродным становішчы пакрываецца паводкамі, а адсутнасьць зьвязаных з каналам водазатрымліваючых прыстасаваньняў выключала магчымасьць рэгуляваньня затопаў.

Ніякіх іншых культурных пачынаньняў, акрамя расчысткі пераходнага балота, якая рабілася ў захватным парадку, не заўважана. Самае-ж балота не падзелена і знаходзіцца пад агульным выпасам.

Праведзенае ў бягучы сэзон 1927 рэгуляваньне ракі Талькі і часткі ракі Суцінкі ўнясе, бязумоўна, істотныя зьмены ў карыстаньні часткаю балота, якія маюць цягу да гэтых вадаадводных шляхоў. Але да правядзеньня земляўпарадкаваньня разьлічваць на шырокае разьвіцьцё мэліорацыі і ня прыходзіцца. У сучасны момант у карыстаньні асобнага гаспадара на балотнай сенажаці маецца звыш 10-ці кавалкаў, раскіданых па балоце бяз усякага парадку. Пакуль землякарыстаньне на балоце ня будзе зьведзена да аднаго месца для кожнага гаспадара, мэліорацыя будзе немагчыма.

Базысная лінія „Г" пачынаецца ад ваколіцы Суцін і ідзе ў Паўночна-Заходнім кірунку, скончаючымся каля 84 пікету пры перасячэньні ёю лініі, якая злучае засьценак Заржаву і хут. Клетна. У першай частцы лінія „Г" ідзе па палявым землям Суціна, якія ідуць у перамешку з нізіннымі, больш-менш забалочанымі, большай часткай пакрытымі дрэўнымі і хмызьняковымі зарасьнікамі. Такія нізінкі займаюць плошчу то ў некалькі дзесяткаў квадратных саж., то ў некалькі дзесяткаў дзесяцін.

Некаторыя з іх скарыстоўваюцца ў якасьці выпасу, альбо сенажаці, другія-ж прадстаўляюць нікудышныя землі, дзе паміж дрэўнай расьліннасьцю густа расьце верас, багун і галубіка (блакітніца).

Так, 17—19 пікеты прадстаўляюць падобную забалочаную нізінку. Трэба адзначыць, што ў гэтай мясцовасьці і маленькае зьніжэньне паверхні вядзе за сабой працэс забалочваньня, што асабліва заўважваецца на ўзораных землях.

Гэта нізінка служыць выпасам. З дрэўнай расьліннасьці расьце, галоўным чынам, алешка, бярозка, сасна і елка. Глеба мае няглыбокі дзярновы пласт каля 8 см. (торф, які не расклаўся), глыбей яна багата ілам і перагноем, яскрава ападзолена. Уся глыбіня глебавага пласта каля 25 см. К 20-му пікету дрэвы становяцца больш вялікімі, куп'я больш густымі, і на купінах расьце зязюлькін лён (усьцяж), багун, блакітніца і папаратнікі. Грунтавая вада на глыбіні 15—20 см. Пласт торфу каля 10 см., а да глыбіні 40 см. ідзе пласт чорнага, багатага гумусам пяску. Ад 33 пікета пачынаецца пагарэўшае балота, якое большаю часткай пакрыта мёртвым лесам—бярозай і сасной. Травяная расьліннасьць—сітнік і асака. Паверхня вельмі няроўная, ад пажара засталіся няглыбокія ямы, якія густа раскіданы. Паміж імі—верас, багун і блакітніца. Пласт торфа, які захаваўся, дасягае 10—12 см., а пад торфам буйна, зярністы пясок. У гэтым месцы балота мае ў шырыню больш кілёметра.

Ад 35 пікета зноў пачынаюцца бедныя пяшчаныя палі. Ад 41 пікета пачынаецца вялікае мохавае балота, вядомае пад назвай „Балота Ратынскага“, альбо „Луцкі Мох“. Направа ад лініі „Г“ яно цягнецца да р. Талькі, а налева—да нізіннага балота каля самае р. Пцічы. Па берагу балота, якое прадстаўляе высокае, пяшчанае месца, знаходзіцца на невялікай плошчы сасновы лес (умоўна будаўнічы), які належыць, як і балота, да ляснога ведамства.

Балота надзвычайна аднастайнае. Паверхня яго магчыма сказаць амаль што роўная, пакрыта невялікімі сфагнавымі куп'ямі, у некаторых мясцох куп'я робяцца больш густымі і вялікімі. Дрэўная расьліннасьць прадстаўлена выключна сасной. Сасна мае сярэднюю вышыню 5 мэтраў, але сустракаюцца адзінкі да 8—9 мэтраў, якія маюць у дыямэтры да 4 вяршкоў. Дрэвы стройныя, гладкія, амаль што з цыліндрычнымі стваламі і плоскай кронай. Гэты лес прадстаўляе добры матэрыял для дрэнажу, прасла і апала. Шмат маладое сасны з гадавым прыростам да 5—7 вярш. З хмызьняковых тут скрозь растуць тыя, якія растуць і на мохавым балоце—багун, падбел, балотны верас (Cassandra calyculata Don.) і журавіны. Траўная расьліннаць—пушыца і асака.

Ад паверхні і да самага пяску, які падсьцілае балота, торф складаецца са сфагнума і пушыцы. Пласт сфагнума, які яшчэ не расклаўся па ўсёй лініі „Г“, мае магутнасьць у 40 см., далей ідзе торф сярэдняй раскладзенасьці з яскрава захаваўшыміся часткамі сфагнавых махоў, карэньнямі і аснаваньнямі кустоў пушыцы.

На глыбіні аднаго мэтру паўсюды торф добра расклаўся. Глыбіня торфу не аднолькава. Пры сьвярленьні з штангай у 2 мэтры здабыта наступнае: пікет 46—глыбінёй 2,25 м., пікет 50—больш 2 мэтраў, пікет 55—1,9 м., пікет 65—1,4 мэтр., 75—1 мэтр.

На 68 пікеце лінія перасякаецца шэрагам выспачак, так званых „Клецінскіх градак“, якія падымаюцца над балотам на 1—2 мэтры і прадстаўляюць сабою вельмі ўдобныя месцы для пасяленьня балотных каланістых. Гэтыя градкі пакрыты буйным сасновым і бярозавым лесам (100—150 год). У 80 пікета бераг балота. Тут з пачатку ідзе сасновы і бярозавы лес, а далей палі, якія скарыстоўваюцца па залежнай сыстэме і якія разорваюцца пасьля таго, як зарастуць сасной.

Балота „Луцкі Мох“ прадстаўляе інтарэс для калёнізацыі па такіх разважаньнях:

1) Як балота, так і яго берагі знаходзяцца пад распарадкам дзяржавы; 2) берагі і выспачкі на балоце ўдобны для пасяленьня; 3) асушальная сыстэма будзе параўнаўча ня дарага, бо: а) маецца гатовы адрэгуляваны вадапрыемнік (Талька), б) магістраль будзе цалкам каштоўна, праходзячы па таму-ж балоту, якое даходзіць да р. Талькі, 4) раскарчоўка патрабуе параўнаўча невялікіх затрат. Гэтыя затраты ў значнай меры будуць кампэнсаваны каштоўнасьцю леса.

Шлях з Суціна ў Запарэньне ідзе спачатку праз землі Суціна і хутароў, якія да яго належаць, затым праз сасновы лес, які ў большай частцы захоўваўся ў некранутым выглядзе. Лес, галоўным чынам, сасновы, умоўна будаўнічы, які гадзіцца для сельскіх будынкаў.

Каля засьценку Заржавы пуць набліжаецца да ракі Талькі. Направа ад пуці мясцовасьць зьніжаецца крутым спускам, і ў 20—30 саж. ад яго пачынаецца непрахадзімае балота, якое пакрыта густым моцным зьмешаным лесам з падлескам з розных высокіх хмызьнякоў, сярод якіх, галоўным чынам—лаза (Salix cinerea).

У гэтым месцы, дзе шлях перасякае р. Тальку, рэчка амаль што закрыта зьвісшымі над ёю лозамі, гальлё якіх ляжыць на вадзе. Берагі Талькі зусім непрахадзімы з-за хмызьнякоў, якія вельмі густа



разрасьліся. У вадзе растуць: трасьнік, камыш, сітнікі, аір, куўшынчыкі і інш. вадзяная расьліннасьць. Рэчышча вельмі зьвілістая. Дзякуючы ўсім гэтым зарасьнікам, цячэньне ў рэчцы ціхае.

У такім-жа стане знаходзіцца, перасякаемы дарогай некалькі далей, канал.

С. Запарэньне магчыма лічыць асяродкам, ад якога разыходзяцца базысныя лініі.

Базыс „Д" ідзе ад с. Запарэньня на Захад праз Любочын к фольварку каля с. Гарэльца і робіць невялікі злом к Паўноч. Зах. за два кілёмэтры да канца.

Ад Запарэньня да Любочына базыс „Д" ідзе па прасечанай мясцовасьці, дзе мінэральныя землі чаргуюцца з балотамі. Ад 80-га пікета да канца базыс ідзе па мохаваму балоту. Базыс „Е" ідзе ад Вілені к Парэччу перасякае базыс „Д" у двух кілёмэтрах к Захаду ад Любочына і робіць злом к Паўднёва-Захаду, у чатырох кілёмэтрах на Поўдзень ад месца перасячэньня. Базыс „Е" ідзе ад 110 пікету каля Любочына да Вілені па мохаваму балоту і ад Любочына да Парэчча таксама па мохаваму балоту.

Базыс „Ж" ідзе з Поўдня на Поўнач ад Запарэньня да Дуброўкі— з пачатку па вельмі абшырнай нізіннай балотнай сенажаці, потым перасякае поўвыспу пахатнае зямлі, а далей ідзе па балотам—нізіннаму сенажаць) затым па балоту з хмызьняком і пад канец па пераходнаму лясному балоту.

Базыс „40" адыходзіць ад 40-га пікета базыса „Ж" і ідзе на Ўсход, сканчаючыся ў 2 кілёмэтрах к Паўночнаму Ўсходу ад Блужы.

Базыс „Ж" ідзе 1,5 кілём., г. зн. да 6 пікета, па лясному балоту (беразовы лес) з торфам да 3,5 мэтр.; ад 7 пікету к бярозе прымешваецца лаза, ад 10 пікета прыбаўляецца яшчэ і крушына; пачынаючы ад 11 пікета ў лесе пераважвае сасна і бяроза з прымешкаю елкі і лазы; сустракаюцца плямы сфагнавых махоў; глыбіня торфу на гэтым адрэзку—2,1—2,8 мэтр.

Ад 17 пікета пачынаецца лес на сухадоле.

Лес мешаны: каля 17 пікета—елка і бяроза; 18, 19 і 20 пікетаў—алешка, асіна, арэшнік; 21, 22, 23—елка, арэшнік, ясакар і граб. Паміж 23 і 24 пікетамі пачынаецца мохавае балота з глыбінёй торфу ад 1,5 да 3,5 мэтра; торф залягае на пяску-плывуну; ад 62 пікета пачынаецца сухадольны лог.

Зьмешчаныя сытуацыйныя дадзеныя з пікетных кніжак. Балота па базысу „Д" агледжана ад 20 да 47 пікету. З с. Запарэньне папярэчнік, які перасякае базыс „Д" ідзе па пераходнаму балоту. Гэта балота служыць выпасам. Лес магчыма лічыць драўяным. Склад яго—бяроза, сасна з перамешкай лазы і рабіны. Балота—вельмі густа пакрыта купінамі. На купінах—сфагнум, асака, папаратнікі, вейнік і сабачча аўсяніца. Па базысу „Д" балота захоўвае такі-ж характар, але мала-памалу сасна зьнікае, і лес складаецца з бярозы з падлескам лазы.

Торф цёмна-бурага колеру з сярэдняй раскладзенасьцю. Сустракаюцца мінэральныя грыўкі. Ад 30 пікета да 33 і ад 37 да 47—сенажаці на такім-жа торфу.

Дрэўнай расьліннасьці на сенажацях няма зусім, толькі месцамі захавалася Betula humilis. Няма таксама і купін. Паверхня зусім гладкая. Па словах мясцовых жыхароў, балота пад сенажаці расчышчана пасьля рэвалюцыі. Плошча сенажацяў каля 300 гэкт. Ураджайнасьць, мяркуючы па колькасьці і велічыні стагоў, каля 50 пудоў з гэктару.

Гэтае балота належыць да ляснога ведамства. Праз балота праходзіць асушыцельны канал, вельмі засьмечаны, але з прыкметным цячэньнем.

Балота гэта з багатымі спажыўнымі матэрыямі, торфам, мінэральнымі грыўкамі з сярэдняй цяжкасьцю распрацоўкі, вельмі выгодна для каляізацыі.

Базысная лінія „Ж" праходзіць па вельмі вялізнаму балоту прылягаючаму да с. Суціна. Балота часткаю знаходзіцца ў карыстаньні сялян прылягаючых паселішчаў, але вялікая частка іх належыць да саўгасаў Вілені і Сенчы. Частка балота прадстаўляе сабою амаль што чыстыя сенажаці з звычайнай расьліннасьцю асакова-траўных балотаў з рэдкімі бярозкамі і хмызьнякамі лазы. К усходу ад базыса ва ўладаньнях саўгасаў зарасьнікі павялічваюцца і ўтвараюць бярозавы дравяны лес.

Праз балота праходзіць асушальны канал, які ўпадае ў р. Тальку. Мясцовыя жыхары кажуць, што канал мае ў даўжыню каля 20 кілёмэтраў. Шырыня канала каля трох мэтраў. Ён вельмі заілен і загружаны дрэўнымі адломкамі, скрозь заросьнік па краях густымі кустамі лазы і месцамі завалены грэблей для пераезду. Усё-ж такі цячэньне даволі добрае. У канал у розных мясцох, на вялікіх адлегласьцях, уведзены бакавыя канавы, якія горш захаваліся.

Ад 35 пікета па абодвых бакох базыса вялізныя плошчы, пакрытыя сфагнумам, які ў некаторых мясцох утварае купіны. Сфагнавы пакроў яшчэ тонкі і не пасьпеў скласьці сфагнавы торф. У 42 пікета бярозавы лес з прымешкаю сасны і кустамі лазы (Salix cinerea) кусьцікавай бярозы (Betula humilis) і на купінах сфагнум, папаратнікі, асака і вейнік. Гэты лес мае неправідловыя ачартаньні, бо, пры расчыстцы балота пад сенажаці, ён зьнішчаўся несыстэматычна.

Па базысу ён цягнецца на працягу аднаго пікету. Далей зноў ідзе балотная сенажаць з пнямі зрэзанае сасны і бярозы, пні дасягаюць 6 вяршкоў у дыямэтры. Каля 50 пікета ў балота ўдаецца сухадол з хутарамі і іх пасевамі.

Ад 56 пікету зноў пачынаецца нізінна-балотная сенажаць, месцамі вельмі замшэлая (з вялікімі кавалкамі Climacium dendroides), з рэдкаю бярозай і хмызьнякамі лазы. Ад 61 пікета ідзе балота з вельмі арыгінальным выглядам. Па фону нізіннага балота даволі густа раскіданы купіны, скрозь пакрытыя нізкімі зарасьнікамі хмызьняковай бярозы і паўзучай вярбы (B. humilis et S. repens). Гэта балота, як відаць, скарыстоўваецца ў якасьці выпасу, бо прыкметны сьляды жывёлы. Па базысу „Ж" гэты вучастак балота цягнецца на 10 пікетаў (1 кілём.), а ўпоперак на некалькі кілёмэтраў. Ад 71 пікета па таму-ж фону пачынаецца сасновы лес. Па меры прасоўваньня колькасьць і вышыня купін павялічваецца. На купінах дзе-ні-дзе паказваюцца сфагнавыя падушкі. Пры набліжэньні да берага сасна зьмяняецца алешкай, паміж якой густа расьце лаза. За 75 пікетам балота пераходзіць у мурожныя сенажаці, за якімі знаходзіцца с. Дуброўка.

Вялізарнае балота па базысу „Ж" і „40", якое займае каля 40 кв. кілёмэтраў і мае гатовы магістральны канал, надзвычайна лёгкае ў сэнсе падрыхтоўкі да культуры і ў большай сваёй частцы належачае да саўгасу, павінна быць прынята пад увагу пры выбары зямель для калёнізацыі.

Палявыя землі ў Сенчанскім сельсавеце скрозь пяшчаныя, але некалькі больш зьвязаныя, чым у раёне Суціна. Акрамя таго, палі тут знаходзяцца навакол паселішча, зямлі ў некалькі разоў меней; па такім прычынам тут скарыстоўваньне зямлі больш інтэнсыўнае, і ўгнаеньне больш моцнае, азіміна ва ўсіх пасяленьнях Сенчанскага сельсавету мела добры выгляд.

У раёне Гарэльца палявыя землі такія-ж, як і ў Суціне. Сустракаюцца сыпучыя пяскі, якія ўсё-ж такі засяваюцца.

## III. Натуральна-гістарычнае і культуртэхнічнае апісаньне балот у басэйне ракі Талькі.

**1. Час і мэтад выкананьня працы; удзельнікі.**

Гэта праца выканана па даручэньню Менскага Акруговага Зямельнага Аддзелу—восеньню 1927 г. Палявое дасьледваньне пачалося 20 верасьня і закончана 17 лістапада. Работа выканана М. В. Дакукіным сумесна з супрацоўнікамі Навукова-Дасьледчага Інстытуту А. П. Бялькевічам і А. А. Немчынавым.

Мэтаю распачатай працы было даць дастаткова-падрабязную характарыстыку балот басэйна р. Талькі так, каб было магчыма на падставе гэтай характарыстыкі будаваць рэальныя пляны ўцягненьня ў культуру балот басэйна. Адначасова з нашай працаю рабілася дэталёвая гіпсамэтрычная здымка басэйну—гідратэхнічнай партыяй пад кіраўніцтвам М. М. Мацьвеева, і нам прыходзілася ў сваёй працы карыстацца пікетнай сеткай, якая разьбіта на мясцовасьці гідратэхнікамі.

Дасьледаваны балоты па ўсіх базісных лініях па папярэчніках на адлегласьці ад 400 да 1000 мэтраў у залежнасьці ад featnaстайнасьці балотаў.

Больш за ўсё прыходзілася дасьледаваць папярэчныя хады на адлегласьці 400—600 мэтраў. Позьні пачатак працы і сьцюдзёнае, сырое надвор'е рабілі палявое дасьледваньне цяжкім і няпрыемным заняткам, і толькі дзякуючы энэргіі маладых супрацоўнікаў давялося давесьці працу да канца.

Пры дасьледаваньні вёўся падрабязны палявы часопіс, у якім адзначаліся №№ пікетаў, характар расьліннасьці, купістасьць, пністасьць, раскладзенасьць ворыўнага гарызонту; сумесна з тым браліся абразцы махоў, асакі і кветкавых, якія немагчыма было апрадзяліць на месцы, таксама браліся абразцы тарфяных глебаў пахатнага гарызонту і з глыбіні 0,5 мэтра 1,0, 1,5 мэтра і г. д. да самай падглебы. У час дасьледаваньня сабрана 1500 зельнікавых экзэмпляраў расьліннасьці, 1800 буравых і павярхоўных спробаў торфу і 29 тарфяных спробаў у скрынках ёмкасьцю па 2 літры з глыбіні 0—20 см, 10—20 і 20—30 см. ад паверхні глебы.

За пэрыод часу студзень-люты сабраныя абразцы расьлін апрадзеляны і тарфяныя спробы прааналізаваны па іх батанічнаму складу і ступені раскладзенасьці ў Лябораторыі Балотнае Станцыі—супрацоўнікамі А. П. Бялькевічам і А. А. Немчынавым.

**2. Расьлінныя пакровы і тыпы балот.**

Пры палявым дасьледаваньні захоплены поўнасьцю басэйн р. Талькі, якая ўпадае ў р. Сьвіслач, і р. Суцінку, акрамя таго прышлося часткова дасьледаваць басэйн ракі Пцічы, з тае прычыны, што водападзельная лінія паміж р. р. Пцічы і Талькай у многіх мясцох вельмі няясны.

Сучасныя расьлінныя пакровы балот гэтага раёну даволі рэзка падзяляюцца на тры групы.

*А. Мохавыя—сфагнавыя балоты альбо верхавыя балоты* (Hochmoore), якія займаюць топографічна больш высокія вучасткі, не падпадаючыя дзейнасьці рачное, альбо грунтовае вады і ўвільгоўваюцца толькі выключна атмасфэрнымі водамі. Балоты такога тыпу аказаліся даволі распаўсюджанымі ў дасьледаванай мясцовасьці, іх плошча па вылічэньні плянімэтрам на мапе маштабу—1 кілёмэтр і 1 цалі аказалася роўнай 9.900 гэктараў, што складае 35,2 проц. ад агульнай плошчы дасьледаваных балот

На мапе № 1 гэтыя балоты вызначаны асаблівай штрыхоўкай. Падзяленьне мохавых сфагнавых балот на падтыпы зроблена на падставе моцнасьці разьвіцьця дрэўнае расьліннасьці і ступені раскадзенасьці торфу. Мохавая і траўная расьліннасьць у кожным падтыпу таксама адрозьніваецца, але ня так рэзка, а таму, зьмяшчаючы тут падрабязны сьпіс усіх напатканых на гэтым тыпу расьлін, пры апісаньні падтыпаў абмяжуемся толькі паказаньнем больш характарных.

Для ўсяго тыпу характарны:

Andromeda polifolia L.
Cassandra calyculata Don.
Eriophorum vaginatum L.
Ledum palustre L.
Oxycoccus palustris Pers.
Pinus silvestris L.
Vaccinium uliginosum L.

Polytrichum strictum Bants.
Sphagnum medium Limpr.
„ recurvum (P. B) Warnst.
„ subbicolor Hampe
„ fuscum (Schpr) Klinggr.

Напатыкаюцца:

Betula verrucosa Ehrh.
Drosera rotundifolia L.
Juncus effusus L.
Rhynchospora alba Vahl.
Scheuchzeria palustris L.

Sphagnum amblyphyllum Russow.
„ cuspidatum (Ehrh.) Warnst.
„ obtusum „
„ papillosum Lindb.
„ parvifolium (Sendt.) Warnst.
„ rubellum Wils.

Усе балоты гэтага тыпу падзелены на пяць падтыпаў: 1) Мокры глыбокі тарфянік з моцным пластом торфу, які не расклаўся. Сасна тут зьнікла і толькі месцамі засталася ў выглядзе пакрытых лішайнікамі сухіх ствалоў ад 0,5 да 1,5 мэт.

Ад 30 да 90 проц. плошчы занята тут мачажынамі, на якіх дрэўная расьліннасьць зусім адсутнічае, а мохавая і траўная рэзка адрозьніваецца ад больш сухіх вучасткаў.

а) Расьліннасьць топяных вучасткаў наступная:

пераважна:
Eriophorum vaginatum L.
Rhynchospora alba Vahl.
Seheuchzeria polustris L.
Sphagnum cuspidamm. Warnst
„ parvifolium. „

сустракаюцца:
Vaccinium oxycoccus L.
Sphagnum recurvum (P. B.) Warnst.
„ subbicolor Hampe.

б) На больш сухіх плашчадках:

Andromeda polifolia L.
Cassandra calyculata L.
Eriophorum vaginatum L.
Pinus silvestris L.
Oxycoccus palustris Pers.

Polytrichum strictum Banzs.
Sphagnum cuspidatum (Ehrh.) Warnst.
„ medium Limpr.
„ recurvum (P. B.) Warnst.
„ subbicolor Hampe.

Вызначэньне махоў было выканана супрацоўніцай Балотнае Станцыі Е. І. Леанкевіч у Інстытуце Спаравых Галоўнага Батанічнага Саду.

II. Тыпавы сфагнавы тарфянік, які парос сасною ад 2 да 4 мэтр. (месцамі даволі густа).

Пераважаюць:
Eriophorum vaginatum L.
Pinus silvestris L.
Polytrichum strictum Banrs.
Sphagnum fuscum (Schpr.) v. Klinggr.
„ medium Limpr.
„ subbicolor Hampe.

Ступень раскладзенасьці торфу некалькі большая, чым у раней паказаным тыпу. Шмат гарэлых месц, якія пакрыты выключна маладым Polytrichum. Гэты тып мае найвялікшае распаўсюджаньне.

III. Сфагнавы тарфянік з больш магутна разьвітай сасной і бярозай, якая сустракаецца адзінкамі. На глыбіні 0,5 мэтр. сярэдняя ступень раскладзенасьці торфу. Умовы спажываньня тут больш спрыяючыя.

Галоўным чынам расьце наступная расьліннасьць:
Eriophorum vaginatum L.
Pinus silvestris L.
Sphagnum medium Limpr
„ recurvum (P. B.) Warnst.

З трапляючыхся цікава адзначыць:
Molinia coerulea Mnch.
Phragmites communis Trin.
Carex filiformis? (з тонкімі амаль акруглымі сьцяблом, высокая).

IV. Маладыя сфагнавыя тарфянікі, якія ўтварыліся на пераходным балоце, пры чым утварыўся пласт слаба расклаўшагася мохавага торфу толькі да 0,5 мэтр. магутнасьцю. Сасна дасягае ў вышыню 6—8 мэтр.; характарна невялікая прымесь бярозы. Мохавая і траўная расьліннасьць тая-ж, што і ў III падтыпу.

V. Берагі сфагнавых балот, а таксама невялікія мохавыя плашчадкі—з добра расклаўшымся сфагнавым торфам і сасной да 10 мэтр. Дзе-ні-дзе бывае прымесь бярозы.

Мохава-травяністы пакроў—той-самы.

*В. Пераходныя балоты* складаюць другую групу балот басэйна р. Талькі. Гэты найбольш распаўсюджаны тып, які займае 12.700 гэкт., альбо 45,2 проц. ад усяе плошчы балот. Характарызуецца ён больш магутным разьвіцьцём драўлянае расьліннасьці, а таксама большай рознастайнасьцю флёры, махоў і кветкавых.

Бязумоўна, што гэта група знаходзіцца ў лепшых умовах мінэральнага спажываньня.

З заўважанай на гэтым тыпу расьліннасьці растуць *пераважна* наступныя:

Andromeda poliifolia L.
Betula verrucosa Ehrh.
„ humilis Schrk
Calamagrostis lanceolata Roth.
Carex gracilis Curt.
„ riparia „
„ vesicaria L.
Comarum palustre L.
Eriophorum angustifolium L.
„ latifolium Hoppe.
Equisetum palustre L.
Epilobium palustre L.
Menyanthes trifoliata L.
Pinus silvestris L.
Salix pentandra L.
„ repens L.

пераважна:

Acrocladium cuspidatum Lindb.
Climacium dendroides (Weber), Mohr.
Drepanocladus vernicosus Warnst.
Pleurozium Schreberi (Willd.) Mitt.
Sphagnum girgensohnii Russow.
„ medium Limpr.
„ squarrosum Persoon.
„ subbicolor Hampe.

сустракаецца:

Alectorolophus major Rchb.
Alnus glutinosa Gärtn.
Angelica silvestris L.
Agrostis alba L.
„ canina L.
Aspidium thelypteris Sw.
Bidens tripartita L.
Calla palustris L.
Caltha palustris L.
Equisetum silvaticum L.
Festuca ovina L.
Galium palustre L.
Juncus effusus L.
Ledum palustre L.
Linum catharticum L.
Lycopus europaeus L.
Lysimachia vulgaris L.
Luzula pilosa Willd.
Mentha austriaca Jacq.
Molinia coerulea Mönch.
Parnassia palustris L.
Pedicularis palustris L.
Phegopteris dryopteris Fée.
Phragmites communis Trin.
Potentilla tormentilla Neck.
Poa trivialis L.
Pteridium aquilinum Kuhn.
Salix lapponum L.
„ nigricans Sm.
„ cinerea L.
Sagina nodosa Fenzl.
Oxycoccus palustris Pers.
Aulacomnium palustre (L.) Schwaegr.
Camptothecium trichoides (Neck.) Broth.
Dicranum bonjeani De Not.
„ bergeri Bland.
„ undulatum Ehrh.
„ scoparium (L.) Hedw.
Drepanocladus aduncus (Hedw) Maenkem.
Drepanocladus vernicosus (Lindb) Warnst.
Eurhynchium striatum (Schreb) Schimp.
Helodium lanatum (Straem) Broth.
Mnium affine Bland.
Marschantia polymorpha
Polytrichum juniperum Willd.
„ strictum Banke.
„ perigoniale (Micht.) Broth.
Rhytidiadelphus triquetrus (L.) Warnst.
Ptilium crista castrensis De Not
Sphagnum Dusenii C. Jensen
„ fimbriatum Wilson
„ subsecundum (Nees) Limpricht.
Sphagnum warnstorfii Russ.

Прынцыпам, які лёг у аснову падзелу гэтых балот на падтыпы— зьявіўся відавы склад дрэўнай расьліннасьці, а таксама большая альбо меншая распаўсюджанасьць сфагнавых і гіпнавых махоў.

Іх магчыма падзяліць на дзьве розныя групы, якія распадаюцца на пяць падтыпаў.

*І-ая група.* Балоты, на якіх растуць сасновы і саснова-бярозавы лес. З буйна-купістай паверхняй, зацягнутай галоўным чынам сфагнавымі махамі і вялікай прымесьсю мохавых нізкіх хмызьнякоў.

Сюды належаць наступныя падтыпы:

1. Балоты, якія парасьлі сасновым лесам сярэдняе гушчыні і разьвіцьця (6—8 мэтр. $\times$ 4 вярш.).

Пераважная расьліннасьць:

Eriophorum angustifolium L.
Pinus silvestris L.

Dicranum bonjeanii De Not
„ undulatum Ehrh.
Pleurosium schreberi (Willd.) Mitt.
Sphagnum girgensohnii Russow.
„ subbicolor Hamp

Часта сустракаюцца:

Betula humilis Sehrk.
Carex Sp.
Comarum palustre L.
Calamagrostis neglecta P. B.
Salix repens L.
Oxycoccus palustris Pers.

Camptothecium trichoides (Neck) Broth.
Hylocomium proliferum (L.) Lindb.
Ptilium crista castrensis (L.) De Not
Sphagnum medium. Limpr.

2. Балоты, якія парасьлі сасновым і бярозавым лесам, набліжаюцца да 1-га падтыпу, але гіпнавыя махі пераважаюць над сфагнавымі, большы ўдзел розных траў: напрыклад, Comarum palustre, Menyanthes trifoliata, Carex Sp. і інш., і зьмяншэньне колькасьці мохавых поўхмызьнякоў.

*II-ая група.* Балоты, якіе па расьлі дрэўнай расьліннасьцю большай часткай з поўным адсутнічаньнем сасны, дробна-купістыя, альбо з поўнай адсутнасьцю купін, сфагнум—адзінкавымі падушкамі і толькі на рашчышчаных мясцох заўважана яго прысутнасьць.

Гэтая група мае тры падтыпы:

3. Балоты, на якіх расьце бярозавы лес. Адзінкава S. repens B. humilis. Паверхня зацягнута зялёнымі махамі пераважна Pleurozium schreberi, Climacium dendroides, Acrocladium cuspidatum. Месцамі на купінах сустракаюцца Sphagnum, з кветкавых пераважаюць: Carex sp., Eriophorum latifolium Hoppe. Часта сустракаюцца Calamagrostis lanceolata Roth., Comarum palustre L., месцамі Poa trivialis L., Epilobium palustre L., зусім адсутнічаюць мохавыя хмызьнякі.

4. Балоты, якія густа парасьлі S. repens L. et B. humilis Schr. ад 0,5 да 1,5 мэт. вышынёю. Адзінкава Betula verrucosa Ehrh. З траўнай расьліннасьці пераважаюць Calamagrostis lanceolata Roth. Невялікая прысутнасьць зялёных махоў (галоўным чынам Acrocladium cuspidatum). У месцах з больш рэдкімі і нізкімі хмызьнякамі невялікая купістасьць, паверхня зацягнута зялёнымі махамі з вялікім удзелам сфагнавых, шмат Agrostis alba L. Cassandra calyculata Don. Comarum palustre L., Epilobium palustre L., Eriophorum latifolium Hoppe. Carex limosa L. Адзінкава—сасна.

На астатніх вучастках ступень раскладзенасьці торфу некалькі меншая.

5. Балоты з бярозавым лесам, якія густа парасьлі S. Pentandra ў выглядзе дрэў і хмызьнякоў. Часамі невялікая прымесь алешыны. Дзякуючы вялікай гушчыні дрэўнай расьліннасьці траўная—амаль што адсутнічае: рэдка зялёныя махі, галоўным чынам Acrocladium cuspidatum, Climacium dendroides, Pleurozium schreberi, а пасьля Calamagrostis lanceolata Carex Sp. і іншае.

У мясцох з больш рэдкай расьліннасьцю ўзмацняецца пакроў зялёных махоў і злакаў.

Балоты гэтага падтыпу па ступені раскладзенасьці торфу і якасьці яго зьяўляюцца найлепшымі з усіх балот пераходнага тыпу і набліжаюцца да нізінных балот.

Рашчышчаныя вучасткі балот II-ой групы скрозь зацягнены зялёнымі махамі, месцамі з падушкамі сфагнума, якія парасьлі Andromeda polifolia і з менш раскладзеным торфам.

*С. Нізінныя балоты* прадстаўляюць трэцьцю групу балот басэйна р. Талькі.

Знаходзяцца ў зоне веснавых рачных паводак. Агульная плошча балот гэтага тыпу 5.500 гэкт., ці 19,7 проц. ад усіх дасьледаваных балот.

На балотах гэтага тыпу сустракаецца наступная расьліннасьць:

п е р а в а ж н а:

Alnus glutinosa Gaertn.
Agrostis alba L.
Carex flava L.
Carex aquatilis Wahl.
Filipendula ulmaria Max.
Phragmites communis Trin.
Populus tremula L.
Salix pentandra L.

Acrocladium cuspidatum (L.) Lindb.
Climacium dendroides Web. et Moor.
Pleurozium schreberi (Willd.) Mitt.

---

с у с т р а к а ю ц ц а:

Angelica silvestris L.
Betula humilis Schrk.
„ verrucosa Ehrh.
Bidens cernua L.
„ tripartita L.
Calamagrostis lanceolata Roth.
Calla palustris L.
Caltha palustris L.
Cicuta virosa L.
Cirsium palustre Scop.
Comarum palustre L.
Epilobium angustifolium L.
„ palustre L.
Equisetum limosum L.
„ palustre L.
Eriophorum latifolium Hoppe.
Festuca ovina L.
Galium palustre L.
Geranium palustre L.
Geum rivale L.
Glyceria aquatica Presl.
„ fluitans R. Br.
Hottonia palustris L.
Iris pseudacorus L.
Lysimachia vulgaris L.
Lythrum salicaria L.
Mentha aquatica L.
„ austriaca L.
Menyanthes trifoliata L.
Molinia coerulea Mnch.
Myosotis palustris L.
Parnassia palustris L.
Pedicularis palustris L.
Phegopteris Dryopteris Fec.
Poa trivialis L.

Polygonum Hydropiper L.
Potentilla tormentilla N.
Pteridium aquilinum Kuhn.
Ranunculus acer L.
„ flammula L.
„ lingua L.
„ repens L.
Rhamnus cathartica L.
„ frangula L.
Ribes nigrum L.
Rumex hydrolapatum Huds.
Sagittaria sagittifolia L.
Salix cinerea L.
„ lapponum L.
„ nigricans Sm.
„ repens L.
Trientalis europaea L.
Trifolium repens L.
Typha latifolia L.
Urtica dioica L.
Valeriana officinalis L.

1) Aulacomnium palustre (L.) Schwaegr.
2) Bryum ventricosum Dicks.
3) Drepanocladus aduncus (Hedw.) Maenkem.
4) " vernicosus (Lindl.) Warnst.
5) Mnium affine Bland.
6) Thuidium Philiberti Limpr.

---

Па характару дрэўнай і траўнай расьліннасьці балоты гэтага тыпу падзяляюцца на наступныя тры падтыпы:

1. Адчыненыя асаковыя балоты. Зьяўляюцца лепшымі сенажацямі для ўсёй акругі з ураджайнасьцю каля 80 пуд. сена з гэктару, тады як на рашчышчаных пераходных балотах зьбіраюць звычайна каля 50 пудоў.

Праабладаючая расьліннасьць наступная:

Паверхня зацягнута даволі рыхла-зялёнымі махамі, галоўным чынам Acrocladium cuspidatum, climacium dendroides et Pleurosium schreberi. З кветкавых пераважаюць асокі, менш Agrostis alba, Comarum palustre, Calla palustris, Epilobium palustre, Eriophorum angustifolium, Eriophorum latifolium, Galium uliginosum, Filipendula ulmaria, Parnassia palustris.

З дрэўнай расьліннасьці рэдка S, repens et nigricans, і па берагох рэдка Alnus glutinosa з прымесьсю Betula verrucosa.

2. Балоты, якія парасьлі густа хмызьнякамі Populus tremula з прымесьсю Salix pentandra, S. nigricans, B. verrucosa (рэдка) Alnus glutinosa. Рэдкая траўная расьліннасьць, якая не складае суцэльнага пакрову: Carex filiformis Godd. Comarum palustre, Calamagrostis lanceolata, Eguisetum limosum, juncus effusus, Molinia coerulea, Ranunculus acer, Ranunculus repens, і на купінах рэдка зялёныя махі. Балота гэтага падтыпу займаюць невялікую плошчу па базысу „Л".

3. Балоты, якія парасьлі алешнікавым лесам. Сюды адносяцца вучасткі з добра разьвітым альховым лесам — густа паросшым Salix pentandra, бярозавыя лясы з прымесьсю алешніку больш 30% і альховыя хмызьнякі. Гэта самыя багатыя балоты Талькаўскага масыву з добра расклаўшымся торфам.

Траўная расьліннасьць большаю часткай не складае суцэльнага пакрову, але вельмі living розностайна і прыведзена пры апісаньні тыпу нізінных балот.

**3. Ступень раскладзенасьці торфу ў пахатным гарызонце.**

Характарыстыцы тарфоў па ступені раскладзенасьці надаецца вялікае значэньне пры палявым і лябораторным дасьледаваньні, таму што гэтая прымета мае вялікае значэньне для культур-тэхнікі.

Для характарыстыкі ступені раскладзенасьці торфу прынята пяць разрадаў: 1) без раскладзенасьці, 2) з слабай раскладзенасьцю, 3) з сярэдняй раскладзенасьцю, 4) з добрай раскладзенасьцю, 5) з поўнай раскладзенасьцю.

Тарфоў з ацэнкаю пахатнага гарызонту па пятаму балу не знайшлося зусім. Ступень раскладзенасьці запісвалася на погляд у полі ў час выемкі буравых узораў і выкапкі ямак лапатай. Затым у лябораторыі гэтыя адметкі правяраліся пры адмучваньні тарфоў для ўстанаўленьня іх батанічнага складу. Адметкі ў полі аказаліся амаль што ва ўсіх выпадках індэнтычнымі з лябораторнымі. Вынікі вывучэньня наглядна прадстаўлены на мапе № 2, дзе ступені раскладзенасьці адмечаны рэзкаю штрыхоўкай. Да гэтае мапы неабходна зрабіць некаторыя тлумачэньні, якія датычацца да мэтодыкі складаньня.

Для нізінных і пераходных балот зазначалася ступень раскладзенасьці на глыбіні 10—30 см. пры гэтым уласьцівасьць звычайна мала-

распаўшае верхняй плёнкі ачоса ня прымалася пад увагу па тых мяркаваньнях, што пры культуры гэты ачос альбо будзе запаханы, калі ён ня вельмі тоўсты, альбо раздроблены і спалены (пры фрэзэрнай апрацоўцы). Пагэтаму для нас прадстаўлялася практычна важным выявіць ступень раскладзенасьці тых пластоў, якія ляжаць непасрэдна пад ачосам; ступені раскладзенасьці гэтых пластоў і нанесены на мапу. Для мохавых сфагнавых балот мы адзначалі ступені раскладзенасьці на глыбіні 0,5 мэт. і нанесьлі іх на мапу на тэй падставе, што пры асушцы гэтыя балоты дадуць вялікую асадку, і павярховыя 0,25 см. іх павінны быць спалены для мэтаў культуры. Пагэтаму для культуртэхнічных мэтадаў было цікава прадбачыць, якой ступені раскладзенасьці торф мы будзем мець пасьля гэтых працэсаў, г. зн., калі прыдзецца мець справу, як з пахатным гарызонтам, з тымі пластамі, якія ў сучасны момант ляжаць на глыбіні каля 0,5 мэтра.

Ступень раскладзенасьці гэтых пластоў мохавых балот і паказана на мапе № 2.

Пры разглядзе гэтае мапы магчыма прыкмеціць, што звычайным тыпам балот басэйна адпавядае ў агуле свая характарная ступень раскладзенасьці.

Зьвесткі аб ступенях раскладзенасьці пахатнага гарызонту ў паказаным вышэй сэнсу мажліва сумаваць у наступнай табліцы:

| Тып балота | Падтып балота | Ступень раскладзенасьці пахатнага пласта ў балах | Увага |
|---|---|---|---|
| A | 1 | 1 | Падкрэсьленыя больш распаўсюджаныя балы. |
| | 2 | 1,2 | |
| | 3 | 3 | |
| | 4 | 3 | |
| | 5 | 3, рэд. 2 | |
| B | 1 | 3,2 | |
| | 2 | 2, 3 | |
| | 3 | 2, 3 | |
| | 4 | 2, 3 | |
| | 5 | 3 | |
| C | 1 | 2 | |
| | 2 | 3 | |
| | 3 | 3, 4 | |

Па гэтай шкале тарфянікі з баламі раскладзенасьці 3 і 4 патрэбна лічыць вельмі выгоднымі для культуры.

Цікава адзначыць, што шмат пераходных і першы падтып нізінных балот маюць мала расклаўшыся торф у павярховым (да 20 см.) пласту. На гэтых тыпах балот усюды, дзе яны вольны ад дрэўных зарась-

нікоў, зрабіліс тоўстыя ачосы з зялёных і сфагнавых махоў. Магчыма, што, дзякуючы моцнай вільготнасьці балот і рэдкасьці траўнага пакрову (40—80 п. сена на 1 дзес.), залежачай ад параўнаўчай беднасьці грунтавых вод спажыўнымі элемэнтамі, махі знаходзяць для сябе спрыяючую сраду і пышна разьвіваюцца.

Пры больш багатай срадзе, бязумоўна, разьвіцьцё махоў падаўлялася больш пышнай траўнай расьлінасьцю. Хоць вызначэньне хімізму грунтовых вод не рабілася, але беднасьць іх пэўна, бо яны цыркулююць у пластох перамытых кварцавых пяскоў, з якіх складаюцца мінэральныя глебы Талькаўскага басэйну і якія складаюць падглебы да глыбіні 10—20 мэт. На глыбіні 0,5 мэтр. нізінныя і пераходныя балоты маюць больш за ўсяго адметкі 3,5 і з павялічэньнем глыбіні ступень раскладзенасьці часьцей за ўсяго павялічваецца. Адзначаныя варункі маюць вялікае значэньне, бо пасьля асушкі і асадкі гэтых тарфянікаў і пасьля спаліваньня, а іншы раз і бяз спаліваньня ачосу з гэтых тыпаў балот робяцца добрыя лугавыя і палявыя ўжыткі.

Сфагнавыя балоты падтыпаў 1 — 2 нясуць звычайна торф малой раскладзенасьці да вялікай глыбіні, такім чынам культура іх будзе зьвязана з большымі, чым для ўсіх іншых тыпаў балот стратамі на вапну і азоцістыя ўгнаеньні і на асушку; акрамя таго ўцягненьне ў культуру сфагнавых балот 1 і 2 падтыпа патрабуе большае паступовасьці і большага працягу часу, параўнаўча, з пераходнымі і нізіннымі балотамі.

У зьвязку з тым, што эканоміка культуры сфагнавых балот падтыпаў 1 і 2 зусім ня вывучана і з тэхнікай іх культуры ніхто да гэтага часу ў Беларусі дасьледаў не рабіў, дык зразумела, што за іх культуру ў шырокім маштабу магчыма будзе прынятца толькі пасьля сур'ёзнае дасьледчае працы. Ці неабходна такая дасьледчая праца на сфагнавых балотах 1 і 2 падтыпаў?

На гэта пытаньне ня можа быць двух адказаў, бо плошча такога рода балот, як высьвятлілася дасьледаваньнем, вялізарная і было-б цікава высьвятліць магчымасьць пабудовы на іх выпасных ужыткаў. Пагэтаму мы лічым мэтазгодным даць і даем далей эскіз пабудовы на гэтым тыпу балот вопытнага вучастку.

**4. Засьмечанасьць глебы дрэўнымі рэшткамі і купінамі.**

Характарыстыка глеб у даных адносінах цікава для культур-тэхніка, бо большая ці меньшая засьмечанасьць балотнае глебы дрэўнымі рэшкамі і валакністымі купінамі вельмі адбіваецца на велічыні галоўных страт пры культуры балот.

Характарыстыкі балот у даных адносінах рабіліся такім чынам, што выдзяляліся плашчадкі, на якіх падлічвалася колькасьць пнёў, валакністых купін і хмызьнякоў і пасьля падліку ўсе гэтыя перашкоды выяўляліся ў ліку дзён, неабходных для расчысткі 1 гэкт.

Лік дзён, неабходных для расчысткі 1 гэкт., правяраўся па водзывах вопытных у гэтай справе сялян і па прыкладам такіх раскарчовак у іншых мясцох. Праверыць іх па спромбных расьцяробках мы ня мелі магчымасьці, дзякуючы адсутнасьці сродкаў на гэтую працу, але і без такое праверкі можна быць упэўненым, што нашы падлікі блізкі да сапраўднае патрэбы ў рабачае сіле на расьцяробку.

Манаграфічна цяжкасьць распрацоўкі прадстаўлена на мапе № 3, дзе прынятыя для распрацоўкі інтэрвалы афарбаваны ў розныя колеры. На мапе прынята пяць наступных балоў: 1) 0—20; 2) 20—40; 3) 40—60; 4) 60—80; 5) 80—100 рабочых дзён на 1 гэкт. Для вызначэньня ў грашох неабходна 1 дзень лічыць па 1,5 рубля.

Для розных падтыпаў балот аказаліся характарнымі наступныя балы распрацоўкі:

| Тып балота | Пад-тып. | Бал. распрацоўкі | Увага |
|---|---|---|---|
| A | 1 | 2 | Падкрэсьлены пераважаючы балы распрацоўкі |
| | 2 | 2 | |
| | 3 | 3, 2 | |
| | 4 | 3 | |
| | 5 | 3 | |
| B | 1 | 3 | |
| | 2 | 3, 5 рэдка 4,2 | |
| | 3 | 1, 2 | |
| | 4 | 2 | |
| | 5 | 3, 1, 2 | |
| C | 1 | 1 | |
| | 2 | 3 | |
| | 3 | 4, 5 рэдка 3 | |

Характарыстыка ў дазеных адносінах кожнага масыву балота відаць на мапе № 3.

Мохавыя балоты першых двух падтыпаў, такім чынам, патрабуюць на расьцяробку звычайна ў сярэднім 30 рабочых дзён.

Тры апошнія падтыпы патрабуюць большага напружаньня—каля 50 працоўных дзён.

Пераходныя балоты адрозьніваюцца вялікай рознастайнасьцю, але для большасьці з іх характэрна патрэба ў рабочай сіле, для раскарчоўкі ў 50 рабочых дзён на 1 гэктар.

Максымальнае колькасьці рабочае сілы для расьцяробкі патрабуе альшаньнік, а менавіта, ад 60 да 100 рабочых дзён на 1 гэктар, тады калі асаковыя балоты амаль не патрабуюць страт на расчытку.

Сумарныя колькасьці балот басэйна, патрабуючых тае ці іншае страты на расчыстку, відаць з наступнае табліцы:

| Балы распрацоўкі | I | II | III | IV | V |
|---|---|---|---|---|---|
| Лік гэктараў . . . . | 7540 | 12270 | 5810 | 1080 | 1400 |
| % ад сумы балот . . | 26,8 | 43,7 | 20,7 | 3,8 | 5,0 |

Такім чынам, большая частка талькаўскіх балот патрабуюць умераных страт на расчыстку.

**5. Прыватнае апісаньне балот басэйна р. Талькі.**

Балоты басэйна р. Талькі ў шмат мясцох ня маюць яскрава вызначаных натуральных межаў, а праз слаба павышаныя вадападзелы зьліваюцца з абшырнымі забалочанымі плошчамі суседніх басэйнаў.

Перш за ўсё Паўднёва-Заходняя мяжа басэйна ў шмат мясцох зьліваецца з балотамі, прылягаючымі да р. Пцічы, прытоку р. Прыпяці. Толькі на некаторых вучастках вададзел паміж гэтымі двумя басэйнамі прадстаўлены нізкімі пяшчанымі ўзвышшамі.

З Усхода басэйн р. Талькі зьліваецца з басэйнам р. Сіняй і балоты Тальскага Басэйну, якія тут знаходзяцца, прадстаўляюць толькі невялікую частку вялізарных забалочаных плошчаў, якія цягнуцца на ўсход да мястэчка Асіпавічы.

На Поўначы басэйн р. Талькі зьліваецца з басэйнам другога прытоку Сьвіслачы, а менавіта, з басэйнам р. Цітоўкі. У зонах, якія мяжуюць з другімі басэйнамі, балоты ня ўсюды падпалі падрабязнаму гіпсамэтрычнаму здымку, пагэтаму і дэталёвай глебы—батанічнай характарыстыкі балот у гэтых зонах рабіць было немагчыма.

Нявысьвятленасьць водападзелаў другаразрадных прытокаў, так характарная для Палесься, адчуваецца і ў апісваемым раёне, хаця і не ў такой рэзкай ступені, як у больш паўднёвых раёнах. Бязумоўна, што па дадзенай прымеце—значнае згладжваньне рэльефу басэйна р. Талькі трэба аднесьці да Прадпалесься.

Зрабіўшы такога роду агаворкі мы прыступім да апісаньня больш значных балотных масываў, якія складаюць басэйн р. Талькі.

1. Балотны масыў па базысам Л, М і Н у раёне Заст. Усох і воз. Грэмяч'ега.

Гэта масыў, складзены, галоўным чынам, з мохавых балотаў, дасьледаваны толькі часткова, бо ён распаўсюджваецца з Поўдня-Усход і зьліваецца з вялізарнымі балотамі па р. Сіняя, прытоку р. Сьвіслачы.

На дасьледаванай частцы па базысу „Л" відаць добра захаваўшыйся канал, побудаваны год 40 таму назад. Адмечаны цікавы вучастак асіньніку на сфагнавым балоце, які зьмяняецца моцным сфагнавым балотам (да 4 мэт.) з добра расклаўшымся торфам пад мохавым ачосам. Сасна на частцы гэтага балота мае 6-7 вяршкоў у дыямэтры на вышыні грудзей і мае добры выгляд, але гэта плошча невялікая.

У гэтай частцы, дзе сасна дае добры рост, склад тарфяніку наступны:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| на глыбіні | 0,25 | м. | сфагнум ступень расклад. | 3 |
| „ „ | 0,5 | „ | асака, гіпнум ступень расклад. | 4 |
| „ „ | 1,0 | „ | сасна, асака, гіпнум расклад. | 3 |
| „ „ | 1,5 | „ | пушыца, асака, трасьнік расклад | 2 |
| „ „ | 2,0 | „ | асака, рэшткі ліс[ь]цьвеных дрэў, пушыца | 3—4 |

Вучастак з добрым лесам за мінэральнай градою зьмяняецца тыповым сфагнавым балотам. Яго профіль:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 0,25 | м. | сфагнум | 0 |
| 0,5 | „ | „ | 1 |
| 1,0 | „ | сасна, пушыца, сфагнум | 2 |
| 1.5 | „ | сфагнум, пушыца, трасьнік | 3 |
| 2,0 | „ | сфагнум, пушыца, трасьнік | 3 |

Па базысах М і Н тыповыя сфагнавыя балоты, як відаць далей к басэйну р. Сіней, пераходзячыя ў пераходныя балоты.

2. Балоты па базысу В, ці „Канячае“, знаходзяцца на Поўдзень-Усход ад ак. Суцін.

З пачатку базыса да 21 пікета і вузкай (300 см.) стужкай па краёх гэты масыў мае пераходны характар ($B_2$); большая частка масыва прадстаўляе сфагнавыя балоты, у сярэдняй частцы $A_1$) дрэўнае расьліннасьці і характарнымі зарасьнікамі шэйхцэрыі.

Глыбіня балота 2,5—3-0 мэтр. у цэнтральных частках, а на пераходнай частцы каля 1,0 мэт.

Склад торфу ў цэнтральнай частцы наступны:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| На глыбіні | 0,25 | м. | сфагнум. . . . . . . . . . | Раскл. | 0 |
| „ | 0,5 | „ | сфагнум . . . . . . . . . | „ | 1 |
| „ | 1,0 | „ | сфагнум . . . . . . . . . | „ | 1 |
| „ | 1,5 | „ | сфагнум, пушыца, асака . . . . | „ | 2 |
| „ | 2,0 | „ | сфагнум, пушыца . . . . . . . | „ | 2 |

Склад балота на пэрыфэрычных (пераходных) частках (пікет 34, папяр. 34).

| | | |
|---|---|---|
| 0,25 | асака, сасна, трасьнік, сфагнум, зялёныя махі, пушыца. . . . . | 2 |
| 0,5 | асака, сасна, пушыца, мала сфагнума | 3 |
| 1,0 | асака, сасна, пушыца, трасьнік, адзінкамі сфагнум . . . . . . . | 3 |
| 1,5 | ілаваты пясок . . . . . . . | |

Склад на 13 пікеце па базысу (пераходнае балота) наступны:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| на глыбіні | 0,25 | м. | асака, сасна, бяроза, пушыцца, мала сфагнума. . . . . . . . | Раскладзена |
| „ | 0,5 | „ | асака, пушыца, бяроза, рэдка расьце | 2 |
| | | | сфагнум . . . . . . . . | 2 |
| „ | 1,00 | „ | асака, пушыца, бяроза, рэдка сфагнум . . . . . . . . . . | 3 |
| „ | 1,5 | „ | асака, пушыца . . . . . . . | 3 |
| ніжэй падглеба. | | | | |

Месцамі на гэтым масыве ёсьць выпаленыя на невялікую глыбіню плошчы з добра расклаўшымся торфам.

3. Масыў па базысу Б, Ур. „Боркі“.

Знаходзіцца на Паўднёвым Захадзе ад ак. Суціна і цягнецца да р. Пцічы ў напрамку к вёсцы Жыцін. Большая частка плошчы—адкрытае нізіннае (сенажаці) балота падтыпу $C_1$. Па краёх дзе-ні-дзе растуць алешкі. На Поўначы і Поўднёвым Усходзе на больш высокіх плошчах нізіннае балота пераходзіць у пераходнае, тыпа $B_1$, $B_5$, $B_3$. Склад гэтага масыву на папярэч. 44, пікеце № 20:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | | | | Раскладзена |
| на глыбіні | 0,25 | м. | асокі, гіпнум, лісьцяныя прыроды . | 2 |
| „ | 0,5 | „ | асокі, гіпнум, хвошч, шабельнік, вярба | 3 |
| „ | 1,0 | „ | асокі, альха, трасьнік . . . . . | 4 |
| „ | 1,5 | „ | асокі, гіпнум . . . . . . . | 4 |

Для балота глыбіня каля 1,00 мэтр.

4. Масыў па базысу Г на захад ад вёскі Суціна да р. Пцічы ў вак. пас. Шэлехава і вёс. Заржавы.

Вялікая частка масыву (50 проц.) прылічваецца да сфагнавага балота тыпу $A_2$ і $A_1$. Рэшта адносіцца да пераходнага тыпу $B_2$, 4 і 5 і к нізіннаму $C_3$.

Глыбіня мохавае часткі балота ў сярэднім каля 1,5 м. Пабудова яго на пікеце № 4 і папяр. 64:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 0,25 | м. | сфагнум . . . . . . . . . . | 0 |
| 0,50 | „ | сфагнум . . . . . . . . . . | 1 |
| 1,00 | „ | сфагнум, пушыца, сасна . . . . | 3 |
| 1,5 | „ | гіпнум, пушыца . . . . . . . . | 3 |
| 2,0 | „ | пушыца, сфагнум, гіпнум, альха. . | 4 |

Глыбіня пераходных балот гэтага масыву ў сярэднім 1,5 мэтра. Склад яго на папяр. 54, пікеце 40 наступная:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| на глыбіні | 0,25 | м. | гіпнум, хвошч, пушыца, сасна, альха, адзінкамі сфагнум. . . . . | Раскладзена 2 |
| „ | 0,50 | „ | асокі, гіпнум, пушыца сфагнум. . . | 3 |
| „ | 1,00 | „ | сфагнум, сасна, гіпнум, трасьнік. . | 3 |
| „ | 1,5 | „ | пушыца, асокі, гіпнум, бяроза, рэдка сфагнум . . . . . . . . | 3 |
| „ | 2,00 | „ | гіпнум, асокі, бяроза. . . . . . | 3 |

Глыбіня ольсаў у сярэднім 1,5 мэтра, склад іх на пікеце № 55 папяр. 54 наступны:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Глыбіня | 0,50 | м. | асокі, гіпнум, альха, вярба . . . | 5 |
| „ | 1,00 | „ | асокі, альха . . . . . . . . . | 4 |
| „ | 1,50 | „ | „ „ . . . . . . . . . | 4 |

5. Балотны масыў па базысу А.

Прырэчныя балоты (нізінныя), якія знаходзяцца каля р. Талькі, каля 600 мэтраў у шырыню, падтыпаў С1 і С3 ад утоку яе ў р. Сьвіслач і да вёскі Заржавы; скарыстоўваюцца большаю часткай як сенажаці і толькі дзе-ні-дзе на бакох і ў вытокаў ракі—зарасьлі лесам, галоўным чынам, алешкаю.

Торф глыбінёю ў большай частцы 1,00 мэт. бал раскладзенасьці паверхнёвага пласта 2—3.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Бурэньне. пік № 161 | 0,25 | м. | асокі, бярвеньн, ольха, хвошч. . . | 3 |
| Глыбіня | 0,50 | „ | асокі, хвошч . . . . . . . . | 4 |
| „ | 1,00 | „ | асокі, хвошч, трасьнік . . . . . | 4 |
| „ | 0,25 | „ | асокі, трасьнік, злакі, вярба, альха . | 2 |
| „ | 0,50 | „ | асокі, шабельнік, зялёныя махі, вярба, рэдка пушыца. . . . . . | 3 |
| „ | 1,00 | „ | асокі, трасьнік, хвошч, шабельнік, лаза . . . . . . . . . . . | 3 |
| „ | 1,50 | „ | асокі, трасьнік, бяроза, альха, шабельнік. . . . . . . . | 4 |

6. Мурашэўскі масыў базыса Ж,—знаходзіцца на П.—У. ад хутароў Мацэвічы на Поўнач ад вёскі Камянкі.

Дзьве трэці ўсяе плошчы займаюць сфагнавыя балоты, галоўным чынам, падтыпу $A_2$, з некалькі ўплатнёным торфам, як відаць, дзякуючы неаднойчы адбыўшымся тут пажарам. Ёсьць і ня так даўно апаленыя плошчы з памёршай сасною і амаль пазбаўленыя сфагнавага пакрову, месцы, якога занята маладым Rolytichum. Глыбіня торфу хістаецца ад 1 да 2 мэтр., але ёсьць месцы і да трох мэтраў глыбінёю.

Для характарыстыкі батанічнага складу торфу і ступені раскладзенасьці на розных глыбінях магчыма ўзяць разрэз па 28-ай просецы на 38 пікеце.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Глыбіня | 0,10 | м. | сфагнум . . . . . . . . . . | Раскладзен. | 0 |
| „ | 0,50 | „ | сфагнум, сасна, пушыца, трохі падбелу | „ | 2 |
| „ | 1,00 | „ | „ „ „ „ „ | „ | 2 |
| „ | 2,00 | „ | сфагнум, пушыца, сасна . . . . | „ | 4 |

На Паўночна-Заходнім краю ў мясцох стыку з пераходным балотам магутнасьць сфагнавага пласта зьменшваецца і падсьцілаецца тарфамі пераходных балот.

Месцы, дзе гэты пласт не перавышае 0,5 мэтр. выдзелены ў падтып $A_4$, бо акрамя гэтае прыкметы і павярхоўны расьлінны пакроў мае лепшае разьвіцьцё.

Пераходныя балоты ў мясцох стыку з мохавымі пакрыты сасновым і саснова-бярозавым лесам. Рэшта-ж прадстаўляе бярэзьнікі з большай ці меншай прымесьсю Salix pentandra. Назіраецца таксама прымесь ольхі і месцы, дзе яе больш 30 проц. выдзелены ў нізінныя падтыпу $A_3$.

Усе пераходныя і нізінныя балоты маюць торф даволі добрае раскладзеннасьці—часткай з перавагаю дрэўных рэштак.

Для характарыстыкі возьмем разрэз на 68 пікеце 10-га папярэчніку базыса Ж.

| | | Раскладз. |
|---|---|---|
| Глыбіня 0,1 м. | бяроза, сасна, пушыца, трохі злакай і асакі . | 3 |
| „ 0,5 „ | бяроза, лаза, пераважна асака і пушыца . . | 3 |
| „ 1,0 „ | бяроза, лаза, асака хвошч . . . . . | 5 |

7. Рэшту балот базыса Ж, балоты базыса Д—да вёскі Любочын і балоты базысу К—магчыма аб'яднаць у адзін масыў, бо ў большай сваёй частцы яны блізкі па характару расьліннасьці і складу торфу.

Ад другіх балот на Захадзе яны адмежаваны шырокай паласою пахатных палёў вёсак Сенча, Клецішын, Любочын, Амельна, на Поўдні вёскай Клетная і ракой Талькай, з вузкай паласою прырэчных балот і, нарэшце, на Ўсходзе мінэральныя землі адмяжоўваюць яго ад Мурашэўскага масыву. Гэта вельмі зрэзаныя мінэральнымі землямі балоты месцамі са значным уключэньнем даволі дробных астраўкоў і градак. Дзьве трэці ўсяе плошчы займаюць пераходныя балоты ўсіх падтыпаў, але пераважаюць $B_5$.

Значная частка плошчы трох апошніх падтыпаў некалькі падрыхтавана да скарыстаньня іх, як сенажацяў, часткова зьнішчана хмызьняковая і дрэўная расьліннасьць, зьнішчаны таксама і купіны, што зьніжае затрату рабочае сілы пры прывядзеньні іх у патрэбнае для ворыва становішча.

Глыбіня торфу тут вельмі хістаецца, але ў сярэднім магчыма лічыць 2 мэтры. Ёсьць месцы з торфам глыбінёю 4 мэтры. Ступень раскладзенасьці торфу, амаль што ўсюды 3, але ў большай частцы падтыпу $B_4$ і дзе-ні-дзе на даўна рашчышчаных пад лог мясцох—толькі 2.

Для характарыстыкі батанічнага складу і ступені раскладзенасьці торфу па глыбінах возьмем два глыбокіх бурэньня:

1) Базыс Ж, 40 прасека, пікет 4.

| | | Раскладз. |
|---|---|---|
| Глыбіня 0,1 м. | асака, бяроза, пушыца, сасна . . | 3 |
| „ 1,0 „ | гіпнум, пераважна, асака і пушыца | 3 |
| „ 2,0 „ | гіпнум, асака, бяроза, лаза . . . | 4 |
| „ 3,2 „ | гіпнум, альха, асака . . . . . . | 4 |

2) Базыс Д, 18 прасека, пікет 21:

| | | |
|---|---|---|
| Глыбіня 0,1 м. | гіпнум, бяроза, асака, хвошч . . | 3 |
| „ 0,5 „ | бяроза, сасна, асака, пушыца, хвошч, гіпнум . . . . . . . | 3 |
| „ 1,0 „ | асака, гіпнум, пушыца, дравяс. лісьцяных, шабельнік . . . . | 4 |
| „ 2,0 „ | гіпнум, пераважна асака і лаза . | 4 |
| „ 2,7 „ | асака, пушыца, гіпнум, лаза . . | 4 |

На мясцох з больш кепскай раскладзенасьцю торфу з паверхні:

| | | | Расклaдз. |
|---|---|---|---|
| Глыбіня | 0,1 м. | асака, гіпнум, пушыца, сасна . . | 2 |
| " | 0,5 " | " " сасна, бяроза . . | 2 |
| " | 1,0 " | " " пушыца . . . . | 3 |

У Паўночнай частцы масыву ў саўгасе Вілень абшарнікам Мірковічам было дэталёва асушана каля 30 дзес. пераходных балот і частка гэтае плошчы была закультывавана. Зараз-жа гэтыя вучасткі закінуты і выглядаюць горш някранутых, таму што скрозь зацягнуты зялёнымі махамі з даволі плотнай дзярнінай у той час, як на вучастках, пакрытых дрэўнай расьліннасьцю, самы верх тарфянага пакрову мае лепшую раскладзеннасьць і ў травастоі заўважваецца вялікі ўдзел злакаў (вейніку).

Пры выхадах пераходных балот на мінэральную глебу вельмі часта знаходзяцца вузкія каёмкі нізінных, якія пакрыты альховым, з вялікай прымесьсю бярозы, лесам, іншы раз і чыстыя алешнікі, найчасьцей з добра распаўшымся торфам.

Ва Ўсходняй частцы масыву даволі вялікая плошча занята сфагнавым балотам па краёх падтыпа $A_2$ у цэнтральнай частцы $A_1$ з чыстымі зыбкімі мачажынамі, якія густа парасьлі па сфагнавым пакрову.

Торф на глыбіні 0,5 мэтра ўсюды яшчэ нераскладушыйся, акрамя невялікага вучастку на Паўночным Захадзе падтыпу $A_4$.

Для характарыстыкі батанічнага складу і ступені раскладзенасьці торфу зроблена апісаньне бурэньня на 34 пікеце 40 прасекі, базысу Ж

| | | | Расклaдз. |
|---|---|---|---|
| Глыбіня | 0,1 м. | сфагнум . . . . . . . . | 0 |
| " | 0,5 " | сфагнум, пушыца . . . . . . | 1 |
| " | 1,0 " | сфагнум, пушыца, падбел, журавіны | 1 |
| " | 2,0 " | сфагнум, пушыца, асака, касандра, журавіны . . . . . . . | 3 |

Зьмешчаны батанічны аналіз паказвае, што махавыя ўтварэньні, ужо даволі старыя —ляжаць на балоце пераходнага тыпу.

8. Балотны масыў па базысах „Д і Е"—абмежаваны на Ўсходзе і Захадзе мінэральнымі землямі вёсак Вілень, Кліцышына, Любочын, Амельна, Гарэлец на Поўначы-ж шляхам паміж вёсак і Гарэлец.

Каля 50% плошчы гэтага масыву занята маладымі сфагнавымі балотамі—пераважна падтыпу $H_3$—на глыбіні 0,5 мэтра з торфам сярэдняе раскладзенасьці. На мясцох стыку з пераходнымі балотамі ёсьць паласы падтыпу $A_4$.

Характарнае бурэньне:

| | | | Расклaдз. |
|---|---|---|---|
| Глыбіня | 0,1 м. | сфагнум, пушыца, . . . . . | 1 |
| " | 0,5 " | сфагнум, пушыца, асака . . . | 3 |
| " | 1,0 " | асака, пушыца, гіпнум, сфагнум, сасна . . . . . . . . | 3 |

Пераходныя балоты двох падтыпаў $B_2$ і $B_3$ са значнай прысутнасьцю сфагнавых махоў і паступова засьцілаемыя паўзучым махавіком. Усходні край пераходных балот лепшы па якасьці з невялікай колькасьцю сфагнавых махоў.

Бурэньне на 4 пікеце, 94 прасекі, Базыса Д:

| | | | Расклaдз. |
|---|---|---|---|
| Глыбіня | 0,1 м. | сфагнум, пушыца, гіпнум, асака . | 1 |
| " | 0,5 " | асака, пушыца, бяроза, сасна . . | 3 |
| " | 1,0 " | асака, бяроза, хвошч . . . . | 3 |

Усходні край балота заняты вузкімі палоскамі нізіннага балота падтыпу $C_3$.

9. Балоты па базысу „Е“ к Паўноч. Зах. ад вёс. Вілень да ракі Пцічы.

Дзякуючы васеньнему рачному разводзьдзю, давесьці дасьледаваньне да самае ракі не ўдалося.

Дасьледаваная частка масыва складаецца пераважна з пераходных балот, галоўным чынам, падтыпаў $B_3$, $B_2$ і $B_5$.

У расьлінным пакрове вялікіх адступленьняў ад выпрацаваных для данага масыву тыпаў няма. Глыбіня торфу ў сярэднім больш 2,00 мэтраў.

Ступень раскладзенасьці—2, менш—3.

Бурэньне на 63 пікеце, 166 папярэчніку:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Глыбіня 0.25 | м. | асака, злакі, пушыца. | Расклaдз. | 2 |
| „ 0,50 | „ | „ зялёныя махі, сасна | „ | 3 |
| „ 1,00 | „ | „ трасьнік, шабельнік | „ | 3 |
| „ 1,50 | „ | „ зялёныя махі, пушыца | „ | 3 |
| „ 2,00 | „ | „ зялёныя махі, злакі, бяроза, шабельнік | „ | 3 |

Пікет 13, прасекі 174.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Глыбіня 0,25 | м. | асокі, трасьнік, вярба | 3 |
| „ 0,50 | „ | „ сасна, трасьнік, вярба | 3 |
| „ 1,00 | „ | „ „ вярба | 3 |
| „ 1,50 | „ | бяроза | 3 |
| „ 2,00 | „ | шабельнік | 4 |

У цэнтральнай частцы дадзенага масыву знаходзяцца мохавыя балоты, падтыпу $A_2$, з глыбінёй торфу ў сярэднім каля 2,00 мэтраў. Ступень раскладзенасьці на глыбіні 0,50 — 3.

Бурэньне пікету 56, папярэчніка 156:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Глыбіня 0,25 | м. | сфагнум | 1 |
| „ 0,50 | „ | сфагнум, пушыца, сасна | 3 |
| „ 1,00 | „ | пушыца, сасна, сфагнум, рэдка расьце асака | 3 |
| „ 1,50 | „ | пушыца, асака, сфагнум, сасна, трасьнік | 3 |
| „ 2,00 | „ | асака, сфагнум, пушыца, сасна | 3 |

**6. Характар і велічыня асноўных затрат пры ўцягненьні ў культуру розных тыпаў балот басэйну р. Талькі.**

На падставе сабраных матэрыялаў, папрабуем азначыць разьмеры галоўных мэліорацыйных затрат на той ці іншы тып балот. Спачатку некалькі заўваг аб затратах на асушку. Калі нават допусьціць, што сума затраты на галоўныя вода-адводныя магістралі, якая можа быць канчаткова высьветлена толькі пасьля пабудовы галоўнага мэліорацыйнага праэкту, абсалютна будзе вялікая, дык, прымаючы пад увагу, што ўзятая сума павінна быць падзелена на тысячы гэктараў, трэба згадзіцца з тым, што гэтыя затраты ня змогуць быць вельмі цяжкімі пры разьліку на 1 гэктар.

Пры выбары тыпу дэталёвай асушальнай сеткі прыдзецца лічыцца перш за ўсё з малымі ўхіламі пераходных і нізінных балот Талькаўскага басэйну; гэтыя малыя ўхілы не даюць магчымасьці застанавіцца на дрэнажы і пагэтаму прыдзецца прымяняць, галоўным чынам, на нізінных і пераходных балотах сетку адкрытых канаў.

Прымаючы пад увагу напрамак організуемых гаспадарак і тыя культуры, якія будуць прадуцыравацца (аб чым будзе сказана далей)

па шматгадоваму вопыту на Камароўскім балоце, лепшаю глыбінёю канаў прыдзецца прыняць 1,0 мэтр., а адлегласьць паміж імі ў сярэднім 40 мэтраў.

Такога роду дэталёвая абсушка будзе каштаваць па 80—90 руб. з 1 гэктара (гл. працы Менскае Балотнае Станцыі № 12). А разам з выдаткамі на галоўныя магістралі трэба прыняць орыентыровачную суму асушкі 1 гэкт. нізінных і пераходных балот па 100 руб.

Пры абсушцы мохавых балот, якія маюць вялікія ўклоны, бязумоўна трэба лічыць мэтазгодным застанавіцца на дрэнажу, хоць ён у першы год патрабуе значна больш асноўных затрат, бо па дадзеным Брэменскае Станцыі пры дрэнажу мохавых балот дасягаецца лепшая вільготнасьць і лепшае ўцяпленьне глебы.

Тэрмін службы дрэнажу трэба лічыць у сярэднім 20 год. Дрэнаж на камароўскім балоце, закладзены ў 1914 г., да гэтага часу дзейнічае без перабояў.

Пры адлегласьці дрэнажных лініяў на 20—30 мэтр. і пры пабудове прыстасаваньняў для рэгуляваньня вільготнасьці глебы—на такую абсушку трэба лічыць з выдаткамі на магістралі каля 250 руб. з 1 гэкт. (гл. працы Балотнае Станцыі № 12).

У дасьледаваным Балотнай Станцыяй раёне аказаліся землі ўсіх катэгорый 50.300 гэкт., балот-жа ўсіх тыпаў 28.100 гэкт., альбо 55,8% ад усяе плошчы. Суадносіны паміж трыма асушанымі тыпамі балот былі пададзены вышэй.

Арыентыровачныя лічбы галоўных затрат пры культуры трох асноўных тыпаў балот магчыма прадставіць у наступнай табліцы:

| Характар асноўных затрат | Велічыня асноўных затрат у рублёх на 1 гэктар для: Сфагнавых балот А | Пераходных балот В | Нізінных балот С |
|---|---|---|---|
| 1. Абсушка | 250 | 100 | 100 |
| 2. Масты і шляхі | 30 | 40 | 40 |
| 3. Раскарчоўка | 35—55 | 15—125 | 15—125 |
| 4. Фрэзаваньне дзярніны | 25 | 25 | 25 |
| 5. Выпальваньне дзярніны | 25 | 0—15 | 0--15 |
| 6. Унясеньне 4 тон вапны па 30 руб. за тону | 120 | — | — |
| Усяго | 285—505 | 180—305 | 180—305 |

З гэтае схэмы асноўных затрат на падрыхтоўку тэрыторыі да культуры і калёнізацыі відавочна пераважнасьць нізінных і пераходных балот перад мохавымі.

Калі маецца магчымасьць выбіраць, тады ў першую чаргу трэба падрыхтаваць да культуры тыпы В і С.

Другім выдаткам, які мае таксама характар асноўных укладаньняў, толькі патрабуючы больш хуткай амартызацыі—гэта інвэнтар.

Па вопыту замежжа і ў Расеі для работы на вялікіх плошчах карысна прымяняць складаныя машыны, а менавіта, для апрацоўкі глебы фрэзера і для ўплатненьня глебы—маторныя каткі.

З фрэзераў лепш за ўсё падыходзіць да балот 35-сілавая машына Сімэнса-Шукерта, каштоўнасьцю з наборам запасных частак 11.000 р.

Атрад з трох фрэз з маторным катком і абсталяваньнем слюсарнай майстэрні будзе каштаваць 42.000 руб. і гэтым атрадам, калі палічыць, што ва ўсіх умовах Беларусі машына будзе ў ходу 120 дзён—будзе падрыхтавана за сэзон 720 гэктараў.

**7. Аб арганізацыі ў басэйне р. Талькі дасьледчага пункту на сфагнавым балоце.**

Пасьля таго, як у культуру будуць уцягнены вольныя пераходныя і нізінныя балоты басэйна р. Талькі, наступіць чарга мохавых балот, якіх маецца тут 9.900 гэкт.—вялікія і зусім вольныя плошчы.

Пагэтаму было-б своечасова прыняць меры да высьвятленьня пытаньня іх культуры і да нахаджэньня карысных спосабаў іх выкарыстоўваньня. Для гэтага неабходна арганізаваць у басэйне р. Талькі дасьледчы вучастак прыблізна на 20 гэкт. з тым, каб ён пасьля пяцігадовай працы даў кіруючыя ўказаньні аб тэхніцы культуры сфагнавых балот. З прычыны таго, што ў дадзеным раёне будуць працаваць тыя ці іншыя машыны па падрыхтоўцы калфондаў, дык вялікіх страт на забясьпечаньне дасьледчага вучастку інвэнтаром не прадбачыцца.

Арыентыровачны каштарыс на арганізацыю і ўтрыманьне такога дасьледчага вучастку наступны:

### Арганізацыйныя затраты.

| | |
|---|---|
| 1. Падрыхтоўка тэрыторыі 20 гэкт. па 50 р. | 10.000 р. |
| 2. Жылыя будынкі і халодныя: | |
| а) Дом для канторы, палявой лябораторыі і загадчыка | 6.000 „ |
| б) Дом для рабочых і служачых на 4 кватэры | 5.000 „ |
| в) Надворныя будынкі | 3 000 „ |
| 3. Жывы і мёртвы інвэнтар | 2.500 „ |
| Разам | 26.500 руб. |

### Штогодныя затраты.

| | |
|---|---|
| 1. Утрыманьне штату: | |
| а) Загадчык дасьледчым вучасткам па 200 р. | 2.400 р. |
| б) Канторшчык па 50 руб. | 600 „ |
| в) Назіральнікі па 50 „ | 600 „ |
| г) Два рабочых па 30 „ | 720 „ |
| 2. Насеньне і ўгнаеньне на 20 гэкт. па 60 руб. | 1.200 „ |
| 3. На падзённых рабочых | 2.000 „ |
| Разам | 7.520 руб. |

Калі памеркаваць, што дасьледчы пунк прапрацуе 5 год (тэрмін дастатковы для высьвятленьня асноўных пытаньняў), тады будзе затрачана ўсяго на гэтую справу 64.100 рублёў і будзе высьветлена, на што прыгодны 9.900 гэкт. сфагнавых балот у басэйне р. Талькі, а разам з тым і 500.000 гэктараў сфагнавых балот Беларусі.

# IV. Вынікі эканамічнага дасьледаваньня басэйна ракі Талькі.

**Мэта і мэтад выкананьня працы.** Мэтаю гэтае працы было даць магчымую характарыстыку раёну, у якім знаходзіцца балотны масыў, каб, на падставе гэтага матэрыялу, магчыма было будаваць сапраўдны, адпавядаючы эканамічным умовам раёну плян уцягненьня ў культуру дадзенага балотнага масыву і яго скарыстоўваньня.

З прычыны абмяжованасьці часу, які мела дасьледчая партыя, эканамічнае дасьледваньне не магло быць пастаўлена дастаткова шырока і насіла больш рэкогнасцыровачны характар. Дзякуючы гэтаму прышлося абмяжавацца зборам статыстычных зьвестак-падатковых дадзеных па тых вёсках, якія прылягаюць да гэтага балотнага масыву і маюць удзел у карыстаньні гэтым балотам, 9-цю бюджэтамі, кароткімі пасялённымі бланкамі і, павярхоўным апісаньнем самога балота, яго скарыстоўваньня і ўраджайнасьці.

Распрацаваны толькі 6 бюджэтаў, тры бюджэты хутарскога землякарыстаньня вёскі Жыціна і тры—праспалоснага ў вёсцы Суціна. Распрацоўка вялася па групам; у аснову клалі забясьпечанасьць пахацьцю. Групоўка па пахаці, а не па пасеву рабілася таму, што ў падатковых дадзеных пасеў ня ўлічаны.

Масавы матэрыял—падатковыя дадзеныя па 1844 гаспадарках апрацаваны матэматычным спосабам—вывядзеньнем сярэдніх і разьбіты на тры групы.

Але з прычыны таго, што ў лік дасьледаваных сяленьняў увайшлі хутары, пасёлкі і праспалоснае карыстаньне, апрацоўку прышлося весьці па формах землякарыстаньня, аб'яднаўшы хутары і пасёлкі ў адну групу, а праспалоснае карыстаньне ў другую.

Усе гаспадаркі такім чынам пабіліся на наступныя групы:

*Табліца № 1.*

| Групы | Разьмеркаваньне гаспадарак па групах: I | | II | | III | | Усяго | | Разьмер груп па колькасьці пахаці на двор | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Форма землякарыстаньня | Лік гаспадарак | %% | Лік гаспадарак | %% | Лік гаспадарак | %% | Лік гаспадарак | %% | I | II | III |
| Праспалосіца . . | 301 | 26,5 | 656 | 59,3 | 159 | 14,2 | 1116 | 100 | 0—1,7 | 1,8—4,2 | 4,3 і > |
| Хутары і пасёлкі . | 217 | 29,8 | 381 | 52,4 | 130 | 17,8 | 728 | 100 | 0—2,3 | 2,4—4,6 | 4,7 і > |

З табліцы відаць, што забясьпечанасьць пахацьцю па вёсках і хутарох розная і што хутары забясьпечаны ў лепшай ступені. Акрамя таго, у вёсках пры праспалосным землякарыстаньні назіраецца вялікая дыфэрэнцыяцыя гаспадарак.

Гэта будзе больш рэльефна відаць, калі правесьці сярэднія велічыні забясьпечанасьці пахацьцю па групах.

*Табліца № 2.*

| Землякарыстаньне | I | II | III |
|---|---|---|---|
| Праспалосіца . . | 1,3 | 2,7 | 5,5 |
| Хутары і пасёлкі . . | 1,8 | 2,9 | 5,9 |
| Сярэдняе . . . . | 1,44 | 2,9 | 5,7 |

*Табліца № 3.*

Прымаючы забясьпечанасьць пахацьцю 1-ае групы за 100, будзем мець адпаведна:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Празпалосіца . . . | 100,0 | 208 | 423,0 |
| Хутары і пасёлкі . . | 100,0 | 161,0 | 327,0 |

Пры параўнаньні бюджэтных дадзеных з дадзенымі падатковых сьпісаў, назіраецца значная розьніца ў забясьпечанасьці гаспадарак капіталамі. У бюджэтах забясьпечанасьць значна вышэйшая. Найбольш рэльефна гэта назіраецца ў пытаньні забясьпечанасьці зямельнымі ўжыткамі і сьвіньнямі.

Для ілюстрацыі паказваю табліčку забясьпечаннасьці ўжыткамі і жывёлаю аднае сярэдняе гаспадаркі, па бюджэтах і падатковых дадзеных, ня ўлічваючы розьніцы формаў землякарыстаньня:

*Табліца № 4.*

| Паказчыкі | I | | | II | | | III | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Бюджэты | Масав. дадз. | | Бюджэты | Масав. дадз. | | Бюджэты | Масав. дадз. | |
| | | Абсол. велічыня | У %/% ад бюджэту | | Абсол. велічыня | У %/% ад бюджэту | | Абсол. велічыня | У %/% ад бюджэту |
| Пахаць . . . . . | 1,95 | 1,44 | 74,3 | 4,37 | 2,90 | 61,80 | 6,45 | 5,7 | 88,3 |
| Сенажаць . . . . . | 1,50 | 1,29 | 89,3 | 2,75 | 2,20 | 80,00 | 6,50 | 3,81 | 58,60 |
| Каровы . . . . . | 1,25 | 1,60 | 128,0 | 2.75 | 2,38 | 86.50 | 3,25 | 3,25 | 100,0 |
| Малад. буйн. раг. жывёлы . . . . | 0,50 | 0,57 | 114,0 | 1,0 | 0,82 | 82,00 | 2,5 | 1,6 | 64,0 |
| Рабоч. коні . . . . | 1,00 | 0,63 | 63,0 | 1,0 | 0,91 | 91,0 | 1,5 | 1,21 | 80,6 |
| Сьвіньней . . . . | 1,75 | 0,70 | 40,0 | 5,25 | 1,26 | 24,0 | 5,75 | 1,61 | 28,0 |
| Душ сям'і . . . . | 5,5 | 4.0 | 72,7 | 3,5 | 5,26 | 150,3 | 6.5 | 7,00 | 107,7 |

З гэтае таблічкі мы бачым, што па ўсім паказчыкам за выключэньнем буйнае рагатае жывёлы ў 1-й групе і душ сям'і ў двох апошніх групах, забясьпечанасьць гаспадаракі па бюджэтам вышэй. Адгэтуль напрашваецца вывад, што бюджэтныя гаспадаркі выбраны ня ўдала, бо яны не зьяўляюцца сапраўднымі тыпамі сярэдніх гаспадарак па групах.

Для праверкі тыповасьці нашых бюджэтаў параўнаем гэтыя-ж паказчыкі па тых-жа гаспадарках, у бюджэтным іх апісаньні і ў апісаньні падатковым:

*Табліца № 5.*

| Групы | I | | | II | | | III | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Паказчыкі | Бюджэты | Падатковыя дадзеныя | | Бюджэты | Падатковыя дадзеныя | | Бюджэты | Падатковыя дадзеныя | |
| | | Абсол. велічыня | У %% да бюджэтаў | | Абсол. велічыня | У %% да бюджэтаў | | Абсол. велічыня | У %% да бюджэтаў |
| Пахаць . . . . . | 1,95 | 1,40 | 71.0 | 4,37 | 2,85 | 64,0 | 6,45 | 4,27 | 66,0 |
| Сенажаць . . . . | 1,50 | 1,05 | 70,00 | 2.75 | 2,00 | 72,00 | 6,50 | 4,57 | 70,0 |
| Каровы . . . . . | 1,25 | 0,50 | 40,0 | 2,75 | 2,50 | 91,0 | 3,25 | 3,50 | 107,0 |
| Маладн. буйн. раг. жывёлы . . . . . | 0,50 | — | — | 1,0 | 1,5 | 150,0 | 2.5 | 2,5 | 100,0 |
| Рабоч. коні . . . . | 1,0 | 1,0 | 100,0 | 1,0 | 1,0 | 100,0 | 1,5 | 1,5 | 100.0 |
| Сьвіньні . . . . . | 1,75 | 0,5 | 28,0 | 5,25 | 2,0 | 38,0 | 5,75 | 1,5 | 26.0 |
| Душ сям'і . . . . | 5,5 | 5,5 | 100,0 | 3,5 | 3,37 | 96,3 | 7,0 | 7,0 | 100,0 |

Пры параўнаньні гэтых двух таблічак, мы можам сказаць, што ўхіленьні ад бюджэтаў у адным і другім выпадку ў асноўных паказчыках вельмі блізкі, за выключэньнем кароў і маладняка буйнае рагатае жывёлы, якіх па бюджэтах нават менш і душ сям'і — першая група па бюджэтах больш, а другая—менш.

Такія здаючыяся разыходжаньні прыведзеных паказчыкаў тлумачацца тым, што пры падатковым уліку зямельныя ўжыткі %% на 20—25 былі не даўлічаны. Што датычыцца жывёлы, дык тут часткова яна была пры ўліку ўкрыта, часткова за апошнія гады маглі быць зьмены, што ў выніку і дае некаторую розьніцу.

Такім чынам, без асаблівай пагрэшнасьці магчыма лічыць, што нашы бюджэты пастаўлены ўдала, што яны зусім добра адбіваюць сабой намечаныя сацыяльна-эканамічныя групы, і што па іх мы маем магчымасьць прааналізаваць прыбытковасьць гаспадарак, якія нас цікавяць.

## Характарыстыка раёну.

**Месцазнаходжэньне, дальнасьць рынку і шляхі зносін.**

Басэйн ракі Талькі ўваходзіць у дзьве адміністрацыйныя Акругі, часткова ў Менскую Акругу, ахапляючы значную частку Пухавіцкага раёну і ў Бабруйскую Акругу—займаючы нязначную частку Старадароскага раёну і цягнецца да двох Станцый Заходняй чыгункі Талька і Станцыі Пухавічы.

Бліжэйшы рынак збыту м. Пухавічы, які знаходзіцца у 15 кілёмэтрах ад Цэнтральнае часткі басэйна, галоўны рынак—Бабруйск у 40 кілёмэтрах і Менск у 100 кілёмэтрах ад цэнтральнае яго часткі.

Асноўнымі шляхамі зносін служаць прасёлачныя пуці і тракты, якія ў час дасьледаваньня знаходзіліся ў даволі добрым стане. Праз балотны масыў ад вёскі Суціна да в. Крымак вайсковым ведамствам у гады

вайны прakладзена грэбля, якая да гэтага часу падтрымлівалася насельніцтвам—служыць добрым шляхам зносін. З больш адлеглымі гандлёвымі цэнтрамі: Менскам і Бабруйскам, шляхам зносін зьяўляецца чыгунка.

**Насельніцтва.** Насельніцтва Пухавіцкага раёну, у якім знаходзіцца большая частка басэйна р. Талькі, па дадзеных Ц. С. К. за 1926 год, па полу і работніках разьмяркоўваецца так:

*Табліца № 6.*

| | Лік гаспадарак | Мужчын | | Жанчын | | Абоега полу | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Усяго | Работнікаў | Усяго | Работнікаў | Усяго | Работнікаў |
| Па раёне . . . . . | 7151 | 17863 | 8661 | 19241 | 8148 | 37104 | 16809 |
| На адну гаспадарку . . | — | 2,49 | 1,22 | 2,69 | 1,13 | 5,18 | 2.35 |

Па дадзеных нашага дасьледаваньня (падатковыя дадзеныя па 1844 гаспадарках) на адну наяўную гаспадарку прыходзіцца:

*Табліца № 7.*

| Формы землякарыстаньня | Абоега полу | |
|---|---|---|
| | Усяго | Работнікаў |
| Па хутарох і пасёлках . . | 5,1 | 2.60 |
| Па вёсках . . . . . . | 5,6 | 4,50 |

Па хутарох і пасёлках розьніцы з дадзенымі ЦСК, як відаць, вялікае няма, на вёсках-жа забясьпечанасьць работнікамі значна вышэй. Гэтыя лічбы, узятыя з падатковых сьпісаў і напэўна, зьяўляюцца павялічанымі пры вылічэньні мясцовымі органамі наяўнага труда.

**Землякарыстаньне.** Разьмеркаваньне с.-г. ужыткаў і забясьпечанасьць сярэдняга двара гэтымі ўжыткамі ў дзесяц. па Пухавіцкаму раёну па дадзеных перапісу 1917 г. наступнае:

*Табліца № 8.*

| | Лік гаспадарак | Сядзібы | Пахаць | Сенажаць | Лес | Выпас | Усяго ўдобіцы | Не разьмеркаванае | Няўдобіцы | Усяго зямлі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Па раёну . . . | 7151 | 2047 | 37400 | 21591 | 28520 | 5800 | 17665 | 2304 | 21440 | 119106 |
| На гаспадарку . | — | 0,28 | 5,32 | 3,02 | 3,96 | 0,82 | 13,4 | 0,3 | 2,9 | 16,6 |

Па падатковых дадзеных, якія сабраны намі па прылягаючым да балотнага масыву 1844 гаспадарках забясьпечанасьць сена-пахацьцю значна меншая.

| | | |
|---|---|---|
| Па хутарох і пасёлках | пахаці—3,2— | сенажаці—2,2 |
| На вёсках | „ —2,8— | „ —2,0 |

Такая нізкая забясьпечанасьць гаспадарак сена-пахацьцю тлумачыцца няпоўным вучотам с.-г. плошчы пры вылічэньні аб'ектаў абкладаньня на 20—25 проц., што выяўлена пры параўнаньні бюджэтных дадзеных і падатковых па адных і тых-жа гаспадарках, аб чым казалася вышэй.

Акрамя таго, мы бачым, што хутарскія і пасялковыя гаспадаркі на некалькі больш забясьпечаны сена-пахацьцю і што дыфэрэнцыяцыя празпалосных гаспадарак выражана больш рэзка, чым у хутарскіх і пасялковых, што відаць з наступнае табліцы.

*Табліца № 9.*

Забясьпечанасьць сена-пахацьцю 1 гаспадаркі па групах і формах землякарыстаньня:

| Форма землякарыстаньня | Пахаці | | | | Сенажаці | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | II | III | Сярэдняя | I | II | III | Сярэдняя |
| Хутары і пасёлкі . . . . . | 1,80 | 2,9 | 5,9 | 3,2 | 1,49 | 2,4 | 4,38 | 2,2 |
| Празпалосіца . . . . . . | 1,3 | 2,7 | 5,5 | 2,8 | 1,19 | 2,0 | 3,6 | 2,0 |

Забясьпечанасьць аднае душы пахацьцю і сенажацьцю па формах землякарыстаньня таксама розная.

| | | Дзесяцін: Пахаці | Дзесяцін: Сенажаці |
|---|---|---|---|
| Дадзеныя дасьледаваньня. | Па хутарох і пасёлках на 1 душу . . . | 0,63 | 0,47 |
| | Па вёсках „ „ „ . . . | 0,49 | 0,36 |
| Дадзеныя ЦСК за 1917 г. па раёну на 1 душу . . . . . . | | 1,00 | 0,58 |

Такім чынам, калі нават лічыць, што ў падатковых дадзеных асноўныя с.-г. ўжыткі не даўлічаны на 20—25 проц., дык і тады забясьпечанасьць дасьледаваных намі гаспадарак пахацьцю і сенажацьцю значна ніжэй, чым сярэдняя забясьпечанасьці па раёну.

Па пасялённых бланках, па дасьледаваных гаспадарках агульная колькасьць зямлі на адзін двор 14 дзесяцін. З іх няўдобіцы, пяскоў і мохавых балот 35 проц., балотных сенажацей—26 проц., балотнага выпасу—17 проц. і толькі 22 проц. пахаці.

Такім чынам, ня гледзячы на наяўнасьць лішкаў зямлі, дзякуючы вялікаму проценту няўдобнае зямлі, па цэламу шэрагу вёсак адчуваецца зямельны голад, які магчыма зьнішчыць шляхам уцягваньня ў культуру маючыхся балот у сувязі з правядзеньнем земляўпарадкаваньня.

**Жывёлагадоўля.** Забясьпечанасьць сярэдняга сялянскага двара па вясеньнему апытаньню за 1927 г. жывёлай наступнае:

*Табліца № 10.*

| | Коняй | | | Буйнай рагатай жывёлы | | | | Авечак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Рабочых | Маладняку | Усяго | Валоў і бугаёў | Кароў | Маладняку | Усяго | |
| Па акрузе | 0,94 | 0,33 | 1,27 | 0,03 | 1,65 | 0,95 | 2,63 | 3,20 |
| Па раёну | 1,03 | 0,18 | 1,21 | 0,02 | 1,75 | 0,66 | 2,43 | 3,72 |
| Па абсьледаваных гасп. | | | | | | | | |
| Хутары і пасёлкі | 0,89 | 0,20 | 1,09 | — | 2,16 | 0,90 | 3,06 | — |
| Празпалосіца | 0,86 | 0,20 | 1,06 | — | 2,20 | 0,80 | 3,00 | — |

З табліцы відаць, што дасьледаваны намі раён шмат лепей забясьпечаны рагатай жывёлай наогул і ў асаблівасьці каровамі, чым сярэдняя гаспадарка па раёне, ці па акрузе. Што-ж датычыцца забясьпечанасьці коньмі, дык тут назіраецца адваротнае. Сярэдняя гаспадарка па акрузе і ў асаблівасьці па адміністрацыйнаму раёну—коньмі лепш забясьпечана, чым сярэдняя гаспадарка па дасьледаванаму намі раёну. Паміж хутарскімі і празпалоснымі гаспадаркамі ў забясьпечанасьці жывёлай вялікае розьніцы не назіраецца. Забясьпечанасьць каровамі па празпалосных гаспадарках як быццам вышэй, чым па хутарскіх, але калі ўзяць кароў на 100 душ насельніцтва, дык становішча мяняецца. Па хутарох і пасёлках на 100 душ насельніцтва прыходзіцца 42,3 каровы, у той час як на вёсках толькі—39,2 каровы. Забясьпечанасьць маладняком буйнае рагатае жывёлы, рабочымі коньмі—па хутарох і пасёлках большая, чым па вёсках.

Колькасьць жывёлы, якая прыходзіцца на адзінку плошчы сенажацяў, а таксама і сена-пахаці па празпалосных гаспадарках значна большая, чым па хутарскіх і пасялковых гаспадарках.

На 100 дзесяцін сенажаці прыходзіцца жывёлы.

*Табліца. № 11.*

| Назва жывёлы | Хутары і пасёлкі | | | | Празпалосіца | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | II | III | Сярэдняя | I | II | III | Сярэдняя |
| Кароў | 114,1 | 95,7 | 67,1 | 98,1 | 122,6 | 120,0 | 96,3 | 110,0 |
| Малад. буйнай раг. жывёлы | 47,0 | 31,6 | 43,1 | 41,0 | 41,8 | 45,0 | 36,3 | 40,0 |
| Коняй рабочых | 43,0 | 37,9 | 28,7 | 40,4 | 51,7 | 45,5 | 32,5 | 43,0 |
| Коняй маладняку | 10,0 | 8,3 | 8,4 | 9,1 | 9,2 | 10,5 | 9,7 | 10,0 |

Колькасьць жывёлы, якая прыходзіцца на 100 дзесяц. сенажацяў па адміністрацыйнаму раёну, значна меншая, чым па дасьледаванай намі яго частцы, а менавіта,—коні рабочыя—34,1 проц., коні-маладняк—6, каровы—58, маладняк буйнай рагатай жывёлы—21,5 проц. Мы бачым, што толькі маладняка буйнае рагатае жывёлы па дасьледаванаму намі раёну менш, чым сярэдняе па адміністрацыйнаму раёну.

**Кармовае пытаньне.** Па дадзеных статбюро, выдатак корму на працягу зімовага ўтрыманьня па Пухавіцкаму раёну па розных відах на 1 галаву жывёлы ў пудох наступны:

*Табліца № 12.*

| Назва жывёлы | Канюшына і цімафейка | Сена вікавае | Сена прыроднае сенажаці | Салома жытняя | Салома ячменная | Мякіна | Авёс | Ячмень | Іншю. збожжа | Мука аржаная | Іншю. мука | Вотрубі | Макуха | Бульба | Буракі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Коні раб. . . | 24,5 | 7,5 | 88,5 | 9,1 | 6,5 | 3,7 | 11.6 | 0,5 | 0,6 | 1,4 | 2,0 | 1,5 | — | 11,9 | 0.3 |
| Малад. старэй 1 году. . . | 13,5 | 4,2 | 52,5 | 6,7 | 6,0 | 2,2 | 6,8 | 0,4 | 0,8 | 1,9 | 2,4 | 0.9 | 0,1 | 7,2 | 0,1 |
| Каровы . . . | 1,1 | 0,3 | 36,5 | 27.5 | 27,9 | 8.2 | 0,1 | — | — | 0,7 | 1,4 | 1,3 | 0,1 | 12,2 | 2,5 |
| Малад. старэй 1 году. . . | 0,7 | 0,9 | 21,2 | 12,4 | 16,0 | 4,9 | 0,1 | — | — | 0,3 | 1,0 | 0,5 | 0,1 | 7,7 | 1,7 |
| Цяляты . . . | 1,6 | 0.2 | 20,4 | 3,0 | 5,8 | 2,6 | 1,3 | — | 0,1 | 0,8 | 1,1 | 0,8 | 0,4 | 5,7 | 0,6 |
| Авечкі . . . | 0,4 | 0,1 | 13.5 | 0,9 | 1,0 | 0,4 | — | — | 0.1 | — | 0,1 | 0,1 | — | 1,7 | 0,5 |
| Свіньні . . . | — | — | — | — | — | 4,8 | 0.3 | — | 0.1 | 0,4 | 1,8 | 0,7 | — | 17,2 | 1,2 |

Паравёўшы гэтыя вялічыні ў кармовыя адзінкі, мы будзем мець колькасьць кармовых адзінак, якія скармліваюцца адной галаве рознае жывёлы, што выразіцца наступным чынам:

*Табліца № 13.*

| Назва жывёлы | Канюшына і цімафейка | Сена вікавае | Сена лугавое | Салома жытняя | Салома яравая | Мякіна | Авёс | Ячмень | Іншю. збожжа | Мука аржаная | Іншю мука | Вотрубі | Макуха | Бульба | Буракі | Разам кармовых адзінак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Коні раб. . . . | 392 | 120 | 1181 | 72 | 42 | 37,0 | 462 | 20 | 24 | 80 | 80 | 46 | — | 95 | 1,0 | 2662 |
| Малад. ст. 1 г. . | 216 | 66 | 700 | 53,6 | 48 | 20.2 | 272 | 16 | 32 | 108 | 96 | 27 | 3 | 57,6 | 0,3 | 1715.7 |
| Каровы. . . . | 17,6 | 5 | 487 | 220 | 223 | 82 | 4 | — | — | 40 | 56 | 40 | 3 | 97 | 8 | 1283 |
| Малад. ст. 1 г. . | 11 | 14 | 282 | 99 | 128 | 49 | 4 | — | — | 17 | 40 | 15 | 3 | 61 | 6 | 729 |
| Цяляты. . . . | 25,6 | 3 | 272 | 24 | 48 | 26 | 52 | — | 4 | 46 | 44 | 24 | 12 | 45,6 | 2 | 628,6 |
| Авечкі . . . . | 6,4 | 1,5 | 180 | 7,2 | 8 | 4 | — | — | 4 | — | 4 | 3 | — | 14 | 2 | 234 |
| Сьвіньні надворныя | — | — | — | — | — | 48 | 12 | — | 4 | 23 | 72 | 22 | — | 138 | 4 | 323 |
| Сьвіньні на ўбой. | — | -- | — | — | — | 35 | 88 | 36 | 40 | 100 | 292 | 24 | 3 | 236 | 5 | 859 |

Вылічыўшы па гэтых сярэдніх параённых нормах колькасьці неабходнага корму для наяўнае жывёлы на адну сярэднюю гаспадарку па вёсках (гл. дадатак табл. № 1) дасьледванага намі раёну—знаходзім, што яна раўна 7844 кармовым адзінкам.

Запас-жа кармоў па гэтых вёсках на адну гаспадарку можа быць выражаны ў такіх вылічэньнях.

| | | |
|---|---|---|
| 1) Сена з 2 дзес. балотнае сенажаці па 80 п. з дзесяціны 160 п. па 4 фунты на 1 кармов. адзінку | 1600 | карм. адз. |
| 2) Саломы яравое з 0,9 дзес. па 55 п. | 440 | „ „ |
| 3) „ азімае 50 п. (за вылічэньнем падсьцілкі) | 320 | п. |
| 4) Бульбы з адлічэньнем спажываньня: 120 пуд. | 960 | карм. адз. |
| 5) Авёс зерня—12 п. | 480 | „ „ |
| 6) Ячменю зерня—6 п. | 240 | „ „ |
| 7) Грэчкі „ —12,5 п. | 500 | „ „ |
| | 4540 | карм. адз. |

Такім чынам, нават пры існуючых сярэдніх параённых нормах, запасу кармоў, які атрымліваецца аднэй гаспадаркай дасьледаванага раёну—далёка недастаткова і складае толькі 57 проц. ад параённае нормы.

**Запас працы.** Забясьпечанасьць працоўнікамі аднае гаспадаркі, як мы ўжо бачылі вышэй, па хутарох 2,6, а па вёсках 4,5. Такім чынам, сярэднюю забясьпечанасьць сялянскага двара дарослымі працоўнікамі магчыма лічыць роўную 3-м адзінкам.

Калі лічыць летні пэрыод з 15 красавіка па 1 лістапада, г. зн. 6,5 месяцаў, на працягу якіх могуць праводзіцца мэліорацыйныя працы, дык запас рабочае сілы ў гэты час выразіцца ў 468 рабочых дзён, лічачы 24 рабочых дні ў месяц.

На ўсе бягучыя с.-г. працы за гэты пэрыод для сярэдняе гаспадаркі неабходна 380 рабочых дзён, такім чынам, застаецца вольнага працоўнага часу 80 рабочых дзён, якія магчыма скарыстаць на культуру балот.

## Бюджэты.

Бюджэты распрацоўваліся шляхам складаньня рахункаў, з мэтаю выяўленьня прыбытковасьці асобных галін гаспадаркі.

З параўнаньня сярэдніх вялічын па асноўных паказчыках, бяз розьніцы ў формах землякарыстаньня па бюджэтных дадзеных, з такімі-ж паказацелямі па падатковых дадзеных мы ўжо бачылі, што гэтыя вялічыні амаль-што саўпадаюць.

Пабачым цяпер, якая розьніца ў гэтых паказчыках па бюджэтах пры розных формах землякарыстаньня.

*Табліца № 14.*

| Паказчыкі | Хутары | | | Празпалосіца | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | II | III | I | II | III |
| Пахаці | 2,4 | 2,75 | 5,9 | 1,5 | 6,0 | 7,0 |
| Сенажаці | 2,0 | 3,5 | 7,5 | 1,0 | 2,0 | 6,0 |
| Сенапахаці | 4,4 | 6.25 | 13,4 | 2,5 | 8,0 | 13,0 |
| Коні | 1 | 1 | 2 | 1 | 1 | 1 |
| Кароў | 1 | 3 | 5 | 1,5 | 2,5 | 2 |
| Маладн. буйнай рагатай жывёлы | 1 | — | 3 | — | 1 | 2 |
| Авец | — | 4 | 6 | 1 | 3 | 3 |
| Сьвіньней | 2 | 3 | 4 | 1 | 3 | 2 |

Другая група празпалоснага землякарыстаньня фактычна мае пахатнае зямлі ня 6 дзесяцін, а 15—з якіх 13 дзес. зьяўляюцца запольнымі пяшчанымі землямі, якія засяваюцца праз 3—5 год і тым ня менш даюць ураджай у два разы ніжэй прысялібных зямель. Выходзячы з гаспадарчага іх скарыстоўваньня, мы ўмоўна прынялі іх роўнымі 4-м дзесяцінам—прысялібнае зямлі і, такім чынам, агульная колькасьць пахаці для гэтае гаспадаркі атрымалася 6 дзесяцін.

Нават, пры такім пералічваньні мы бачым, што дзьве апошнія групы празпалосіцы маюць больш пахаці на двор, чым хутары. Колькасьць сенажаці, якая прыходзіцца на адзін двор па вёсках—значна менш, чым на хутарох. Цалкам сенапахацьцю хутары лепш забясьпечаны, чым вёска. Акрамя таго і тут па вёскак мы можам назіраць значна большую дыфэрэнцыяцыю гаспадарак, чым па хутарох, дзе яна, дзякуючы земляўпарадкаваньню, у значнай меры зьнішчылася.

Забясьпечанасьць коньмі па хутарох большая, чым па вёсках, што магчыма назіраць па трэцьцяй групе. Таксама мы назіраем і па падатковых дадзеных, сярэднія па групах па хутарох—0,89, а па вёсках—0,86 коняй на гаспадарку.

Каровамі забясьпечаны лепш дзьве вышэйшыя групы хутароў, у той час, як ніжэйшая група лепш забясьпечана па вёсках. Большая кароўнасьць ніжэйшае групы вёскі можа тлумачыцца тым, што пры агульным выпасу гэтая група на працягу летняга пэрыоду адчувае недахоп выпасу ў аднолькавай меры з іншымі групамі, а пагэтаму можа трымаць жывёлы больш улетку, з тэй мэтаю, каб на зіму яе прадаць, што мы бачым па нашых анкетах.

Забясьпечанасьць хутарскіх гаспадарак сьвіньнямі вышэйшая, чым праспалосных.

**Забясьпечанасьць кармамі.**

Кармовае пытаньне ў дасьледаваным раёне знаходзіцца ня ў вельмі спрыяючых умовах, ня гледзячы на даволі добрыя суадносіны сенапахаці. Гэта тлумачыцца нізкай ураджайнасьцю сенажацяў, сярод якіх пераважваюць балотныя сенажаці, якія даюць ураджай з дзесяціны ад 60 да 100 пудоў асаковага дрэннага і маласпажыўнага сена.

У зьвязку з недахопам грубых кармоў, насельніцтва прымушана скармліваць даволі шмат збожжа і бульбы. Склад і запасы кармоў па дасьледаваных гаспадарках у пудох на адну гаспадарку прадстаўляюцца ў такім выглядзе:

*Табліца № 15.*

| Кармы | Хутары | | | Празпалосіца | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | II | III | I | II | III |
| Жыта | 4 | 28 | 12 | 2 | 12 | 19 |
| Авёс | 9 | 14 | 55 | 4 | — | 4 |
| Грэчка | — | — | 8 | — | 6 | 5 |
| Бульба | 60 | 300 | 528 | 18 | 138 | 214 |
| Салома роз. | 50 | 70 | 240 | 48 | 90 | 65 |
| Мякіна | 15 | 20 | 65 | 10 | 20 | 31 |
| Сена балотнае | 195 | 300 | 700 | 180 | 220 | 500 |
| Сена сухадольнае | — | 60 | 20 | — | — | — |

Вызначыўшы гэтыя вялічыні ў кармовых[1]) адзінках, атрымаем наступную таблічку № 16.

| Кармы | Хутары | | | Празпалосіца | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | II | III | I | II | III |
| Жыта . . . . . . . | 208 | 1456 | 624 | 104 | 624 | 988 |
| Авёс . . . . . . . | 360 | 560 | 2200 | 80 | — | 160 |
| Грэчка . . . . . . . | — | — | 320 | — | 240 | 200 |
| Бульба . . . . . . . | 480 | 2400 | 4224 | 144 | 1104 | 1712 |
| Салома роз. . . . . . . | 400 | 560 | 2080 | 384 | 720 | 512 |
| Мякіна . . . . . . . | 120 | 160 | 520 | 80 | 180 | 248 |
| Сена балот . . . . . . | 1950 | 3000 | 700 | 1800 | 2200 | 5000 |
| Сена сухад. . . . . . . | - | 800 | 266 | -- | — | — |
| | 3518 | 8936 | 10934 | 2592 | 5068 | 8828 |

З гэтае таблічкі мы бачым, што маючыйся запас кармоў на адну гаспадарку ў значнай ступені вар'іруе як па розных сацыяльна-эканамічных групах, так і па формах землякарыстаньня.

Акрамя таго, мы назіраем, што збожжавыя і бульба займаюць у рацыоне вялікае месца. Калі колькасьць кармовых адзінак, якая прыпадае на долю збожжавых і бульбы прадставіць у процантах ад усяго запасу кармоў, дык гэта выразіцца ў наступных вялічынях: хутары I—26; II—49; III—66; празпалосіца I—13; II—38; III—35; характарна, што %% гэтых кармоў расьце роўналежна павялічэньню магутнасьці гаспадаркі.

Калі мы зараз усю, якая маецца ў гаспадарцы, жывёлу (гл. табл. № 14. ст. 45) перавядзем у буйную рагатую жывёлу[2]) і вылічым запас наяўнага корму на адну галаву, дык атрымаем наступную забясьпечанасьць кармамі ў кармовых адзінках на галаву.

*Табліца № 17.*

| | Галоў жывёлы ў пераводзе на буйную | | | Кармовых адзінак на галаву буйнай раг. жывёлы. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | II | III | I | II | III |
| Хутары . . . . . | 3, 1 | 5,15 | 10,2 | 1133 | 1735 | 1072 |
| Празпалосіца . . . . | 2,85 | 5,04 | 4,8 | 910 | 1013 | 1880 |

[1]) Пры пераводзе кармоў на кармавыя адзінкі прыняты наступныя коэфіцыенты: сена балотнае—4 ф., сена судахольнае—3., жыта—0,7., авёс—1 ф., грэчка—1 ф., бульба—5 ф., салома—5 ф., мякіна—5 ф.

[2]) Пры пераводзе жывёлы прыняты коэфіцыенты ЦСК карова—1, конь—рабочы—1, жарабёнак старэй 1 г.—0,5, жарабёнак да 1 году—0,25, падцёлак старэй 1 году—0,5, цяляты—0,25, авечкі—0,1, сьвіньні—падсьвінкі—0,25.

Жывёла хутарскіх гаспадарак забясьпечана кармамі значна лепш, чым жывёла празпалосьнікаў, за выключэньнем трэцяй групы, дзе назіраецца адваротнае зьявішча. Пабачым зараз, якая-ж колькасьць кармоў неабходна для задавальненьня патрэб гаспадаркі пры наяўнасьці тэй жывёлы, якая маецца.

Патрабуецца кармовых адзінак на наяўную жывёлу:

*Табліца 18.*

| Назва жывёлы | Хутары | | | Празпалосіца | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | II | III | I | II | III |
| Для кароў у 16 п. жывой вагі на падтрымліваючы корм у выглядзе грубых кармоў на 1 галаву—6,5 карм. адз., на прадукцыю малака—канцэнтраваных кармоў—2 карм. адзінкі, на цельнасьці 0,5 карм. адз. у дзень—9 карм. адз., а на 6 месяцаў . . | 1785 | 5345 | 8925 | 2667 | 4462 | 3570 |
| Для коняй, лічучы на каня 30 ф. сена ў дзень на 160 дзён, па 1 фунт. аўса на ўвесь год, атрымліваецца гадавы выдатак на сена 120 пуд., аўса—10 пудоў . . . . | 1600 | 1600 | 2200 | 1600 | 1600 | 1600 |
| Для падрастаючага маладняка буйнай рагатай жывёлы . . . . . . | 800 | — | 2400 | — | 800 | 1600 |
| На адну сьвіньню пры вазе ў 3 пуды—810 карм. адз. . . . . . . | 1620 | 2430 | 3240 | 810 | 2430 | 1620 |
| Для авец па 20 п. сена на галаву . . | — | 1080 | 1620 | 270 | 810 | 810 |
| | 5805 | 10455 | 19385 | 5347 | 10102 | 9200 |

Параўнаючы гэтыя дзьве táблічкі—колькасьць маючагася корму і неабходнага, мы бачым, што толькі трэцяя група празпалосных гаспадарак па забясьпечаньню кармамі набліжаецца да нормы. Уся рэшта гаспадарак адчувае недахоп кармоў, пры чым найбольш гостра адчуваецца па 1-ай і 2-ой групах празпалосных гаспадарак.

Калі прыняць патрэбную колькасьць кармоў за 100, дык задаволенасьць у кармох гаспадарак па групах і формах землякарыстаньня атрымаецца наступная:

Па хутарох—I—60; II—85; III—56. Празпалосіца—I—48; II—50; III—94.

Гэты недахоп кармоў, дасягаючы на вёсцы ў ніжэйшых групах 50 проц., папаўняецца часткова купляю іх на старане, пры чым вёска купляе, галоўным чынам, грубыя, а хутары—концэнтраваныя кармы.

Але гэта купля не вырашае поўнасьцю кармовага пытаньня, і жывёла прымушана карміцца на працягу ўсяго зімняга часу ўпрогаладзь.

**Чысты прыбытак гаспадаркі.**

Для выяўленьня чыстага прыбытку гаспадаркі, намі вылічан прыбытак розных яго галін, пры чым у лік выдаткаў уключаны ўсе бягучыя с.-г. выдаткі і амартызацыя інвэнтару і будынкаў. Гадавая каштоўнасьць рабочага дню

ўзята па мясцовай цане яго—80 кап. Пры такой аплаце рабочае сілы чысты прыбытак па галінах гаспадаркі атрымліваецца наступны:

*Табл. № 19.*

Прыбытак (+), ці страты (—) на 1 гаспадарку.

| Галіны гаспадаркі | Хутары і пасёлкі | | | Празпалосіца | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | II | III | I | II | III |
| Паляводзтва . . | —2,43 | +35,31 | +175,11 | —39,04 | — 8,96 | +62,70 |
| Гародніцтва . . . | —2,32 | +35,72 | +31,3 | — 0,40 | —2,75 | —7,20 |
| Садоўніцтва . . | — | + 7,20 | — | +6,12 | — | +8,0 |
| Лугаводзтва . . | +77,65 | +102,71 | +224,53 | +15,07 | +30,15 | +132,22 |
| Усяго ад земляробства . | +72,9 | +180,9 | +430,9 | —18,27 | +18,44 | +195,72 |
| Буйная рагатая жывёла. | +22,43 | +23,4 | +227,34 | +13,75 | +39,9 | —50,75 |
| Аўцаводзтва . . | — | —18,33 | —30,28 | —4,72 | —0,4 | —20,31 |
| Сьвінагадоўля . . | —57,48 | —6,37 | +7,95 | +5,67 | —20,45 | —90,45 |
| Птушніцтва . . . | — | —2,77 | +9,9 | — | +2,19 | +0,38 |
| Пчалярства . . . | — | — | +3,6 | — | — | +2,6 |
| Усяго ад жывёлагадоўлі | —35,00 | —4,07 | +218,51 | +14,70 | +21,24 | —158,53 |
| Зьмены ў капіталах . | +2,90 | +1,62 | —5,40 | —5,7 | — | +70,5 |
| Усяго ад гаспадаркі . | +40,8 | +178,49 | +644,05 | —9,27 | +42,84 | +108,22 |
| Вылічым падаткі і страхоўку . . . | — | 34 | 34 | 6 | 4 | 12,9 |
| Чысты прыбытак . | +40,8 | +144,49 | +610,05 | --15,27 | +78,52 | +95,32 |

Тратнасьць паляводзтва па першых двух групах гаспадарак і нізкая прыбытковасьць III групы пры празпалоснай форме землякарыстаньня тлумачыцца нізкай ураджайнасьцю палявых культур. Сярэдні ўраджай на вёсках магчыма лічыць для жыта 35—40 пуд., аўса—40 п. грэчкі—20 пуд. і бульбы 600 пуд. Па хутарох і пасёлках для жыта—50 п., аўса—40—45 пуд., грэчкі—25 пуд. і бульбы 700 пуд. Нізкая ўраджайнасьць па ня земляўпарадкаваных вёсках тлумачыцца па першае тым, што палі, якія знаходзяцца далёка ня ўгнойваюцца, тады як яны патрабуюць добрае запраўкі глебы і што апрацоўка тут вядзецца самая прымітыўная. Амаль што нідзе ня прымяняецца дваеньне і нават больш таго, селянін выехаўшы ў поле прагнецца, каб у адзін дзень успахаць і засеяць сваю палоску, каб за 8—10 вёрст ня ехаць паўторна.

Па другое на хутарох некалькі больш зьвязаная глеба, што не магло не адбіцца на вялічыне ўраджайнасьці.

Стратнасьць гародніцтва тлумачыцца нізкай яго організацыяй, кепская і несваечасовая апрацоўка, недастатковы догляд, вялікае зарастаньне сьметнікамі і г. д.

Нізкая прыбытковасьць лугаводзтва празпалосьнікаў залежыць ад нізкае ўраджайнасьці лугу, якая тлумачыцца позьняй пазьбой жывёлы, дрэнным доглядам за сенажацямі, а таксама і раскіданнасьцю розных палосак і значнай адлегласьці ад сялібы, дзякуючы чаму патрабуецца больш працоўнага часу.

Здаецца некалькі незразумела, што па трэцьцяй групе пры празпалосным землекарыстаньні буйная рагатая жывёла дае страту, у той час, як усюды яна дае прыбытак. Гэта вынік—вельмі нізкае ўдойлівасьці жывёлы з гадоўляй яе ў данай гаспадарцы на мяса, што ў нашых умовах не карысна.

Аўцаводзтва носіць чыста спажывецхі характар і па ўсіх групах гаспадарак стратнае, дзякуючы нізкай прадукцыйнасьці мясцовых авечак.

Сьвінагадоўля толькі па другой групе хутарскіх гаспадарак носіць больш-менш выяўлены характар таварнае гаспадаркі з гадоўляў сьвіней на адкорм.

Па ўсёй рэштцы гаспадарак, яно калі ня зусім спажывецкае, дык галоўнае яго прызначэньне задавальненьне патрэб сям'і.

У агуле ад усяе гаспадаркі прыбытковасьць розная, ня толькі па розных сацыяльна-эканамічных групах, але і пры розных формах землекарыстаньня.

Па хутарскіх гаспадарках, па ўсіх групах у рознай ступені, маюцца некаторыя накапленьні, у той час калі па вёсках накапленьні маюцца толькі па двох вышэйшых групах і накапленьні гэтыя значна меншыя ня гледзячы на тое, што сенапашні тут некалькі больш.

Адносячы чысты прыбытак гаспадарак на адну дзесяціну сенапашні знаходзім, што прыбытковасьць гэта ў вялікай ступені розьніцца ў залежнасьці ад формы землекарыстаньня і разьмераў гаспадаркі.

*Табліца № 20*

Чыстая прыбытковасьць у рублёх на дзесяціну сенапашні.

| Форма землекарыстаньня | Групы | | |
|---|---|---|---|
| | I | II | III |
| Хутары . . . . | 9,3 | 23,0 | 44,0 |
| Празпалосіца . . . | —6,0 | 9,8 | 7,3 |

З гэтае таблічкі мы бачым, што гаспадаркі першае групы пры празпалоснай форме землекарыстаньня бязумоўна нежыцьцяздольны, бо яны ня толькі ня прыносяць чыстага прыбытку, але нават стратны і прымушаны зьністожваць свае асноўныя капіталы, ці каб не памерці шукаць заробку па замежамі гаспадарак.

Бязумоўна што для забясьпечаньня існаваньня сям'і, гаспадаркі гэтыя павінны выкідаць свае рабочыя рукі у заробкі замежы гаспадаркі, пры чым выкідаць тым больш, чым менш прыбытковасьць свае гаспадаркі.

*Табл. № 21.*

Прыбытак гаспадаркі па групах.

| | Хутары | | | Празпалосіца | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | II | III | I | II | III |
| Прыбытак ад свае гаспадаркі | +40,8 | 144,49 | 610,0 | —15,27 | 78,52 | 95,32 |
| Ад заробкаў | 19,55 | 10,00 | 40,00 | 195,25 | 130,00 | 93,00 |

З гэтае таблічкі мы бачым, што пры празпалоснай форме землекарыстаньня існуе правідловая адваротная ўзаемазалежнасьць паміж прыбытковасьцю гаспадаркі і заробкамі, г. зн. чым менш прыбытковасьць гаспадаркі, тым больш заробкаў.

Што-ж датычыцца хутарскіх гаспадарак, дык тут некалькі высоўваецца апошняя група. Гэта, як відаць, у значнай меры залежыць ад таго, што гэта гаспадарка лепш забясьпечана рабочымі коньмі і больш зарабляе ізвозам.

**Умоўна чысты прыбытак гаспадаркі.**

Разгледзім зараз умоўна чысты прыбытак, г. зн. прыбытак без аплаты працы. Гэта мае свае значэньне таму, што пры маючымся лішку працы ва ўмовах нашае гаспадаркі, селянін ня прывык лічыць аплату працы па рыначнае яе каштоўнасьці, а таму і аплата яе ня столькі важная, як агульныя паступленьні гаспадаркі.

*Табл. № 22.*

Умоўна чысты прыбытак на 1 гаспадарку.

| Галіны гаспадаркі | Хутары | | | Празпалосіца | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | II | III | I | II | III |
| Паляводзтва | 71,49 | 145,31 | 365.11 | 29,05 | 94,32 | 180,22 |
| Гародніцтва | 5,80 | 33,40 | 43,62 | 5,26 | 8,45 | 2,5 |
| Садоўніцтва | — | 7,20 | — | 6,80 | — | 8,0 |
| Лугаводзтва | 94.45 | 137,75 | 286,93 | 27,23 | 6,55 | 186,82 |
| | 171,74 | 323,16 | 695,66 | 68,34 | 109,32 | 377,54 |
| Буйнае раг. жывёлы | 77,20 | 101,00 | 320,94 | 39,35 | 102,40 | 1,25 |
| Аўцаводзтва | — | —11,93 | —23,88 | —0,72 | 6,00 | —11,35 |
| Сьвінагадоўля | —11,40 | 62,75 | 77,07 | 26,33 | 23,35 | 32,85 |
| Птушніцтва | — | 3,63 | 14,70 | — | 5,39 | 6,78 |
| Пчалярства | — | — | 7,6 | — | — | 10,6 |
| Разам па жывёлагадоўлі | 65,80 | 155,45 | 396,43 | 64,96 | 137,14 | —25,5 |
| Усяго ад гаспадаркі | 237,54 | 479,11 | 1092,09 | 133,3 | 246,46 | 352,04 |

Умоўна чысты прыбытак, як відаць з табліцы, па хутарох значна вышэй чым на вёсках.

Калі ўмоўна чысты прыбытак разьмяркаваць па ядакам дык атрымаецца наступная таблічка.

*Табл. № 23.*

Умоўна чысты прыбытак на 1 поўнага ядака.

| | Групы гаспадарак. | | |
|---|---|---|---|
| | I | II | III |
| Хутары . . . . . . | 137 | 203 | 216 |
| Вёскі . . . . . . | 24 | 123 | 60,4 |

Мы бачым, што вёска прымушана галадаць і адно яе спасеньне— гэта заробкі.

Калі вылічыць на аднаго ядака валавы прыбытак сумесна з заробкамі, дык атрымаем наступныя вялічыні:

*Табл. № 24.*

| | Групы гаспадарак | | |
|---|---|---|---|
| | I | II | III |
| Хутары . . . . . . | 144,4 | 207,0 | 224,8 |
| Вёскі . . . . . . | 63,0 | 188,0 | 81,0 |

Нават пры наяўнасьці заробкаў бюджэт празпалосьнікаў вельмі малы, як па абсалютнай сваёй вялічыні, таксама і ў адносінах да бюджэту хутараніна.

Паглядзім зараз затрату рабочых дзён на адзінку плошчы пасеву і сенажаці пры розных формах землекарыстаньня.

*Табл. № 25.*

Затрачана дзён на 1 дзесяціну.

| Землекарыстаньне | Засева | | | Сенажаці | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | II | III | I | II | III |
| Хутары . . . . . . | 56 | 54 | 42 | 10,5 | 12,5 | 10,2 |
| Празпалосіца . . . . | 35 | 58 | 30 | 15,2 | 19,0 | 11,1 |

Трэба было чакаць большае затраты рабочага часу пры празпалосным землекарыстаньні, дзе вялікі % часу марнуецца на пераезды і пераходы, але ў нас атрымалася адваротнае зьявішча.

Гэта тлумачыцца па першаму тым, што ў вёсцы глеба некалькі больш пяшчана—лепей паддаецца апрацоўцы, чым на хутарох, дзе яна некалькі больш зьвязная.

Па другое, па далёкай адлегласьці палос ад сялібы, а іх большасьць, ніколі ня робіцца другое ўзорваньне. І калі селянін выязджае ў поле, дык бярэ з сабой плуг, барану і насеньне і адначасова арэ, сеіць і тут-жа скародзіць. На хутарох-жа і пасёлках праводзіцца больш добрая апрацоўка глебы. З сенажацямі мыназіраем адваротнае зьявішча. Вёска больш затрачвае часу на дзесяціну, чым хутар і страчвае менавіта на праезды і пераходы. Тутака гэтая некарысная страта часу выяўляецца дзякуючы таму, што скараціць час за лік якасьці працы, як гэта робіцца на ворыве, не магчыма. Акрамя таго, па ніжэйшых групах працоўных дзён на дзесяціну плошчы затрачваецца значна больш, чым у вышэйшай, таксама-ж дзякуючы таму, што ў малых гаспадарках праезды і пераходы да месца працы складаюць куды большы процант ад працы затрачанае на вытворчасьць.

**Таварнасьць гаспадаркі.**

Таварнасьць гаспадарак у значнай ступені вар'іруе як па групах гаспадарак, так і па формах землекарыстаньня.

*Табл. № 26.*

Гаспадарка прадае на суму ў год прадуктаў.

| Землекарыстаньне | Земляробства | | | Жывёлагадоўля | | | Усяго ад гаспадаркі | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | II | III | I | II | III | I | II | III |
| Хутары . . . . . | 30,0 | 6,0 | 54,75 | 5,0 | 120,7 | 304,5 | 35,0 | 126,07 | 359,25 |
| Празпалосіца . . . . | 1,70 | 1,2 | — | 3,0 | 82,34 | 33,0 | 4,7 | 83,54 | 33,00 |

Хутары па ўсіх групах значную частку свае прадукцыі выкідваюць на рынак, у той час, як ніжэйшая група вёскі павінна купляць прадукты спажываньня, а вышэйшая група хоць і прадае частку свае прадукцыі, але значна меншую чым хутары.

Што-ж датычыцца куплі прадуктаў спажываньня, дык тутака малюнак зьмяняецца, вёска купляе значна больш, чым хутары.

*Табл. № 27.*

Гаспадарка купіла ў год прадуктаў на суму.

| Землекарыстаньне | Земляробства | | | Жывёлагадоўля | | | Усяго на гаспадарку | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | II | III | I | II | III | I | II | III |
| Хутары . . . . . | 3,9 | — | 12,00 | 4,5 | — | — | 8,4 | — | 12,0 |
| Празпалосіца . . . . | 50,1 | 52,0 | 4,55 | 9,42 | 30,0 | 25,0 | 59,52 | 82,0 | 29,55 |

Пры чым купляюць, галоўным чынам, ніжэйшыя групы, якія кормяцца, як мы ўжо адзначылі, заробкамі па замежамі гаспадаркі.

Чыстая прадажа, за вылічэньнем куплі прадуктаў па гэтых гаспадарках наступная:

*Табл. № 28.*

| | Земляробства | | | Жывёлагадоўля | | | Ад усяе гаспадаркі | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | II | III | I | II | III | I | II | III |
| Хутары . . . . . | 26,1 | 6,0 | 42,75 | 0,5 | 120,07 | 304,5 | 26,6 | 126,07 | 347,25 |
| Празпалосіца . . . . | —48,39 | —50,8 | —4,75 | —6,42 | 52,34 | 9,0 | —54,5 | 1,54 | 3,45 |

Мы бачым, што празпалосныя гаспадаркі амаль што поўнасьцю паядаюць сваю прадукцыю, а ніжэйшая група прымушана нават купляць, знаходзячы сродкі альбо ў заробках, альбо прадажай асноўных капіталаў—зьяўляючыся такім чынам „самаедзкімі гаспадаркамі“. Такія гаспадаркі ня могуць служыць базай для ўзмацненьня народнае гаспадаркі, бо яны ня толькі ня могуць карміць наш рынак, але нават самі патрабуюць гэтага кармленьня адкуль небудзь. Іх неабходна перабудаваць, а перабудаваць іх магчыма: 1) прывядзеньнем у парадак землекарыстаньня, пазбавіўшыся, такім чынам, ад вялікага зла гаспадаркі—далёкай адлегласьці зямель і раськіданасьці гэтых зямель вузкімі палоскамі і зьнішчыўшы існуючую дыфэрэнцыяцыю гаспадарак, а такім чынам і існуючых карлікавых бедняцкіх гаспадарак і 2) пашырэньнем землекарыстаньня за лік балот, прывёўшы іх у годную сельска-гаспадарчую плошчу.

## Вывады.

Выходзячы з сабраных і распрацаваных матэрыялаў, усю праробленаую працу па высьвятленьню магчымасьці ўтварэньня калёнізацыйнага фонду, у басэйне р. Талькі, магчыма зьвесьці да наступных вывадаў:

1. Праэктуемыя калёнізацыйныя гаспадаркі ў басэйне р. Талькі павінны будавацца на прынцыпу магчыма больш рэзка выражанай таварнасьці.

Толькі рэзка выражаны тып таварнае гаспадаркі пры існуючых эканамічных умовах дасьць магчымасьць рабіць неабходныя ўкладаньні ў справу мэліорацыі гэтых зямель. Стварэньне такога тыпу гаспадарак дыктуецца таксама цэлым шэрагам тэхнічных мяркаваньняў. На падставе прац Менскае Балотнае Станцыі на працягу 13 год выявілася, што збожжавая гаспадарка на нізінных і пераходных балотах не магчыма. Прадуцыраваньне некалькі год падрад збожжавых культур настолькі засьмечвае палі, што ўраджайнасьць іх падае штогодна (гл. Працы Балотнае Станцыі № 9).

Выходзячы з гэтых прадпасылак—як тэхнічных, так і эканамічных, мы нямінуча павінны прыйсьці да ўтварэньня гаспадарак прадуцыруючых, галоўным чынам, кармовыя травы і корань-клубняплоды. Нямінучасьць утварэньня такога тыпу гаспадарак падкрэсьліваецца таксама і сабранымі намі эканамічнымі матэрыяламі. У выніку аналізу становішча кармовага пытаньня акаляючых сялянскіх гаспадарак (гл. ст. 45) з гэтае працы выявілась, што ступень задавальненьня патрэб гаспадарак у кармох вельмі нізкая, складаючы толькі 57,0 проц. ад патрэбы. Стварэньне такога характара кармовае базы—пацягне за сабой арганізацыю прадукцыйнае жывёлагадоўлі, пры дапамозе якое ня рыначныя прадукты будуць тут-жа пераводзіцца ў экспартныя, якія лёгка могуць быць рэалізаваны на рынку.

Яку-ж прадукцыю павінна даваць організаваная тут жывёлагадоўля.

Прымаючы пад увагу, што існуючыя на нашым рынку цэны на мясныя прадукты ня высокія і вытворчасьць гэтых прадуктаў на Украіне і Сібіру, дзе гэтаму спрыяюць натуральныя ўмовы, значна таньней, у той час калі экспарт аднаго пуда мяса з Чэркаску, па праведзеных намі падліках, абыходзіцца каля 2,5 кап., адкорм рагатае жывёлы на мяса быў-бы зусім ня мэтазгодным.

Найбольш мэтазгодным пры сучаснай кон'юнктуры, як унутранага, так і замежнага рынку зьяўляецца малочная жывёлагадоўля, зьвязаная з коопэрацыйнай перапрацоўкай малака на экспартнае масла і сыры, на адкідах вытворчасьці масла і сыраў магчыма організаваць выпайку цялят і адкорм сьвіньней. Вось тыя асноўныя галіны на якіх павінны базавацца мяркуемыя да організацыі гаспадаркі.

2. Намеціўшы тып будучых гаспадарак, магчыма прыступіць да разьлікаў кошту асноўных затрат на мэліорацыю балотнае плошчы. Паколькі праектуемыя гаспадаркі павінны будуць прадуцыраваць такія культуры як карань і клубнеплоды, якія моцна рэагуюць на лішкі вільгаці, абсушаную сетку неабходна будаваць так, каб водны рэжым для гэтых культур быў адпавядаючым. Выходзячы з вопыту Балотнае Станцыі на нізінных і пераходных балотах, гэтых умоў магчыма дасягнуць пры адлегласьці паміж асушальнымі канавамі ў 40 мэт. што патрабуе затрат на 1 гэкт. 80—90 руб., а разам з магістралямі каля 100 руб. (гл. разьлікі на стар. 36 гэтае працы).

Абсушку мохавых балотах у мэтах лепшага іх праветрываньня, раскладзенасьці і цэлага шэрагу іншых тэхнічных мяркаваньнаў больш мэтазгодна праводзіць з дапамогаю зачыненага дрэнажу з адлегласьцямі дрэн у 20—30 мэтраў, на што патрабуецца разам з магістралямі 250 руб. на гэктар (гл. разьлікі стар. 36).

Акрамя дрэнажу пры мэліорацыі балот, у залежнасьці ад тыпаў іх неабходны і іншыя капітальныя затраты на пабудову мастоў, фрэзераваньне, апальваньне, унясеньне вапны, што разам з асушкаю складае на гэктар мохавых балот 485—505 руб., пераходных 180—305, нізінных—180—305 (гл. вышэй стар. 36 гэтае працы).

3. Акрамя асноўных затрат пры вядзеньні гаспадаркі, патрабуюцца штогодныя затраты, якія будуць складацца з плацяжоў па мэліорацыйнаму капіталу, па капіталу ў прыладах, затрат на ўгнаеньне, насеньне, засеў, догляд і ўборку ўраджаю.

Выходзячы з намечанага напрамку мяркуемых гаспадарак і зрабіўшы разьлікі для двух асноўных культур бульбы і траў, знаходзім, што штогодныя затраты пры культуры балот выяўляцца для мохавых балот у суме 240—252 руб., пераходных—212 руб., нізінных—195 руб., (гл. разьлікі працы Балотнай Станцыі № 12).

Для травяное мешанкі, маючы на ўвазе доўгатэрміновую мешанку, гэтыя затраты будуць некалькі іншыя, а менавіта для мохавых балот — 149 — 161 р., нізінных — 104 р., пераходных — 121 р. Гэтыя разьлікі зроблены на падставе прац Балотнае Станцыі зьмешчаных у № 12.

4. Прымаючы сярэдні ўраджай траў Менскае Балотнае Станцыі за апошнія 5 год яе працы, дадзеныя якіх яшчэ не надрукаваны для ўсіх тыпаў балот—350 руб., бульбы для нізінных балот—1.000 пуд., а для мохавых, грунтуючыся на дадзеных Брэменскай Дасьледчай Станцыі—1.200 пуд. знаходзім мэліорацыйную рэнту пры культуры бульбы з мохавага балота ад 105 да 117 руб., для пераходных і нізінных—ад 13 да 50 руб.

Пры культуры траў мэліорацыйная рэнта для мохавых балот ужо будзе хістацца ад 11 да 33 руб., для пераходных і нізінных ад 29—66 руб.

Норма рэнты вылічаная па формуле прынятай Тэхнічных Камітэтам НКЗБ для мохавых балот пры культуры бульбы—складае ад 20,7 да 24,1 руб., пры культуры траў—ад 2,8 да 4,6.

Для пераходнага і нізіннага—пры культуры бульбы ад 4,2 да 31,1 р., пры лугаводзтве—ад 9,5 да 34,4 руб.

Казаць аб тым, які будзе прыняты ў гэтых гаспадарках севазварот зараз мы не бярэмся, гэта ня ўваходзіць у нашы задачы, але трэба думаць, што галоўную ролю па плошчы будуць адыграваць травы. А паколькі гэта так, мы прыходзім да вываду, што мохавыя балоты, пры сучасных умовах не карысна ўцягваць у культуру для каленісцкіх мэтаў, бо пры страце вялікага капіталу на іх мэліорацыю яны рэнгуюцца нізка. Бязумоўна, пры рашэньні гэтага пытаньня акрамя неабходных грашовых затрат, прыдзецца мець на ўвазе і тую гастрату кармовага пытаньня, якая мае месца сярод акаляючага насельніцтва. Справа ў тым, што ў сялянскай гаспадарцы важны ня чысты прыбытак, ня рэнта, якая выводзіцца за вылічэньнем аплаты працоўных рух, а ўмоўна чысты прыбытак, бо пры наяўнасьці лішку працоўных рук селянін часта ў сваёй гаспадарцы ня можа лічыць аплату рабочага дню па рыначнай яе цане.

Інакш абстаіць справа з нізіннымі і пераходнымі балотамі. На падставе атрыманае намі нормы рэнты мы бачым, што гэтыя балоты рэнтуюцца даволі добра. А пагэтаму ўцягваньне ў культуру трэба пачынаць з нізінных і пераходных балот, устрымліваючыся пакуль што ад культуры мохавых балот.

5. На культуру дасьледаваных у басэйне р. Талькі 5.500 гэкт. нізінных і 12.700 гэкт. пераходных балот для паказаных вышэй мэтаў патрабуюцца наступныя страты асноўнага капіталу.

Абкругліўшы ўжо прынятую намі вялічыню затрат асноўнага капіталу на адзін гэктар нізінных балот—200 руб., на маючуюся плошчу ў 5.500 гэкт. патрабуецца капітал (5.500×200)—1.100.000 руб., на пераходныя балоты лічучы ў сярэднім па 260 руб. гэктар—патрабуецца (12.700×260)—3.202.000 рублёў. Усяго асноўных затрат патрабуецца 4.402.000 руб. З гэтае агульнае сумы асноўных затрат з дзяржаўных сродкаў павінна быць затрачана на пабудову водапрыемнікаў і магістраляў да 10% ці 440.000 руб.

Акрамя таго, Дзяржава павінна будзе затраціць на організацыю машыннае базы з лёгкіх конных прыладаў апрацоўкі і мэханічных рухавікоў суму ў разьмеры 42.000 р. (разьлікі гл. стар. 36 і 37 гэтае працы).

Іншыя асноўныя затраты па культуры павінны быць укладзены зацікаўленым насельніцтвам, прычым, большая частка іх каля 80 проц. павінны быць укладзены насельніцтвам у выглядзе працы і толькі рэшта сродкаў каля 20 проц. будуць выконвацца за лік крэдытных сродкаў. Такім чынам, калі прыняць тэрмін асваеньня нізінных і пераходных балот за 10 год, дык на працягу гэтага пэрыоду патрабуюцца штогодныя ўкладаньні асноўнага капіталу.

| | |
|---|---|
| 1) за кошт Дзяржавы . . . . . | 50.000 руб. |
| 2) за кошт крэдытных таварыстваў . . | 78.000 „ |
| 3) працы насельніцтва на . . . . | 312.000 „ |

Усе гэтыя затраты будуць пагашацца, калі насельніцтва будзе каапэравана і пяройдзе ад натуральнае да таварнае гаспадаркі і будзе ў дастатковай ступені абслугоўвацца агранамічным пэрсаналам.

# Рэзюмэ.

Праца па дасьледваньню балот у басэйне ракі Талькі, Пухавіцкага раёну, Менскае акругі выклікана тым, што у гэтым раёне меркавалася арганізацыя калёнізацыйнага фонду на балоце. Уся гэта праца распадалася на дзьве часткі:

1) На прыродна-гістарычнае дасьледваньне бэлот і 2) эканамічнае дасьледваньне гаспадарак, якія прылягаюць да балотнага масыву.

Першая частка—прыродна-гістарычнае дасьледваньне мела на мэце даць клясыфікацыю балот дасьледуемага раёну па іх батанічнаму складу (жывая расьлінасьць і торфаўтварыцелі), глебавым свойствам, ступені прыгоднасьці, а таксама і каштоўнасьці для культуры.

Дасьледваньне рабілася па таму пікетажу, які быў у натуры, прычым рабілася падрабязнае апісаньне стану паверхні балота, расьлінасьці, рабіліся бурэньні торфу з узяцьцем узораў яго пры вядомай градацыі, апісваліся свойства торфу у розных слаях, а таксама і падглебы; дасьледаваліся колькасна і якасна купья; рабілася ацэнка цяжкасьці раскарчоўкі дравеснай і хмызьняковай расьлінасьці, высьвятлялася гушчыня распалажэньня і глыбіня заляганьне дравесных рэштак у торфу.

Сабраныя узоры торфу у ляборатарыі былі дасьледаваны на батанічны склад і ступень раскладзенасьці.

Былі таксама дасьледаваны і прылягаючыя да балота палявыя землі, пры чым зроблена неабходная колькасьць шурфоў.

У выніку работы у дасьледаваным басэйне выяўлена тры тыпы балот:

*А. Мохавыя сфагнавыя, альбо верхавыя балоты* (*Hochmoore*), якія топографічна займаюць больш высокія вучасткі і такім чынам не заліваюцца рачнымі, а таксама і грунтовымі водамі, а харчуюцца выключна атмасфернымі водамі. Плошча гэтага тыпу балот займае 9.900 гэкт., што складае 35,2 проц. ад агульнае плошчы дасьледаваных балот.

Балоты гэтага тыпу на падставе моцнасьці разьвіцьця дравеснай расьлінасьці і ступені раскладзенасьці торфу, падзелены на пяць наступных падтыпаў:

I. Мокры, глыбокі тарфянік з моцным слоем торфу, які яшчэ не расклаўся і згінуўшай сасной.

II. Тыпічны сфагнавы тарфянік, які парос дробнай сасной ад 2-х да 4-х мэтраў вышыні.

III. Сфагнавы тарфянік з больш магутнай сасной і бярозай, якая спатыкаецца адзінічна. На глыбіне 0,5 мэтра ступень раскладзенасьці торфу сярэдняя.

IV. Маладыя сфагнавыя тарфянікі, якія утварыліся на пераходным балоце, з мохавым торфам, які яшчэ мала расклаўся, моцнасьцю ў 0,5 м. Сасна дасягае 6—8 мэтраў. Характэрна невялікая прымесь бярозы.

V. Абшары сфагнавых балот і невялікія мохавыя плашчадкі, з дробным сфагнавым торфам, які добра расклаўся і сасной да 10 мэтраў. Кой-няйдзе прымесь бярозы.

*В. Пераходныя балоты* складаюць другую групу балот басэйна ракі Талькі і займаюць 12.700 гэкт., альбо 45,2 проц. ад агульнай плошчы балот. Гэтыя балоты характарызуюцца больш моцным разьвіцьцём драўеснай расьлінасьці, а таксама большай разнастайнасьцю флоры махоў і кветкавых. Гэты тып балот падзелены на дзьве групы, якія рэзка адрозьніваюцца: у сваю чаргу распадаюцца на пяць падтыпаў па відавому складу драўеснай расьлінасьці і распаўсюджанасьці сфагнавых і гіпнавых махоў.

*І-я група.* Балоты, якія парасьлі сасновым і саснова-бярозавым лесам з буйна куп'яватай паверхняй, зацягнутай пераважна сфагнавымі махамі і большай прымесьсю нізкіх хмызьнякоў.

Сюды адносяцца наступныя падтыпы:

1) Балоты, паросшыя сасновым лесам сярэдняй гушчыні і разьвіцьця (6—8 мэтраў×12 сантым).

2) Балоты, паросшыя саснова-бярозавым лесам, але гіпновыя махамі пераважваюць над сфагновымі; вялікія вучасткі разнатраўя і менш хмызьнякоў.

*ІІ група.* Балоты, якія парасьлі драўеснай расьлінасьцю, большай часткаю з поўнай адсутнасьцю сасны, дробнакуп'істыя, сфагнум адзінічна падушкамі. Гэта група аб'яднае тры падтыпы:

3) Балоты, паросшыя бярозавым лесам. Паверхня зацягнута зялёнымі імхамі, з кветкавых пераважваюць асокі.

4) Балоты, паросшыя S. repens і B. humilis ад 0,5 да 1,5 мэтра вышынёй. З травяністай расьлінасьці пераважвае Calamagrostis lanceolata. У невялікай колькасьці прысутнічаюць зялёныя махі. Ступень раскладзенасьці меншая.

5) Балота з бярозавым лесам, які густа парос S. pentandra у выглядзе дрэў іх мызьняка. Сустракаецца прымесь алешніку. Травяністая расьлінасьць амаль што адсутнічае: рэдка зялёныя махі і разнатраўе. Ступень раскладзенасьці торфу найлепшая з балот пераходнага тыпу.

*С. Нізінныя балоты* прадстаўляюць трэцьцюю групу балот басэйна ракі Талькі, якія распаложаны у зоне вясеньніх рачных разьліваў. Агульная плошча іх складае 5.500 гэкт., альбо 19,7 проц. ад усіх дасьледаваных балот.

Па характару драўеснай і травяністай расьлінасьці, балоты гэтага тыпу распадаюцца на тры падтыпы.

1. Адкрытыя асаковыя балоты. Яны зьяўляюцца лепшымі сенажацямі з ураджайнасьцю каля 80 пуд. сена з гэктара, тады як на расчышчаных пераходных балотах зьбіраюць каля 50 пуд.

Паверхня зацягнута даволі рыхла зялёнымі махамі. З кветкавых пераважваюць асокі, менш Agrostis alba, Comorum polustre, Calla polustris і інш. З драўеснай расьлінасьці рэдка Calix repens, S. nigricans.

2. Балоты, якія густа парасьлі хмызьнякамі Populus tremula з прымесьсю Sallix pentandra, Bitula virrucosa. Рэдкая травяністая расьлінасьць Carex, Comarum polustre, Calamagrostis lanceolata і інш.

3. Балоты якія парасьлі альховым лесам, бярозавым з прымесьсю альхі больш 30-ці процантаў і альховым хмызьняком. Гэта самыя багатыя балоты Талькаўскага басэйну, з добра расклаўшымся торфам. Травяністая расьлінасьць большай часткаю не складае сплашнога пакрову, але вельмі рознастайна.

Ступень раскладзенасьці торфу у розных тыпаў і падтыпаў балот розная. Многія пераходныя і першы падтып нізінных балот маюць мала расклаўшыйся торф у паверхнасным слое.

На глыбіні 0,5 м. гэтыя балоты маюць часьцей за ўсё па пяцібальнай сыстэме адметкі 3 і 5, прычым з павялічэньнем глыбіні ступень расkладзенасьці павялічваецца.

Сфагнавыя балоты падтыпаў 1-га і 2-га да большай глыбіні маюць мала расклаўшыйся торф.

Другая частка работы—эканамічнае дасьледаваньне рабілася шляхам зьбіраньня паселёных налагавых дадзеных, запаўненьнем кароткіх паселёных блянкаў і абмяжованай колькасьцю бюджэтаў.

У выніку дасьледаваньня выяўлена значная стракатасьць раёну па ступені забясьпечанасьці зямлей, вялікія лішкі зямельнай плошчы па цэламу раду сяленій, вялікі процант нягожых зямель—пяскоў і балот агульная экстэнсіўнасьць і беднасьць гаспадарак, зьвязаная з жорстка, выражанай праспалосіцай.

# Резюме.


Работа по обследованию болот в бассейне реки Тальки в Пуховичском районе Минского округа вызвана тем, что в этом районе предположена организация колонизационного фонда на болоте. Вся работа распадались на две части:

1) Естественно-историческое исследование болот и 2) экономическое обследование хозяйств, прилегающих к болотному массиву.

Первая часть естественно-историческое исследование имела целью дать классафикацию болот обследуемого района по их ботаническому составу (живая растительность и торфообразователи), почвенным свойствам степени пригодности и ценности для культуры.

Исследование производилось по имеющемуся пикетажу, при чем делалось подробное описание состояния поверхности болота, растительности, производились бурения торфа с выемкой образцов торфа при определенной градации, описывались свойства торфа в разных слоях, а также подпочвы; исследовались качественно и количественно кочки; производилась оценка трудности раскорчевки древесной и кустарниковой растительности; выяснялось количество, густота расположения и глубина залегания древесных остатков в торфе.

В лаборатории собранные образцы торфа были исследованы на ботанический состав и степень разложения.

Были также обследованы прилегающие к болотам полевые земли, при чем сделано необходимое количество шурфов.

В результате работы в обследованном бассейне выявлено три типа болот:

*А. Моховые сфагновые, или верховые болота (Hochmoore),* занимающие топографически более высокие участки не подверженные действию речной или грунтовой воды и увлажняемые исключительно атмосферными водами.

Площадь этого типа болот занимает 9900 гектар, что составляет 35,2 проц. от общей площади исследованых болот.

Болота этого типа на основании мощности развития древесной растительности и степени разложения торфа, разделены на пять следующих подтипов.

I. Мокрый глубокий торфяник с мощным слоем не разложившегося торфа и погибшей сосной.

II. Типичный сфагновый торфяник, поросший сосной от 2-х до 4-х м.

III. Сфагновый торфяник с более мощной сосной и единично встречающейся березой.

На глубине 0,5 мет. средняя степень разложения торфа.

IV. Молодые сфагновые торфяники, образовавшиеся на погребенном переходном болоте слабо разложившимся моховым торфом мощностью в 0,5 м. Сосна достигает 6—8 м. Характерна небольшая примесь березы.

V. Окраины сфагновых болот и небольшие моховые площадки с хорошо разложившимся мелким сфагновым торфом и сосною до 10 м. Иногда небольшая примесь березы.

*В Переходные болота* составляют вторую группу болот бассейна реки Тальки и занимают 12.700 гкт. или 45,2 проц. общей площади болот. Характеризуются они более мощным развитием древесной растительности, а также большим разнообразием флоры мхов и цветковых. Этот тип болот разбит на две резко различные группы, распадающиеся в свою очередь на пять подтипов по видовому составу древесной растительности и распространенности сфагновых и гипновых мхов.

*I группа.* Болота, поросшие сосновым и соново-березовым лесом с крупно кочковатой поверхностью, затянутой преимущественно сфагновыми мхами и большой примесью низких кустарников.

Сюда относятся подгруппы 1) болота поросшие сосновым лесом средней густоты и развития (6-8 м.×4 вершка) 2) Болота поросшие сосново-березовым лесом, но гипновые мхи преобладают над сфагновыми, большие участки разнотравья и меньше кустарников.

*II группа.* Болота, поросшие древесной растительностью большей частью полным отсутствием сосны, мелко кочковатые, сфагнум единичными подушками. Эта группа заключает три подтипа: 3) Болота поросшие березовым лесом. Поверхность затянута зелеными мхами, из цветковых преобладает осока.

4) Болота поросшие S repens и B. humilis от 0,5 до 1,5 м. высотой. Из травянистой растительности преобладает Calamagroctis lanceolata. Небольшое присутствие зеленых мхов. Степень разложения меньше.

5) Болота с березовым лесом густо поросшим S. pentandra в виде деревьев и кустарника. Встречается примесь ольхи. Травянистая растительность почти отсутствует: редко зеленые мхи и разнотравье. Степень розложенности торфа наилучшая из болот переходного типа.

*С. Низинные болота* представляют третью группу болот бассейна р. Тальки и распологаются в зоне весенних речных разливов. Общая площадь их составляет 5.500 гкт. или 19,7 проц. от всех обследованных болот.

По характеру древесной и травяной растительности болота этого типа разделяются на три подчипа:

1. Открытые осоковые болота. Являются лучшими сенокосами с урожайностью около 80 п. сена с гект., тогда как на расчищенных территориях собирают около 50 пудов.

Поверхность затянута довольно рыхло зелеными мхами. Из цветковых преобладают осоки, меньше Agrostis alba, Comarum polustre, Calla polustis и друг. Из древесной растительности редко Calix repens S. nigricans.

2. Болота поросшие густо кустарником populus tremula с примесью Salicx pentandra, Betula vurucosa. Редкая травянистая растительность—Carex‘ы, comarum polustre, Calomagrostis lanceolatar и др.

3. Болота поросшие ольховым лесом, березовым с примесью ольхи более 30 проц. и ольховые кустарники. Это самые богатые болота Тальковского бассейна с хорошо разложившимся торфом.

Травянистая растительность большею частью не составляет сплошного покрова, но весьма разнообразна.

Степень разложенности у разных типов и даже подтипов болот разная. Многие переходные и первый подтип низинных болот имеют мало разложившегося торфа в поверхностном слое. На глубине 0,5 м. эти болота имеют чаще всего по пятибальной системе отметки 3 и 5, причем с увеличением глубины степень разложения чаще всего увеличивается.

Сфагновые болота подтипов 1 и 2-го несут мало разложившийся торф до большой глубины.

Вторая часть работы—экономическое обследование велось путем собирания поселенных налоговых данных, заполнением кратких поселенных бланков и ограниченным числом бюджетов.

В результате обследования выявлена значительная пестрота района по степени обеспеченности землей, большие избытки земельной площади по целому ряду селений, большой процент неудобных земель—песков и болот, общая экстенсивность и бедность хозяйств, связанная с жестко выраженной чересполосицей.

---

# Zusammenfassung.

Die Arbeiten zwecks Erforschung der Sümpfe im Tale des Flusses Talka, Kreis Puchowitschi, Bezirk Minsk, wurden unternommen, da in diesem Rayon die Organisation eines Kolonisationsfonds auf dem Moore in Erwägung gezogen wird.

Es wurde zweierlei Arbeit verrichtet:

1) Eine naturwissenschaftliche Erforschung der Moore und 2) eine ökonomische Prüfung der neben dem Moormassiv befindlichen Wirtschaften.

Die erste, die naturwissenschaftliche, Forschung bezweckte eine Klassifizierung der Moore des zuerfoschenden Bezirks nach deren botanischen Bestand (der lebenden Flora und den Torfbildnern), der Bodenbeschaffenheit und dem Grade ihres Werts und Tauglichkeit für eine eventuelle Nützung.

Die Forschungsarbeiten wurden nach der vorhandenen Piquetage betrieben. Die Beschaffenheit der Mooresoberfläche wurde ausführlich angemerkt, der Torf gebohrt und demselben nach einer gewissen Gradation Proben entnommen, auch die Eigenschaften des Torfs in den verschiedenen Schichten gleichwie dem Untergrund festgestellt. Die Torfhügel wurden betreffs Qualität und Quantität geprüft, die Schwierigkeiten einer Ausholzung der Bäume und Büsche erwogen und zugleich festgestellt in welchen Mengen, wie dicht und wie tief im Torf Holzreste vorvanden sind.

Die Torfproben prüfte man darauf im Laboratorium nach deren botanischem Bestand und dem Grade der Verwesung.

Zugleich wurde das neben den Mooren befindliche Ackerland besichtigt und dabei die erforderliche Anzahl von Schurfen gegraben.

Das Ergebnis der Arbeit zeigte, dass in dem erforschten Flusstale drei Arten von Mooren gefunden wurden:

*A. Hochmoore*, die topographisch höher gelegene Stellen einnehmen, nicht der Einwirkung des Fluss-und Bodenwassers unterworfen sind und ausschliesslich von atmosphärischen Wassern getränkt werden. Diese Moorart nimmt 9900 Hek. ein, was 35,2% der Gesamtfläche der geprüften Moore bildet.

Diese Art von Mooren teilen wir je nach der Stärke des sie bewachsenden Gehölzes und dem Verwesungsgrade des Torfs in folgende fünf Unterarten:

I) Nasser tiefer Moorboden mit einem mächtigen Lager unverwesten Torfs und abgestorbenen Kiefern.

II) Ein typischer Sphagnumtorfboden, bestanden mit 2 bis 4 jährigen Kiefern.

III) Ein Sphagnumtorfboden mit mächtigerem Kiefernwachstum und vereinzelt vorkommenden Birken.

In einer Tiefe von 0,5 m. findet man einen mittelmässigen Verwesungsgrad des Torfs.

IV) Junge Sphagnumtorflager, die sich über einem begrabenen Ubergangsmoor gebildet haben, miteinem schwach verwesten Moorstorf, 0,5 m. mächtig. Die Kiefern erreichen eine Höhe von 6—8 m. Eigentümlich ist eine geringe Beimischung von Birken.

V) Umgebungen von Sphagnummooren und kleine Moosflächen mit gut verwestem feinem Sphagnum torf und bis 10 m. hohen Kiefern. Zuweilen in geringer Zahl vorkommende Birken.

*B. Eine zweite* Art von Mooren im Tale des Flusses Talka bilden die Ubergangsmoore. Diese nehmen eine Fläche von 12700 Hek. ein, oder 45,2% der Gesamtfläche der Moore.

Sie wird charakterisiert durch einen stärkeren Gehölzwuchs und eine grössere Mannigfaltigkeit der Moos und Blütenflora.

Wir teilen diese zweite Art von Mooren in zwei scharf scheidende Gruppen ein, die ihrerseits in fünf Untergruppen zerfallen, je nach der Gehölzart und dem vorherrschenden Wachstum des Sphagnum oder des Hypnummooses.

*I Gruppe.* Mit Kiefernwald und Kiefern-Birkenwald bestandene Moore mit einer Grosstorfhügeloberfläche unter einer Decke vorzugsweise von Sphagnummoos und einer starken Unterbrechung durch niedriges Gebüsch.

Hierher gohören die Unterguppen:

1) Moore mit wachsendem Kiefernwald von mittelmässiger Dichtigkeit und Entwicklung (6—8 m×17,78 cm.)

2) Moore, bestanden mit einem Kiefern-Birkenwald, Hügelmoore sind über die Sphagnummoose vorherrschend, grosse Flächen bedeckt mit einer Gräsermischung und seltener vorkommendem Gesträuch.

*II Gruppe.* Moore mit wachsendem Gehölz meistenteils ganz ohne Kiefern, feinhügelig, das Sphagnum in einzelnen Kissen. Diese Gruppe enthält folgende 3 Untergruppen:

3) Moore mit wachsendem Birkenwald, die Oberfläche mit grünem Moos bedeckt, von der Samenpflanzen vorherrschend das Rietgras.

4) Moore bedeckt mit S. repens und B humilis von 0,5 bis 1,5 m. Höhe. Von krautartigen Pflanzen findet man vorzugsweise Calamagrostis lanceolata. In geringer Zahl sieht man grünes Moos. Der Verwesungsgrad ist niedriger.

5) Moore bestanden mit einem Birkenwald mit dicht wachsendem S. pentadra in Form von Gehölz und Unterholz. Es kommt eine Beimischung von Erlen vor. Krautartige Pflanzen sind fast gar nicht vorhanden, selten grüne Moose und verschiedene Gräser. Dem Verwesungsgrade des Torfs nach sind dies de besten von den Mooren der Übergangsart.

*C. Niedermoore bilden* die dritte Art der Moore im Tale der Talka und liegen in der Zone, die von dem im Frühling aus den Ufern tretenden Fluss bewässert wird. Deren Gesamtfläche ist 5500 Hek., oder 19,7% aller erforschten Moore.

Je nach dem Charakter des sie bedeckenden Gehölzes und den krautartigen Pflanzen teilen wir sie im 3 Unterarten ein:

1) Offene Rietgrasmoore. Dies sind die besten Wiesen mit einem Ertrag von ca 1300 kg. Heu vom Hektar, während man von einem ausgeholzten Übergansmoor eine Ertrag 819 kg. erzielt.

Auf der Oberfläche findet man ziemlich selten wachsendes grünes Moos, von Blütenpflanzen sieht man vorherrschend Rietgras, seltener Agrostis alba, Comarum polustre, Calla palustris u. a., von Gehölz selten Salix repens, S. nigricans.

2) Moore mit dicht wachsendem Strauch von Populus tremula, mit Salix pentandra und Betula verrucosa vermengt. Selten vorkommende krautartige Pflanzen—Carex, Comarum palustre, Calamagrostis lanceolata u. a.

2) Moore mit wachsendem Erlenwald, Birkenwäldern mit mehr als 30% Erlen durchmengt und Erlengebüsch. Dies sind die reichsten Moore längs dem Bette der Talka mit gut verwestem Torf.

Die krautartigen Pflanzen bilden meist keine dichte Decke und sind sehr verschiedenartig.

Der Verwesungsgrad ist bei den verschiedenen Moorarten und sogar Unterarten ein verschiedener. Viele Übergangsmoore und die erste Unterart der Niedermoore enthalten einem wenig verwersten Torf in der oberen Schicht. In einer Tiefe von 0,5 m. haben diese Moore meistens, wenn wir die Bewer-

tung nach dem Fünfzensursystem gebrauchen, den Zensus 3 und, wobei mit dem Eindringen tiefer sich der Verwesungsgrad vergrössert.

Sphagnummoore der Unterarten 1 und 2 enthalten einen wenig verwesten Torf bis zu einer grossen Tiefe hinein.

Die ökonomische Forschungsarbeit bestand darin, dass in den Siedelungen Material über die Besteuerung gesammelt wurde, in einer jeden Siedelung wurde ein kurzgefasster Fragebogen ausgefüllt und bei einer begrenzten Zahl derselben das Budjet beschrieben.

Das Ergebnis zeigte, dass die Bewohner dieses Bezirks verschieden mit Land versehen sind, dass in einer Reihe von Siedelungen Uberfluss an Land ist, dass ein grosses Procent des Bodens für eine Bearbeitung untauglich ist (Sand und Sumpf); man sah eine allgemeine Exstensivität und Armut der Wirtschaften, verbunden mit einem ausgesprochenen Ackerstreifenverteilungssystem.

---

Табл. № 1.

## ДА МАСАВЫХ

На адзін

| Групы гасп-і / Назва вёскі | Пахаці | | | | Сенажаці | | | | Кароў | | | | Маладн. буйн. раг. жыв. | | | | Коні | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | II | III | ср. | I | II | III | ср. | I | II | III | ср. | I | II | III | ср. | I | II |
| **Суцінскі** | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| В. Суціна | 1,11 | 2.66 | — | 1,81 | 1,19 | 2,50 | — | 1,77 | 1,35 | 2.69 | — | 1.94 | 0,35 | 0,91 | — | 0,61 | 0,61 | 0,80 |
| Ак Суціна | 1,19 | 2,88 | 5,65 | 2,8 | 1.42 | 2,52 | 5,4 | 3,55 | 1.7 | 2,73 | 4.14 | 2,56 | 0,29 | 1,58 | 1,90 | 1,22 | 0,56 | 1,11 |
| Баршчоўка | 1,08 | 2.99 | 5.20 | 2,86 | 1,20 | 1,74 | 2,32 | 1,75 | 2,0 | 2.77 | 2,6 | 2.48 | 0,41 | 1,66 | 1.8 | 1,29 | 0,43 | 1,33 |
| Крачкава | — | 3,21 | 7.16 | 4,4 | — | 1,92 | 2,66 | 2,35 | — | 2,71 | 5 | 3,4 | — | 1,85 | 3,0 | 2.2 | — | 1,14 |
| Стоўпішча | 1,51 | 3,13 | 5,0 | 2,39 | 0,82 | 2,4 | 2,0 | 1,53 | 2,12 | 2,50 | 4.0 | 2.4 | 1,25 | 1,33 | 2,0 | 1,35 | 0,5 | 0,83 |
| Сэрафім | 0,9 | — | — | 0,9 | 0,5 | — | — | 0.5 | 1,5 | - | — | 1.5 | — | — | — | — | 0.5 | — |
| Каменка | 1,52 | 3,22 | 6,33 | 2.67 | 2,02 | 2,72 | 3,0 | 2.42 | 1,9 | 2,0 | 3,33 | 2,0 | 0,43 | 0.41 | 0,7 | 0,45 | 0,76 | 0,91 |
| Руды | — | 2,26 | 3,40 | 2,89 | - | 1,16 | — | 1.16 | — | 2.28 | 2,22 | 2,24 | — | 0,86 | 0,66 | 0,8 | — | 1,14 |
| Старожка | — | 1,5 | — | 1,5 | — | 3,5 | — | 3,5 | — | 1,50 | — | 1,50 | — | 0,25 | — | 0.25 | — | 0,5 |
| Качэргі | 1,35 | 3,54 | 8,0 | 3.56 | 1,0 | 2,4 | 3.5 | 2.19 | 2.0 | 2,8 | 3,0 | 2,7 | — | 0.8 | 1,0 | 0,88 | — | 1,0 |
| Ст. Мацяевічы | 1,40 | 1,92 | 3,27 | 2,69 | 1.4 | 3.31 | — | 2,21 | 1.4 | 2,5 | — | 2.0 | 0,6 | 0,58 | — | 0.6 | 0.4 | 0,80 |
| Слабодка | 1,66 | 3,20 | — | 2.25 | 1,37 | 2,0 | — | 1,62 | 1.75 | 2.5 | — | 2.0 | 0,5 | 0,60 | — | 0,53 | 0.5 | 0.80 |
| Замена | 1,76 | 2,94 | — | — | 2,16 | 1,89 | 4,0 | — | 1,6 | 2,54 | 3,0 | — | 0,6 | 0.61 | — | — | 0,6 | 0.84 |
| | 1,30 | 2.85 | 4,81 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| **Жыцінскі** | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Крамок | 1,22 | 2,57 | 5,43 | 2,26 | 1,47 | 2,77 | 5,5 | 2,44 | 1.66 | 2,67 | 5,66 | 2,45 | 0,51 | 1,18 | 2,16 | 1.5 | 0,62 | 0,22 |
| Юравічы | 1,35 | 2,65 | 5,22 | 2.56 | 1,37 | 2.61 | 5.22 | 2.55 | 1.80 | 3.00 | 4.8 | 2.80 | 0,42 | 0.31 | 1.6 | 0.74 | 0,70 | 0.26 |
| | 1.26 | 2.6 | 5.30 | – | 1,44 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| **Кнорынскі** | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Клетна | 1.33 | 2,63 | 5,08 | 2,54 | 1,3 | 2,91 | 3,77 | 2,05 | 1,66 | 2.25 | 2,9 | 2,14 | 0,81 | 0,38 | 1.33 | 0,75 | 0,86 | 0,9 |
| Любячка | 0,98 | 2,59 | 5,65 | 2.57 | 1,27 | 2,10 | 3,30 | 2,24 | 1,80 | 2.25 | 3,5 | 2,31 | 0,60 | 0,86 | 0.86 | 0,71 | 0,64 | 0,88 |
| Амельна | 1,11 | 2,65 | 4,85 | 1,93 | 0,90 | 2,42 | 3,74 | 2,12 | 1,51 | 2,58 | 3,1 | 2,27 | 0,43 | 0,71 | 1,0 | 0,64 | 0,54 | 1.0 |
| | 1,13 | 2,63 | 5,20 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| **Гарэліцкі** | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Гарэлец | 0,88 | 2,86 | 5,47 | 3,63 | 1,35 | 1,85 | 3.22 | 2,23 | 2,1 | 2,4 | 3,16 | 2,75 | 0,5 | 0.8 | 1,5 | 1,03 | 0,5 | 0,7 |
| Пяшчанка | 0,87 | 2,58 | 6.24 | 2,82 | 1,72 | 1.9 | 6,0 | 2,50 | 1.50 | 2.8 | 5.0 | 2,95 | 0,8 | 1.0 | 1.6 | 1.12 | 0,5 | 1.1 |
| | 0,88 | 2,78 | 5,57 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| **Сенчанскі** | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Сенча | 1.30 | 3,08 | 6.11 | 2.9 | 0,4 | 0.73 | 2.2 | 0,92 | 1,15 | 1,30 | 2,6 | 1,51 | 0,46 | 0.6 | 0,9 | 0,65 | 0,58 | 0,88 |
| Клецішна | 0,96 | 3,22 | 6.36 | 3,23 | 0,4 | 1.0 | 1,89 | 1,12 | 1,2 | 1,9 | 3.2 | 2,07 | 0,36 | 0,7 | 0,7 | 0,65 | 0,5 | 0,85 |
| Запарэньне | 1,50 | 3,43 | 7.24 | 3,83 | 1,96 | 2.1 | 2,22 | 2.20 | 1,3 | 1,7 | 1,8 | 1,76 | 0.3 | 0,5 | 0.75 | 0,47 | 0,71 | 0,50 |
| Велень | 1,26 | 2.75 | 5.78 | 2,1 | 1.6 | 1,3 | 2,2 | 1,65 | 1,5 | 1.7 | 2.3 | 1,89 | 0,5 | 0,5 | 0.9 | 0,59 | 0,41 | 0.90 |
| Сярэдняе | 1,3 | 2,7 | 5,5 | 2,8 | 1,19 | 2,0 | 3,60 | 2,0 | 1,46 | 2,4 | 3,47 | 2,2 | 0,5 | 0,9 | 1,32 | 0,80 | 0,62 | 0,91 |

## МАТАР'ЯЛАЎ (Вёскі).

двор маецца

| раб. | | Коні да раб. узр. | | | | Сьвіней | | | | Едакоў | | | | Работнікаў | | | | Падаткаў | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| III | ср. | I | II | III | ср. | I | II | III | ср. | I | II | III | ср. | I | II | III | ср. | I | II | III | ср. |
| **сельсавет** | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| — | 0.67 | 0,04 | 0,1 | — | — | 0.50 | 0,9 | — | — | 4,70 | 6.17 | -- | — | 3.0 | 4,61 | — | — | 3,05 | 6.2 | — | — |
| 0,5 | 0.96 | — | 0,21 | 0,33 | — | 0,40 | 1,3 | 2,0 | — | 4,24 | 5,45 | 7,14 | — | 3,20 | 4,0 | 5,52 | — | 4,12 | 10.5 | — | — |
| 0,20 | 0.95 | 0,14 | 0,11 | — | — | 0,60 | 1,0 | 0,80 | — | 4,14 | 6,40 | 5,4 | — | 2,92 | 4,25 | 4,0 | — | 2,36 | 8,6 | — | — |
| 1,66 | 1,3 | — | — | 0,33 | — | — | 2 | 1,66 | — | — | 6,28 | 8,0 | — | — | 4,07 | 5,5 | — | — | 8,93 | 21,20 | — |
| 1,0 | 0,6 | — | 0,33 | — | — | 0,87 | 1,0 | 2,0 | — | 5.0 | 7,16 | 9,0 | — | 1,75 | 2,41 | 5.0 | — | 2,76 | 5.93 | 7,25 | — |
| — | 0.5 | — | — | — | — | 2,5 | — | — | 2,5 | 3,5 | — | — | 3,5 | 2,5 | — | — | 2,5 | 2,48 | — | — | 2.48 |
| 1.0 | 0,95 | — | 0,04 | 0,33 | — | 0,9 | 1,32 | 1,33 | — | 5,14 | 5,4 | 7,33 | — | 3,65 | 3,76 | 4,83 | — | 4,60 | 9,56 | 18,2 | — |
| 0,9 | 1,1 | — | 0,14 | 0,33 | — | — | 1.14 | 1,46 | — | — | 5,0 | 4,22 | — | — | 3,3 | 3,1 | — | — | 6,26 | 9,6 | — |
| — | 0,5 | — | 0,25 | — | — | — | 0,75 | — | — | — | 2,0 | — | — | — | 1,25 | — | — | — | 10,22 | — | — |
| 1,0 | 1.0 | — | 0,2 | — | — | — | 1,2 | 5.0 | — | 4,0 | 4,8 | 6,0 | — | 2.25 | 3,4 | 4,0 | — | 2,08 | 12,9 | 64,53 | — |
| — | 0,6 | 0,4 | 0,21 | — | — | 0,7 | 1,28 | — | — | 3,8 | 5,57 | — | — | 2,36 | 3,27 | — | — | 3,8 | 9,4 | — | — |
| — | 0,5 | 0,25 | 0,20 | — | — | 0,99 | 1,0 | — | — | 5,0 | 5,20 | — | — | 3.20 | 1,85 | -- | — | 2,83 | 6,4 | -- | — |
| 1,0 | — | — | 0,15 | 2,0 | — | 0,80 | 1,20 | 2,0 | — | 3,6 | 6,15 | 5,0 | — | 1.6 | 4.5 | 2,0 | — | 2,92 | 9,2 | 50,85 | — |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| **сельсавет** | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 1.33 | 0,76 | 0,13 | 0.84 | 0,33 | — | 0,57 | 1,24 | 2,33 | — | 4.17 | 6.0 | 8.8 | — | 1,90 | 2,54 | 3,88 | — | 3,00 | 7,5 | — | — |
| 1,6 | 0,95 | 0.11 | 0,96 | 0,2 | — | 0,80 | 1,10 | 2,0 | — | 4,0 | 4,4 | 9.0 | — | 1,8 | 2,29 | 3,1 | — | 2,88 | 9,1 | — | — |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| **сельсавет** | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 1,45 | 0.99 | 0,18 | 0,26 | 0,1 | — | 0,66 | 1.40 | 0,90 | — | 5,0 | 5,6 | 6,3 | — | 3,59 | 4,3 | 5,5 | — | 6,1 | 7,0 | — | — |
| 1,3 | 0.87 | 0,21 | 0,22 | — | — | 1,0 | 1.22 | 1,40 | — | 4.6 | 5,2 | 6,0 | — | 3.00 | 3,5 | 4.5 | — | 4,8 | 10,8 | — | — |
| 1,3 | 0,87 | 0,1 | 0,24 | 0.14 | — | 0,54 | 1.6 | 1,14 | — | 2.8 | 6,35 | 7.0 | — | 2.13 | 4,80 | 5,46 | — | 2,73 | 9.85 | — | — |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| **сельсавет** | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 1,1 | 0,84 | — | 0,20 | 0,2 | — | 0,66 | 0,7 | 1.1 | — | 4,5 | 5,0 | 6,1 | — | 2,79 | 3,5 | 4,4 | — | 3,30 | 8,6 | — | — |
| 1.4 | 1,03 | — | 0,3 | 0,6 | — | 0.66 | 1.4 | 1.0 | — | 4.5 | 6.5 | 5.4 | — | 3.21 | 4,3 | 4,3 | — | 1,80 | 6,1 | — | — |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| **сельсавет** | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 1,16 | 0,82 | 0,2 | 0,2 | 0.8 | — | 0,55 | 0,60 | 1.3 | — | 5.0 | 5,0 | 7,0 | — | 3,7 | 3,7 | 5,5 | — | 2,0 | 5,0 | — | — |
| 0,90 | 0,85 | 0,1 | 0,13 | 0,4 | — | 0,50 | 0,80 | 1,2 | — | 3,6 | 4,2 | 7,1 | — | 2.2 | 3,0 | 5,37 | — | 1,2 | 7,0 | — | — |
| 1,00 | 0,9 | 0,11 | 0,14 | 0,14 | — | 0,11 | 0,80 | 0,8 | — | 4.3 | 5,7 | 6,5 | — | 3,6 | 4,2 | 4,8 | — | 4,4 | 8,3 | — | — |
| 1,00 | 0,80 | 0,2 | 0,26 | 0,26 | — | 1,5 | 1,1 | 1,2 | — | 3,8 | 4,8 | 5,75 | — | 2,5 | 3,0 | 3,3 | — | 3,5 | 7,2 | — | — |
| 1,17 | 0,86 | 0,11 | 0,21 | 0,35 | 0,2 | 0,64 | 1,15 | 1,4 | 1,0 | 3.8 | 5,43 | 6,8 | 5,6 | 2,35 | 4,1 | 4.51 | 3.6 | 3,25 | 6,8 | 1.8 | 7.3 |

